Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 37 (4735) 20 верасня 2013 г.

## Пункцірам

✔ Падчас урачыстай цырымоніі ўручэння дзяржаўных узнагарод Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка адзначыў асаблівую ролю ў беларускім грамадстве дзеячаў культуры і мастацтва краіны. «Сёння ад вас у многім залежыць, які след застанецца ў духоўным жыцці Беларусі ад нашага пакалення, — пакалення, якое ўпершыню ў гісторыі пабудавала незалежную беларускую дзяржаву», — падкрэсліў Прэзідэнт. Узнагароды ўручаны вядомым асобам, творчасць якіх служыць культурнаму і духоўнаму ўдасканаленню народа, стварэнню станоўчага іміджу дзяржавы.

✔ Указам Прэзідэнта Беларусі зацверджаны парадак выплаты кіраўнікам і спецыялістам арганізацый навукі, адукацыі, аховы здароўя і культуры грантаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за ажыццяўленне прарыўных навуковых даследаванняў і наватарскіх праектаў, якія маюць асаблівае значэнне для рэалізацыі дзяржаўных праграм і найважнейшых напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. У кожнай галіне штогод можа прызначацца да 30 грантаў. Памер штомесячнай выплаты будзе роўны 25-кратнай тарыфнай стаўцы першага разраду.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў удзельнікаў Міжнароднай выстаўкі праваслаўных абразоў «Праваслаўны свет. Вобраз Хрыста ў іканаграфіі краін Усходняй Еўропы» з адкрыццём. «Знамянальна, што ў Нацыянальным мастацкім музеі ўпершыню сабраны шэдэўры іканапіснай спадчыны чатырох славянскіх дзяржаў, звязаных шматвяковай гісторыяй дружбы і добрасуседства, — Беларусі, Расіі, Украіны і Сербіі», — гаворыцца ў віншаванні. Унікальны міжнародны праект праходзіць у год святкавання 1025-годдзя Хрышчэння Русі і сведчыць пра непарыўнае духоўнае і культурнае адзінства нашых народаў.

✔ Указам Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Пуціна ордэнам Дружбы ўзнагароджаны Аляксандр Козак — генеральны дырэктар-мастацкі кіраўнік дзяржаўнай установы «Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь «Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы імя Ленінскага камсамола Беларусі». Узнагарода прысуджана «за вялікі ўклад ва ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва з Расійскай Федэрацыяй, развіццё навуковых і культурных сувязей», — гаворыцца ў тэксце ўказа.

✔ Дэлегацыя Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Арменія на чале з міністрам Арменам Ашацянам у межах афіцыйнага візіту ў нашу краіну наведала Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж». Там жа адбылася прэс-канферэнцыя адразу двух кіраўнікоў адукацыйных ведамстваў — міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Сяргея Маскевіча і яго армянскага калегі.

✔ Сёння ў Мастацкай галерэі Саюза мастакоў Літвы адкрываецца выстаўка работ сучасных беларускіх творцаў, якія жывуць у Літве. Гэтая падзея распачынае Дні культуры Беларусі ў Літве, якія працягнуцца да 1 снежня і стануць самымі маштабнымі за ўвесь час правядзення. Як адзначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Літве Уладзімір Дражын, з улікам пажаданняў жыхароў Літвы мерапрыемствы пройдуць у Вільнюсе, Клайпедзе, Каўнасе, Плунге, Вісагінасе, Марыямпале.

Падрыхтавала
Іна ЛАЗАРАВА




Фота Міхаіла Несцерава

**Кампазітар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесар Вячаслаў Кузняцоў — з нагоды прэм'еры нацыянальнага балета «Вітаўт»:**

*«Мяркуючы па рэакцыі гледачоў, спектакль спадабаўся. Я вельмі задаволены прыёмам, які атрымала прэм'ера, і ўвогуле тым, што нарэшце наша праца выйшла ў вялікі свет. Бязмерна ўдзячны пастановачнай групе балета "Вітаўт" і выдатным артыстам, якія зрабілі ўсё магчымае, каб у выніку атрымаўся такі моцны, хвалюючы, шматпланавы спектакль з адметнай харэаграфіяй Юрыя Траяна, цудоўным лібрэта Аляксея Дударава і Уладзіміра Рылаткі, яркім сцэнаграфічным рашэннем Эрнста Гейдэбрэхта і надзвычай тонкім прачытаннем партытуры дырыжорам Вячаславам Волічам».*

## Пытанне да творцы

# Што б вы хацелі пабачыць на айчыннай сцэне?



**Пятро Васючэнка, пісьменнік:**

— На сучаснай сцэне мне перадусім хочацца бачыць творы добрыя. А добрыя творы — гэта літаратурная класіка. Так, інсцэнізаваныя творы Караткевіча: «Дзікае паляванне караля Стаха», «Зямля пад белымі крыламі», «Ладдзя Роспачы». Не так даўно я хацеў бы, каб больш ставілі Андрэя Макаёнка і Кандрата Крапіву, але і іх неўміручыя п'есы пачалі з'яўляцца на сцэне. І ў той жа час ёсць такія рэчы, якія я хацеў бы пабачыць на сцэне XXI стагоддзя. Калі пералічыць такія творы, то іх не так і шмат, але яны ёсць. У 1923 годзе быў пастаўлены спектакль «Цар Максімільян» паводле беларускага народнага тэатра. Яго варта было б рэстаўраваць, напрыклад, у выглядзе музейнага спектакля. Не так даўно была пастаўлена п'еса паводле Францішкі Уршулі Радзівіл. Яе спадчыну можна яшчэ больш актыўна распрацоўваць. Апошнім часам шмат ставіцца Францішак Аляхновіч, і ўсё ж яго творчая спадчына распрацаваная слаба, як і драматургія Еўсігнея Міровіча, Васіля Шашалевіча, Леапольда Родзевіча. Незаслужана забытыя творы Уладзіслава Галубка.

А са сваіх п'ес я хацеў бы ўбачыць на сцэне тыя, якія яшчэ не мелі рэалізацыі: бурлескная п'еса «Хведар Набілкін — беларускі касінер», для дзяцей — «Кацярынка і Кэт», а таксама п'еса пра каханне Купалы «Паэт і дзяўчына», якая гучала толькі ў радыёэфіры.



**Аляксандр Мацяс, журналіст АНТ:**

— «Пана Тадэвуша», якога рыхтуе Мікалай Пінігін. Цікава паглядзець, як эпічная паэма стане нацыянальным спектаклем. Ды яшчэ з улікам поспеху экранізацыі паэмы Міцкевіча польскім рэжысёрам Анджэем Вайдам... Тым больш што Вайда ў экранізацыі 1999 года зрабіў сцэнарыстам менавіта Міцкевіча, не перараблючы тэкст. Вельмі цікава, як над гэтым папрацуе Сяргей Кавалёў, які будзе рабіць сцэнічную адаптацыю «Пана Тадэвуша». Пры тым, што арыгінальная мова твора — польская. І калі Вайда рабіў у першую чаргу ўхіл на польскі бок, то тут трэба будзе паказаць гістарычную Літву, паказаць тое, што адбывалася менавіта на нашых землях. Як гэта зробіць рэжысёр? І як будзе прачытаны твор?..



**Алена Папова, драматург:**

— Галоўнае, каб твор быў таленавіты, як і ўласна пастаноўка. У нашай краіне, такой невялікай, нельга замыкацца на сабе. Усё ж такі чалавек XXI стагоддзя мусіць быць адкрыты свету і супастаўляць сябе з гэтым светам. Асабіста я лічу, што фестывалі, якія ў нас бытуюць, робяць вельмі добрую справу. Той жа ТЕАРТ. Мы маем магчымасць пазнаёміцца з новымі імёнамі, пабачыць спектаклі вялікіх майстроў. Трэба і пераймаць замежны досвед, і ставіць новыя спектаклі. Так, патрэбна і тое, і другое. Трэба адукоўваць нашу тэатральную моладзь. Свет усё болей аб'ядноўваецца. Каласальныя магчымасці дае інтэрнэт. Там нават цэлыя спектаклі можна ўбачыць! Эфект, канечне, не той, а ўсё ж...

І ведаеце, па сутнасці, перанесці на сцэну можна што заўгодна. Калі паставіць такую задачу, прафесіянал можа адаптаваць да сцэны любы твор.

# Казкі для дзяцей і дарослых

Напярэдадні Дня бібліятэк у кніжніцы № 2 імя Н. К. Крупскай, што сёлета адзначае сваё 100-годдзе, прайшоў урок ведаў, прысвечаны тэме «Па жыцці з родным словам». Запрошаным госцем і настаўнікам на гэтым «уроку» стаў пісьменнік Генадзь Аўласенка. У межах імпрэзы адбылася аўтограф-сесія аўтара, а таксама прэзентацыя яго кнігі «Казкі дзядулі Дняпра», што не так даўно пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Вучнямі вядомага госця сталі другакласнікі гімназіі № 6 г. Мінска.

Фота Кастуся Дробава



Дзеці слухаюць казку.

Генадзь Аўласенка — настаўнік, пісьменнік, які з нядаўняга часу працуе ў часопісе «Маладосць». Трэба адзначыць, што чалавек ён вельмі цікавы і вясёлы. Як кажа сам творца, пісаць ён пачаў досыць позна (на першы верш натхніўся ў 30 гадоў), таму і цяпер лічыць сябе пачаткоўцам. Але тут з шаноўным аўтарам можна паспрачацца! Колькасць казак, апавяданняў і вершаў, якія ён напісаў, падказвае: пісьменнік хітруе, бо ён піша шмат і вельмі цікава. І дзецям, і дарослым.

Нягледзячы на тое, што сустрэча пазіцыянавалася як «урок», падчас яго правядзення былі парушаны амаль усе традыцыі і правілы. Але гэта ішло толькі на карысць кантакту пісьменніка і юных чытачоў. Генадзь Пятровіч расказваў гісторыі, загадваў загадкі, нават прачытаў гумарыстычную казку «Хто як зімуе» са сваёй новай кнігі.

«Казкі дзядулі Дняпра» — гэта зборнік казак, напісаных Генадзем Аўласенкам у розныя гады. Яны ўжо выходзілі ў іншых кнігах аўтара ці публікаваліся ў перыёдыцы. Але выданне не проста складаецца з казак — кніга змяшчае і шмат карыснай інфармацыі. Амаль кожны твор дапоўнены цікавымі нататкамі. Напрыклад, апісанне знешняга выгляду жывёл, іх жыцця, харчавання. Так, пісьменнік не толькі забаўляе чытача, але і навучае яго. Адметна таксама, што ўсе казкі звязаныя паміж сабой агульнай ідэяй. Яны нібы падслуханыя ў самой прыроды, ад «асобы» якой аўтар і распавядае гэтыя гісторыі нам, сваім чытачам.

Думаецца, у хуткім часе нас чакаюць новыя сустрэчы з Генадзем Аўласенкам, бо сёлета ў Выдавецкім доме «Звязда» плануецца выхад чарговай яго кнігі — працягу серыі пра Маленькага Ветрыка з вентылятара.

**Анастасія ЦІХАНЧУК**

# Далучыцца да «Ды@блогу»

Сёння тэлеканал «Беларусь 3» пачынае вяшчанне ў абноўленым выглядзе. У эфіры з'явяцца зусім новыя, актуальныя праекты.

Так, з панядзелка па чацвер на тэлеканале «Беларусь 3» будзе ісці сацыякультурны праект «Ды@блог». Яго адметнасць — інтэрактыўнасць, бо ў сваіх інтэрнэт-дзённіках (блогах) вядучыя будуць не толькі анансаваць тэмы праграм, але і абмяркоўваць іх са сваёй аўдыторыяй, адказваць на пытанні гледачоў. Кожны з тэматычных блокаў праекта мае сваю скіраванасць.

23 верасня ў 10.35 і а 22-й гадзіне вядучы Навум Гальпяровіч паразважае «Пра мову» з першым намеснікам дырэктара па навуковай рабоце Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Аляксандрам Лукашанцам.

Аматараў літаратуры запрашаюць далучыцца да гутаркі пра пісьменніцкія справы са старшынёй СПБ Мікалаем Чаргінцом 24 верасня ў 10.20 і 22.05 журналісткі Стэла Чыркова і Таццяна Сівец.

25 верасня ў 10.25 і 22.10 «Пра прыгожае» размаўляе са сваім госцем — народным артыстам Беларусі Віктарам Манаевым — вядучы Сяргей Макарэй. Доктар Аляксандр Цярэшчанка ў рубрыцы «Пра вечнае» гаворыць пра гардыню з прарэктарам па навуковай працы і міжнародных сувязях Інстытута тэалогіі БДУ, прафесарам Марынай Мажэйка і загадчыкам кафедры філасофіі БДЭУ, прафесарам Аляксандрам Лапцёнкам 26 верасня ў 10.20 і 22.25.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

# Новы сезон

Знамянальная падзея адбылася 11 верасня ў Доме літаратара. Адкрыць новы сезон выпала пісьменніку Івану Юркіну, кампазітару Алегу Елісеенкаву і народнаму артысту Рэспублікі Беларусь Анатолю Ярмоленку, якія прэзентавалі гледачам альбом песень.

Жадаючых было шмат, давялося дадаткова ставіць крэслы. Гэта было свята беларускасці. Душэўныя лірычныя песні, песні грамадзянскага і патрыятычнага зместу, жартоўныя песні нікога не пакінулі абыякавымі.

Вялі імпрэзу сакратар СПБ Георгій Марчук, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Паэты М. Шабовіч, М. Іваноў, В. Сакалова, В. Паўлючэнка, У. Мазго, А. Легастаева, В. Шпакевіч сардэчна павіншавалі І. Юркіна з таленавітымі тэкстамі. Было выказана пажаданне — праводзіць вечарыны такога кшталту як мага часцей. Людзі засумавалі па сустрэчах з творчымі асобамі.

**Марыя РУДОВІЧ**

# «У сэрца глянь сваё…»

11 верасня, у дзень нараджэння вялікага паэта Латвіі, на дачы Райніса і Аспазіі ў Юрмале адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі «У сэрца глянь сваё...» з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, якая прысвечана знакавым для культурнай прасторы Беларусі і Латвіі асобам — Янку Купалу і Янісу Райнісу.

Выстаўка — частка міжнароднага праекта «Янка Купала і Ян Райніс». Ён рэалізуецца пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы і Пасольства Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь у адпаведнасці з Праграмай супрацоўніцтва паміж Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам культуры Латвійскай Рэспублікі на 2013 — 2015 гг., а таксама дзякуючы супрацоўніцтву Аб'яднання літаратурных музеяў (Латвійская Рэспубліка) і Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

Назвай выстаўкі абраны радок з верша Янкі Купалы «Не шукай», галоўная тэма якога — адвечны пошук чалавекам шчасця, якое знаходзіцца блізка, трэба толькі зазірнуць у сваё сэрца. Гэтая гуманістычная ідэя ляжыць у аснове творчасці абодвух паэтаў, лёс якіх неаддзельны ад гісторыі роднай зямлі.

Асабістая сустрэча Янкі Купалы і Яніса Райніса адбылася ў 1926 годзе, завочнае ж знаёмства пачалося значна раней. У 1924-м драматычны гурток Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі паказаў на сцэне Нацыянальнага драматычнага тэатра г. Рыгі спектакль па п'есе Янкі Купалы «Паўлінка» ў пастаноўцы Паўліны Мядзёлкі. Гэта стала магчымым дзякуючы запрашэнню Яніса Райніса, руплівца-дабрадзея беларускай справы, які абараняў інтарэсы беларусаў у Сейме, найперш у адкрыцці беларускіх школ. Пасля спектакля Райніс сустрэўся з удзельнікамі імпрэзы, распытаў пра Янку Купалу і сфатаграфаваўся з імі на сцэне тэатра. Гэты здымак і сёння знаходзіцца ў фондах музея Янкі Купалы.

У лістападзе 1926 г. Яніс Райніс прыязджае ў Мінск як ганаровы ўдзельнік Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Жыве ў гасцініцы «Еўропа», сустракаецца з Янкам Купалам і маладзейшымі літаратарамі, бывае ў новым доме народнага паэта Беларусі, дзе гасцей частуе гаспадыня — жонка Купалы Уладзіслава Луцэвіч.

Янка Купала падараваў Янісу Райнісу свае кнігі «Безназоўнае» (1925), «Збор твораў» (тт. 1 — 2) і фатаграфію (1925) з аўтографамі. Гэтыя выданні, якія захоўваюцца ў бібліятэцы на дачы Райніса і Аспазіі ў Юрмале, былі прадстаўлены на выстаўцы як самыя дарагія экспанаты. Адзіная асабістая сустрэча паэтаў стварыла глыбокі кантэкст для далейшага развіцця беларуска-латвійскіх культурных сувязей.

У чэрвені 1941 года Янка Купала ўпершыню наведаў Латвію як ганаровы госць першага з'езда Саюза пісьменнікаў Латвіі. Цікавіўся творчай спадчынай Яніса Райніса, сустракаўся з А. Упітам, А. Ніедрэ, Я. Судрабкалнам. Успамінаючы тую паездку, Уладзіслава Францаўна пісала: «Янка Купала аддаваў даніну глыбокай павагі памяці народнага паэта Латвіі, пабываў на магіле сябра, наведаў музей яго імя і месцы, дзе жыў паэт. Літаратурная грамадскасць цёпла прыняла Я. Купалу».

На выстаўцы дэманструюцца дзве арыгінальныя мастацкія работы з калекцыі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, прысвечаныя сяброўству песняроў: палотны Мікалая Гусева «Янка Купала і Ян Райніс» (1959) і старшыні Балтыйскага аб'яднання беларускіх мастакоў «Маю гонар» Вячкі Целеша «Дзвіна-Даўгава, маці наша» (2000).

Другая частка выставачнага праекта «Янка Купала і Ян Райніс» будзе рэалізавана ў лістападзе гэтага года, калі нашы латвійскія калегі прадставяць мінскаму наведвальніку выстаўку, прысвечаную жыццю і творчасці Яніса Райніса, народнага паэта і дзяржаўнага дзеяча Латвіі, дзякуючы апякунству якога Латгалія яшчэ ў 20-я гады мінулага стагоддзя стала родным домам для беларусаў.

**Алена ЛЯШКОВІЧ, дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**

## Палажэнне аб літаратурным конкурсе імя М. Багдановіча

У межах Рэспубліканскага літаратурнага форуму «Багдановіч» — сумеснай акцыі Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва і Саюза пісьменнікаў Беларусі, накіраванай на арганізацыю шэрагу сацыяльна-культурных мерапрыемстваў.

**Агульныя палажэнні**

**Мэта**: папулярызацыя літаратурнай спадчыны Беларусі.

**Задачы**: актывізацыя ініцыятывы творчых асоб у сферы літаратуры, пашырэнне магчымасцей для самарэалізацыі, выяўленне і падтрымка новых талентаў, развіццё творчага патэнцыялу асобы, пашырэнне сферы выкарыстання беларускай мовы.

**Актуальнасць**

• для органаў дзяржаўнай улады: конкурс (форум) — адзін са сродкаў рэалізацыі дзяржаўных праграм у сферы культуры і адукацыі (Дзяржаўная праграма «Культура Беларусі» (2011 — 2015 гг.), Дзяржаўная праграма развіцця вышэйшай адукацыі РБ на 2011 — 2015 гг. і інш.), мэты і задачы адпавядаюць асноўным палажэнням адпаведных заканадаўчых актаў (Кодэкс Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі», Закон РБ «Аб культуры» і інш.), а таксама міжнародных дакументаў (Канцэпцыя мастацкай адукацыі краін СНД, праграмныя дакументы ЮНЕСКА і г. д.), накіраваных на актывізацыю творчага працэсу маладога пакалення.

• для бізнес-супольнасці — магчымасць сфарміраваць вобраз беларускага прадпрымальніцтва як сацыяльна адказнага і неабыякавага да праблем развіцця нацыянальнай культуры.

• для ўдзельнікаў — інструмент для самарэалізацыі і самаактуалізацыі, магчымасць заявіць пра сябе і свой талент.

• для грамадскіх аб'яднанняў — механізм пашырэння кола чытачоў, развіцця творчай ініцыятывы сярод моладзі.

**Час правядзення**: верасень 2013 года — люты 2014 года.

**Арганізатары**: Рэспубліканская канфедэрацыя прадпрымальніцтва, Саюз пісьменнікаў Беларусі пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выканавец**: Цэнтр міжкультурнага дыялогу Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва.

**Умовы ўдзелу ў конкурсе**

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца маладыя аўтары ва ўзросце ад 18 да 31 года. Прымаюцца работы на беларускай і рускай мовах па трох намінацыях: проза, паэзія, драматургія. Кожны ўдзельнік мае права даслаць толькі адзін твор, раней не апублікаваны.

Аргкамітэт прымае заяўкі і тэксты работ да **15 снежня 2013 г.**

**У заяўцы ўказваецца**: прозвішча, імя, імя па бацьку ўдзельніка, месца вучобы (працы), паштовы адрас, кантактны тэлефон, e-mail, намінацыя, назва работы.

Работы з адзнакай «Літаратурны конкурс імя М. Багдановіча» неабходна дасылаць (па выбары):

• па паштовым адрасе: Рэспубліка Беларусь, 220033, г. Мінск, вул. Серафімовіча, 11-115;

• па электронным адрасе: *rce.by.man@gmail.com*

**Правілы афармлення матэрыялаў**: шрыфт — Times New Roman, кегль (памер літар) — 14, інтэрвал — 1, абзац — 1 см, палі з усіх бакоў — 2 см. Таксама прымаюцца рукапісныя варыянты.

**Журы конкурсу**

Чаргінец М. І. — старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі (старшыня конкурсу).

Карагін У. М. — старшыня Прэзідыума Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва (сустаршыня конкурсу).

Навумовіч У. А. — дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Задзяркоўская Н. І. — галоўны спецыяліст упраўлення устаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Логінава Т. У. — начальнік аддзела метадычнага забеспячэння гуманітарнай адукацыі НМУ «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Лысенка С. А. — дырэктар Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва.

Сапоцька П. М. — дырэктар Цэнтра міжкультурнага дыялогу Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва.

Бадак А. М. — галоўны рэдактар часопіса «Нёман».

Сівец Т. М. — галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва».

Шэляговіч Т. Э. — дырэктар Беларускага дзяржаўнага літаратурнага музея імя М. Багдановіча.

Сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі: Карызна У. І., Конеў Я. Ф., Давідовіч С. Ф., Паліканіна В. П., Марціновіч А. А., Камейша К. В., Атрошанка Т. А.

**Падвядзенне вынікаў і ўзнагароджанне**

Вынікі конкурсу будуць падведзены да **1 лютага 2014 г.**

Па кожнай з намінацый (паэзія, проза, драматургія) будуць вызначаны тры прызавыя месцы (адпаведна першае, другое, трэцяе). Пераможцы атрымаюць каштоўныя падарункі (ноўтбукі, планшэты і іншае). Аўтар, які заняў адно з першых месцаў, будзе разгледжаны ў якасці кандыдата на пазачарговы прыём у Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Узнагароджанне пройдзе падчас правядзення XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

**По пытаннях правядзення форуму звяртацца ў арганізацыйны камітэт:**

Рэспубліка Беларусь, 220033, г. Мінск,
вул. Серафімовіча, 11 — 115.

**Тэлефоны**: (8017) 298-24-41, (8017) 298-24-47,
а таксама: (8029) 853-75-98 — Сапоцька Павел Міхайлавіч,
(8029) 612-03-14 — Навумовіч Уладзімір Аляксандравіч.
**Факс**: (8017) 298-24-41.
**E-mail**: *rce.by.man@gmail.com*

# Стары Мінск: новае падарожжа




Уражлівым, надзвычай сімпатычным выданнем падаецца навінка Выдавецкага дома «Звязда» — зборнік нарысаў і эсэ журналіста газеты «СБ. Беларусь сегодня» Віктара Корбута «Минск. Лучший вид на этот город». Аснову кнігі склалі газетныя публікацыі таленавітага даследчыка мінскай даўніны. Выданне справуды можна лічыць па-свойму ўнікальнай крыніцай па мінсказнаўстве.

Цікаўнага да гісторыі чытача чакаюць сустрэчы з Мінскам не толькі блізкіх XIX — XX стагоддзяў. Віктар Корбут запрашае нас і ў віртуальнае археалагічнае падарожжа па беларускай сталіцы (пра гэта — у нарысе «З чаго пачынаецца горад»). Нагадвае В. Корбут і пра «звяздоўскі» артыкул Аляксандра Ляўданскага і Аляксандра Кавалені (публікацыя ад 27 мая 1935 года) «Дзе знаходзіўся першапачатковы Менск». Гэты артыкул паклаў пачатак дыскусіі пра месца заснавання Мінска. У кнізе В. Корбута змешчаны выразны фатаграфічны адбітак «звяздоўскай» публікацыі. Дазволім сабе працытаваць яе пачатак: «Да апошніх часоў усе гісторыкі лічылі, што Менск з самага пачатку яго ўзнікнення (X — XI стагоддзі) знаходзіўся на тым самым месцы, дзе ён ёсць і зараз. Аднак, пакойны акадэмік Беларускай Акадэміі Навук А. Н. Ясінскі, вывучаючы летапісныя паведамленні, а таксама і акты XVI стагоддзя аб Менску, прышоў к вываду, што Менск спачатку (да канца XI стагоддзя) павінен быў быць у 18 кілометрах на захад ад цяперашняга горада, недзе каля вёскі Гарадзішча, Строчыцкага сельсавета. Тут знаходзілася яшчэ ў XVI стагоддзі рэка Менка, ад якой і атрымаў назву горад Менск.

Праведзеныя намі папярэднія доследы паказалі, што першапачатковы Менск сапраўды знаходзіўся на месцы сучаснай вёскі Гарадзішча, на правым баку ракі Пціч. Тут захавалася вялікае земляное ўмацаванне, з высокімі, каля 16 метраў у вышыню,валамі, прычым спярша, у X і пачатку XI стагоддзяў, умацаванне было невялікіх памераў, а потым яно было павялічана і займала плошчу звыш паловы гектара...»

Нарысы, эсэ Віктара Корбута ў значнай ступені заснаваны на дакументах, сведчаннях архівістаў, даўнейшых публікацыях сёння маладаступных шырокаму колу чытачоў перыёдык. З цікавасцю чытаюцца старонкі пра «архітэктурных бацькоў» сталіцы — Герасіма Якушко, Андрэя Бембеля, Восіпа Лангбарда, Георгія Заборскага, Леаніда Левіна. А нарыс «Адрасы вельмі важных персон» узнаўляе столькі імёнаў манархаў, военачальнікаў, дзеячаў культуры, літаратуры, мастацтва ў звязку з рознымі перыядамі гісторыі Мінска, што проста дзіву даешся і задумваешся пра тое, колькі памятак у розных лёсах пакінуў наш горад.

Нягледзячы на руплівасць, жаданне многіх айчынных выдавецтваў адлюстраваць гістарычны і сучасны жыццяпіс Мінска, усё ж грунтоўнай літаратуры па мінсказнаўстве, відавочна, нестае. І на гэтым фоне праца Віктара Корбута «Минск. Лучший вид на этот город» уяўляецца яшчэ больш каштоўнай і запатрабаванай.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Імёны на пяску

У Выдавецкім доме «Звязда» працягвае выходзіць кніжная серыя «Сугучча сэрцаў», якая прадстаўляе літаратуры краін СНД пасля 1991 года. Новы зборнік, які сабраў пад адной вокладкай творы туркменскіх і беларускіх пісьменнікаў, носіць назву «Святая любоў».

**Ігар ЛАЗОЎСКІ**

Паэзію і прозу далёкай ад Беларусі азіяцкай краіны прадстаўляюць Агагельды Аланазараў, Атамурад Атабаеў, Асман Одэ, Аразгулы Анаеў, Гурбаназар Аразгулыеў, Гурбаняз Дашгынаў, Камек Кулыеў, Бібі Араздурдыева, Худайбердзі Дзіванкулыеў, Касым Нурбадаў. Канечне ж, гэты збор не носіць анталагічнага характару. І тым не менш знаёмства з творчасцю згаданых пісьменнікаў дапамагае ўявіць, што цяпер адбываецца ў сучаснай туркменскай літаратуры. Варта заўважыць: здабыткі большасці аўтараў і раней былі знаёмыя беларускаму чытачу. Двойчы ў Мінску выходзілі кнігі Агагельды Аланазарава, адрасаваныя дзецям. Вось-вось павінна з'явіцца на свет яшчэ адна яго кніга вершаў па-беларуску — «Вясёлая азбука». На мове Янкі Купалы гучалі вершы і апавяданні Атамурада Атабаева, Камека Кулыева, Гурбаняза Дашгынава ды іншых. Наўмысна звяртаю ўвагу на гэтую акалічнасць. Магчыма, следам за кнігай «Святая любоў» выйдзе і зборнік сучаснай туркменскай літаратуры ўжо ў перакладзе на беларускую мову.




Беларуская частка адметнай анталогіі дружбы складаецца з твораў Мікалая Чаргінца (друкуецца ўрывак з яго рамана «Вам — заданне»), Валянціны Паліканінай, Леаніда Левановіча, Людмілы Кебіч, Уладзіміра Глушакова, Міколы Шабовіча, Наталії Касцючэнкі, Юрыя Фатнева, Анатоля Крэйдзіча, Алега Буркіна, Уладзіміра Дуктава, Івана Карэнды, Святланы Кражавай.

# Любім цябе, родны горад!

На пляцоўцы каля гарадской ратушы павіншаваць родны Мінск з 946-годдзем разам з работнікамі дзіцячых бібліятэк сталіцы сабраліся і сябры Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Дажджлівае надвор'е не сапсавала святочнага настрою: гучалі вершы, песні, прэзентаваліся кніжкі, была наладжана іх выстаўка.

Напачатку са сваімі «сонечнымі вершамі» была прадстаўлена адна з самых маладых паэтэс Маргарыта Латышкевіч. Прыняла «эстафету» не менш цікавая маладая творца Яна Явіч. Падтрымала моладзь грамадзянскай лірыкай Ніна Галіноўская. Маленькім слухачам, якія разам з бацькамі таксама прыйшлі павіншаваць родны горад са святам, пісьменніца прапанавала дзве цікавыя кніжкі: «Звяры ў трамваі» і «Леў смяецца». Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ паэт Міхась Пазнякоў павіншаваў усіх прысутных са святам, прысвяціўшы радкі роднаму Мінску. Знайшоў свайго слухача і крэатыўны Юрась Нераток. Гадзіну запар ён уздымаў настрой песнямі на ўласныя тэксты і вершамі «з прадмовамі». Падтрымаць калег прыйшлі пісьменнікі Уладзімір Мазго, Наталія Касцючэнка, Леанід Лукша, Лізавета Палеес. Не засталіся ўбаку і тыя, хто толькі пачынае свой шлях у літаратуру, — гэта Міхась Крычко і Валерыя Ісакевіч, сябры студыі «Малінаўскія галасы», якой кіруе Іна Фралова. У выкананні апошняй прагучаў цыкл вершаў «З малітвай за Беларусь». Актыўны ўдзел таксама ўзялі Таццяна Лейка, Вольга Сакалова, Аліна Легастаева, Дзмітрый Дземідовіч, Алена Міхаленка, Ганна Чумакова, Марыя Верціхоўская, Вольга Шпакевіч ды іншыя.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Вітала пісьменніка Уздзеншчына

Уздзенскі раён — радзіма вядомага беларускага літаратара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Васіля Шырко. Тут, ва Уздзе, у мясцовым краязнаўчым музеі, і віталі пісьменніка-земляка з нагоды 65-годдзя.

Творчая вечарына, якую вяла дырэктар музея Тамара Лухверчык, стала своеасаблівай шчымлівай, эмацыянальнай справаздачай Васіля Аляксандравіча перад землякамі. У значнай ступені здабыткі Васіля Шырко як аўтара аповесцей, казак, публіцыстычных твораў звязаны менавіта з Уздзеншчынай. Пра гэта гаварылі кіраўнікі Уздзенскага райвыканкама, раённай бібліятэкі, раённай газеты, мясцовага літаратурнага аб'яднання. Гэта пацвердзілі калегі па пісьменніцкім аб'яднанні — першы сакратар СПБ паэт Генадзь Пашкоў, які ўручыў юбіляру медаль «За вялікі ўклад у літаратуру», літаратурны крытык Алесь Марціновіч, доктар філалагічных навук Іван Саверчанка, журналіст Мікалай Кароль, дырэктар — галоўны рэдактар РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Алесь Карлюкевіч, доктар эканамічных навук Васіль Дадалка. А яшчэ — мастак Уладзімір Ткачоў, з якім Васіля Шырко яднаюць і зямляцтва, і творчая дружба.

Да вечарыны была падрыхтавана адмысловая музейная экспазіцыя, у якой яе стваральнікі прадставілі кнігі Васіля Шырко, найбольш значныя яго публікацыі, самыя розныя ўзнагароды, здымкі мінулых гадоў.

**Сяргей МІКУЛЬЧЫК**

# Па хвалях мовы

Міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння акадэміка Мікалая Васільевіча Бірылы, прайшла ў БДПУ імя Максіма Танка. Акрамя згаданага ўніверсітэта ў арганізацыі канферэнцыі ўдзельнічаў Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. З абедзвюма ўстановамі ў свой час была звязана навуковая і грамадская дзейнасць вядомага мовазнаўцы.

Навуковыя інтарэсы даследчыка былі шматбаковымі і разнастайнымі, а вынікі працы мелі практычнае значэнне. Так, М. Бірыла актыўна збіраў дыялектныя матэрыялы, на падставе якіх былі падрыхтаваны «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», тэарэтычная работа «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак», а таксама «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак». Яго кандыдацкая дысертацыя «Гаворкі Чырвонаслабодскага раёна Бабруйскай вобласці» паслужыла ўзорам для апісанняў асобных дыялектных зон Беларусі.

Славістычная тэматыка знайшла адлюстраванне ў навуковых дакладах вучонага, падрыхтаваных да V — IX міжнародных з'ездаў славістаў. Як прафесар кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта М. Бірыла чытаў поўны курс беларускай мовы.

Менавіта тым самым папулярызуючы яе ў свеце, М. Бірыла лічыцца заснавальнікам анамастычнай школы ў беларускай лінгвістыцы. У кнігах пад агульнай назвай «Беларуская антрапанімія» аўтар упершыню правёў рознабаковы аналіз асабовых імён і прозвішчаў у старажытнай (XVI — XVIII стст.) і сучаснай беларускай мове (70 — 80-я гг. XX ст.). Даследчык вядомы і як лексікограф, які актыўна распрацоўваў пытанні нармалізацыі літаратурнай мовы. Пад яго рэдакцыяй была падрыхтавана акадэмічная «Беларуская граматыка», нарматыўны дапаможнік «Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» і шэраг іншых прац.



Падчас работы канферэнцыі «На хвалях мовы» Мікалая Васільевіча Бірылу ўспаміналі як чалавека творчага, дзейнага, цікаўнага. Прысутныя мелі магчымасць азнаёміцца з асабістымі фотаздымкамі даследчыка і малавядомымі старонкамі яго біяграфіі. Многія навукоўцы гаварылі пра сучасную распрацоўку ідэй М. Бірылы. Таксама былі зачытаныя даклады па тэмах, якія ў свой час даследаваў слынны вучоны. На канферэнцыі прысутнічала дачка Мікалая Васільевіча Аліна Мікалаеўна Бірыла, доктар фізіка-тэхнічных навук, якая выказала шчырую ўдзячнасць за арганізацыю мерапрыемства.

Усяго ў канферэнцыі ўзяло ўдзел больш як 80 навукоўцаў з Беларусі, а таксама з Расіі, Ірака, Азербайджана, Украіны, Літвы.

**Кацярына ШЧАСНАЯ**

## Абрысы

Ускладанне кветак да помніка Францыску Скарыне распачало святкаванне Дня бібліятэк у нашай краіне. З прафесійным святам «слаўную кагорту бібліятэкараў» ад імя Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь павіншаваў Васіль Чэрнік: «Прыемна адзначыць, што і сёння бібліятэкі Беларусі, якіх налічваецца больш як дзевяць тысяч, па-ранейшаму запатрабаваныя грамадствам». Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Раман Матульскі перадаў маладым спецыялістам Прафесійны кодэкс бібліятэкара Беларусі.

Экскурсійны маршрут па памятных мясцінах Вялікай Айчыннай вайны «Кола памяці і славы» распрацаваны ў Лёзненскім раёне да 70-годдзя вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якое райцэнтр адзначыць 10 кастрычніка. Маршрут пачынаецца з Цэнтральнага воінскага пахавання, ахоплівае Стасеўскія афіцэрскія магілкі і вялікае воінскае пахаванне ў аграгарадку Крынкі. Завяршаецца «Кола памяці і славы» на мемарыяльным комплексе «Ціхмянаўская вышыня».

Вечар-партрэт, прысвечаны творчасці народнага мастака Рэспублікі Беларусь, акадэміка жывапісу, ганаровага грамадзяніна Гомеля Гаўрыіла Вашчанкі, прайшоў у межах праекта «Класікі беларускага мастацтва» ў музеі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Г. Вашчанка — мастак, чыя творчасць непарыўна звязана з роднай зямлёй: яе маляўнічай прыродай, старажытнай гісторыяй і цудоўнымі людзьмі. Вечар-партрэт дазволіў бліжэй пазнаёміцца з жыццём і творчасцю шматграннага мастака, творы якога — наш нацыянальны здабытак.

Каля 20 маляўнічых і графічных работ прадстаўлена ў Мастацкай галерэі Міхася Савіцкага на выстаўцы «Гарадскія матывы Аляксандра Пуцейкі». Мастак стварыў іх з 1960 па 2004 год. Творы аб'ядноўвае адна тэма — горад. Пейзажы мастака — гэта выявы роднага Мінска, старых маскоўскіх завулкаў, далёкіх іспанскіх гарадоў… Палотны здаюцца жывымі, як вокны, праз якія можна зазірнуць у недалёкае мінулае. Галоўнае ў работах мастака — настрой, атмасфера горада, дух часу 1960-х, 1970-х і пачатку 2000-х гадоў.

# Вайна — вулкан жахаў

Выйшаў у свет новы раман Мікалая Чаргінца з красамоўнай назвай — «Аперацыя “Кроў”». У цэнтры ўвагі пісьменніка — Другая сусветная вайна, жыццё Беларусі пад акупацыяй, лёс паняволеных народаў і змаганне з фашызмам.

Перад намі — унікальная кніга, захапляльны раман-даследаванне. У ім арганічна спалучаецца глыбокая аналітыка, шырокі ахоп матэрыялу і высокапрафесійнае мастацкае ўвасабленне творчай стратэгіі аўтара.

Падаецца, што М. Чаргінец прадставіў грамадскасці сваю самую дарагую кнігу, якую ён доўгі час выношваў у сэрцы, над зместам якой працаваў не адно дзесяцігоддзе. У бліскучай мастацкай форме пісьменнік паказаў маштаб злачынстваў фашызму супраць чалавецтва і раскрыў дзікунскую, антыгуманную палітыку Гітлера і яго прыспешнікаў на акупіраваных тэрыторыях, перадусім у Беларусі.

Пісьменнік дакладна перадаў атмасферу страху і жудасці, якая запанавала ў Мінску ў першыя дні акупацыі. У горадзе пачаліся аблавы на яўрэяў і цыган, паўсюль гучалі заклікі выдаваць камуністаў і ўступаць у паліцыю. Сапраўдны шок выклікала ў людзей звестка пра стварэнне ў Мінску гета для яўрэяў: «Як можна ні ў чым не вінаватых людзей, нібы скаціну, выселіць з дамоў і загнаць за калючы дрот…» Але варварства было здзейснена, яўрэйскія сем'і прымусова перасялілі ў гета, усіх зарэгістравалі і загадалі насіць вопратку са спецыяльнымі абразлівымі знакамі. Больш за тое, у Беларусь перасялілі яўрэяў з краін Еўропы — Германіі, Аўстрыі, Чэхаславакіі, Польшчы, Галандыі, Францыі, Венгрыі — з мэтай іх наступнай ліквідацыі, што і было здзейснена ў адпаведнасці з загадам рэйхсфюрэра СС Гімлера ад 21 чэрвеня 1943 г.

Уражваюць паказаныя ў творы жахлівыя ўмовы існавання людзей у гета. Жыццё там нагадвала пекла на зямлі. Немцы дэманстравалі звярыную жорсткасць, разам з паліцаямі гвалтавалі маладых дзяўчат, часам на вачах у бацькоў, а потым адпраўлялі ў газавыя камеры ў Трасцянец. Працаздольных накіроўвалі на прымусовыя работы; тых, хто не падпарадкоўваўся і пратэставаў, цкавалі аўчаркамі і забівалі. Бясконцыя здзекі давялі людзей да таго, што яны ўжо не супраціўляліся, калі іх заганялі ў «душагубкі» або садзілі на машыны, якія адвозілі іх на расстрэл. Істотна тое, што пісьменнік падае канкрэтныя звесткі пра месцы і характар знішчэння яўрэйскага насельніцтва на Беларусі.

Зверствы фашызму не вынішчылі ў людзях чалавечнасці і спагады. Вельмі кранальныя сцэны выратавання гараджанамі малых дзяцей. Рызыкуючы ўласным жыццём, жыхары літаральна вырывалі немаўлят з калон, калі яўрэяў вялі з гета на працу.

Невыносныя пакуты цярпелі ад фашыстаў карэнныя жыхары Беларусі: іх тэрарызавалі, няшчадна рабавалі, у сялян сілай адбіралі прадукты харчавання і хатніх жывёл, дарослых і дзяцей выкарыстоўвалі для выканання цяжкіх работ і размініравання тэрыторый. Пазней пачаліся павальныя арышты, карныя экспедыцыі, расстрэлы, вываз людзей на рабскую працу ў Германію, дзе па прычыне велізарных страт на савецка-германскім фронце не хапала рабочых рук. У гарадах людзі найбольш пакутавалі ад недахопу прадуктаў харчавання. Аўтар прыгадаў жахлівыя лічбы: немцы стварылі на Беларусі 260 лагераў смерці, спалілі больш як 500 вёсак разам з іх жыхарамі, знішчылі больш як два мільёны чалавек, каля паўмільёна накіравалі на працу ў Германію.

На старонках рамана выкрываецца адно з найбольш крывавых злачынстваў фашыстаў на Беларусі — арганізацыя донарскіх цэнтраў, інтэрнатаў-канцлагераў, куды прымусова змяшчалі дзяцей ад 6 да 12 год, якіх забіралі з сем'яў. Кульмінацыйная сцэна рамана — забор крыві ў васьмігадовай Розы, падчас якога саслабелая дзяўчынка памерла, — прысуд фашызму, выкрыццё яго антычалавечай, варварскай ідэалогіі. Аўтар паказвае, як некаторыя з дзяцей у адчаі пратэставалі, але гэта заканчвалася для іх пазапланавай працэдурай і смерцю. Паводле звестак М. Чаргінца, на Беларусі дзейнічала восем лагераў дзяцей-донараў.

Пісьменнік справядліва адмаўляецца ад штампаў і паказвае, што сярод фашыстаў былі адукаваныя людзі і кваліфікаваныя адміністратары. Менавіта такім паўстае Вільгельм Кубэ, які меў шырокую эрудыцыю і адмысловую падрыхтоўку для кіравання акупіраванымі краінамі і народамі. Кубэ — дасведчаны палітычны камбінатар, цынічны майстар розных трукаў,




які ўмела карыстаецца тактыкай «пугі і перніка». Ён спрыяе інтэлігенцыі, дапамагае адкрыццю беларускіх школ, падтрымлівае розныя культурныя мерапрыемствы. Але галоўны яго клопат — інтарэсы рэйха, дзеля якіх ён ні перад чым не спыняецца.

Узнікненне народнага супраціўлення і партызанскага руху на Беларусі, паводле слушнай высновы аўтара, адбывалася зусім не паводле загаду зверху. Народ не мог мірыцца з гвалтам і здзекамі, менавіта таму барацьба з фашызмам і акупантамі набыла масавы характар. Пісьменнік вельмі пераканаўча паказаў працэс і акалічнасці фарміравання партызанскіх атрадаў і падпольных груп, ядро якіх склалі савецкія і партыйныя работнікі, былыя гаспадарнікі і вайскоўцы. У творы праўдзіва асвятляюцца праблемы і цяжкасці, з якімі сутыкаліся партызанскія атрады і злучэнні, асабліва на пачатку іх дзейнасці, калі адчуваўся недахоп зброі і вайсковай маёмасці, адзення і харчавання, складана было аказваць дапамогу параненым.

Абапіраючыся на дакладныя звесткі, М. Чаргінец davёў, што партызаны наносілі значны ўрон праціўніку. Найбольш эфектыўнай барацьба партызанскіх атрадаў стала пасля таго, як яны навучыліся тактыцы вядзення вайны ў тыле ворага, сталі каардынаваць баявыя аперацыі, наладзілі сувязь са штабам партызанскага руху ў Маскве і яго кіраўніком Панцеляймонам Панамарэнкам. Немцы вымушаны былі нават здымаць франтавыя часці для барацьбы з партызанамі, прымяняць авіяцыю, танкі, цяжкую артылерыю. Для барацьбы з партызанамі выкарыстоўваліся гестапа, СС, жандармерыя. У Беларусь акупанты вымушаны былі перадыслацыраваць значную колькасць латышскіх, літоўскіх і ўкраінскіх паліцэйскіх батальёнаў, якія разам з немцамі ажыццяўлялі карныя аперацыі, не ведаючы літасці і спагады да мясцовага насельніцтва.

Пісьменнік разглядае вытокі і прыроду калабарацыянізму, паказвае розныя яго праявы. Ён слушна адзначае, што многія мясцовыя жыхары супрацоўнічалі з немцамі з-за страху, імкнучыся выжыць у складаных умовах. Касцяк паліцэйскіх сіл складалі крымінальныя элементы і асобы, рэпрэсіраваныя савецкай уладай. Асаблівае абурэнне ў пісьменніка выклікае дзейнасць тых яўрэяў, якія разам з немцамі ўдзельнічалі ў злачынствах супраць сваіх жа супляменнікаў. Яны выклікалі агіду нават у гаспадароў, якім служылі.

Кніга М. Чаргінца з'яўляецца істотным дапаўненнем, а часам і аб'ектыўным пераглядам прац гісторыкаў і палітолагаў, прысвечаных Другой сусветнай вайне. Дакладныя звесткі, лічбы і факты, якія пісьменнік падае на старонках твора, уражваюць і здзіўляюць, прымушаюць па-новаму паглядзець на ключавыя падзеі найноўшай гісторыі.

Новы раман М. Чаргінца — гэта не толькі размова пра гісторыю і мінулае. Ён накіраваны ў будучыню. У рамане гучыць трывога пісьменніка за лёс сучаснай цывілізацыі. Галоўнае пасланне твора — заклік да раўнапраўнага дыялогу нацый і народаў, напамін дзяржаўным і палітычным дзеячам пра павышаную адказнасць перад прыняццем лёсавызначальных рашэнняў, якія ўплываюць на жыццё асобных народаў, краін і ўсёй планеты.

Місія кнігі — папярэдзіць новыя трагедыі, не дапусціць злачынстваў і праліцця крыві бязвінных людзей. М. Чаргінец робіць вельмі важную філасофскую выснову-падагульненне, сутнасць якой у тым, што вулкан жахаў, ксенафобіі, дзікунства і крыважэрнай нянавісці можа выбухнуць ізноў, прычым у любой краіне і на любым кантыненце. Менавіта таму важна памятаць урокі гісторыі і не паўтараць памылак мінулага.

«Аперацыя “Кроў”» — несумненна, творчая ўдача пісьменніка, дасягнутая дзякуючы глыбокаму веданню матэрыялу, багатаму жыццёваму досведу. Майстэрства выкладу, прадуманасць кампазіцыйнай будовы, удалае спалучэнне дакументальных звестак, філасофска-публіцыстычных адступленняў і мастацкага вымыслу, а таксама дынамічны стыль з дэтэктыўна-прыгодніцкімі элементамі робяць кнігу надзвычай прывабнай.

Такім чынам, М. Чаргінец здзейсніў глыбокае і ўсебаковае мастацкае даследаванне найбольш трагічнага перыяду ў гісторыі Беларусі, асэнсаваў жорсткую рэальнасць бязлітаснага часу. Яго раман — доказ таго, што сапраўдная літаратура, праўдзівае мастацкае слова працягвае выконваць не толькі пазнавальныя і эстэтычныя функцыі, але і ажыццяўляе важнейшую сацыяльную місію — выхоўвае адказнага грамадзяніна, чалавека-гуманіста, патрыёта сваёй радзімы.

**Іван САВЕРЧАНКА**

# Палеская птушка

Не, гэта не пра Яўгенію Янішчыц. Гэта пра іншую нашу паэтэсу, дарэчы, блізкую да Янішчыц сваёй жаноцкасцю, далікатнасцю, вытанчанасцю. Ніна Мацяш — боская птушка (не тая, якой трызніў Анатоль Сыс, — іншая), акрыленая і прыземленая, убірала ў сябе сокі зямлі, а душа між тым лунала ў паднебнай далечы. Яна глядзела і назад, у мінуўшчыну, і наперад, у прышласць. Такою яна была ў сваіх вершах, такою хочацца згадаць яе ў дзень юбілею, якога паэтэса не дачакалася.




Уладзімір Калеснік, уважлівы і руплівы даследчык яе творчасці, у прадмове да аднатомніка «Паміж усмешкай і слязой» улучаў Ніну Мацяш у тагачасны кантэкст і гаварыў пра пакаленне «сямідзясятнікаў» наогул: «Ім наканавана было першым адчуць крызіс існуючай сістэмы як асабістую незадаволенасць жыццём і аб'явіць вайну «продкам»…»; «Моладзь вымушана была заявіць, што мае большую патрэбу ў свабодах, чым дае ім рэгламентаваны грамадскі лад, і адважылася заводзіць новую ментальнасць, новы склад жыцця, вольны ад пострах у і дыктату».

Там, дзе на лінеечцы часу пазначаны наш 2013-ы, па-за кантэкстам мы ўжо не адчуваем бунту ў творах Ніны Мацяш (за выняткам адмыслова бунтоўных вершаў кшталту «Набалелае», «Песня касінераў», «Сузямельцы»). Гэта не спроба паспрачацца з шаноўным даследчыкам, гэта ўсяго толькі доказ таго, што змаганне за чыстае і асабістае паэтычнае слова не было безвыніковым. Сярод сотні вершаў, на палях якіх можна пазначыць «клопат пра духоўнасць», вельмі пахвальны і вельмі прэсны, да таго ж часта выяўлены па-графаманску бездапаможна, творы Ніны Мацяш, безумоўна, вылучаюцца. Яна не бярэцца вучыць жыццю — яна сама вучыцца. Чытач можа таксама запазычыць яе досвед, але выключна па ўласным жаданні. Тут, у гэтых зборнічках, назвы якіх ужо складаюцца ў паэўную канцэпцыю («Агонь», «Удзячнасць», «Ралля суровая», «Прыручэнне вясны», «Поўны келіх», «Шчаслівай долю назаві», «У прыгаршчах ветру»), яго ніхто не аглушыць гімнамі.

Справа ў тым, што паэтэса разумела: маральнасць, духоўнасць і рыгарызм — паняцці не тоесныя, а рэчы, якія трымаюць нас на гэтай зямлі, вельмі простыя: роднасць, блізкасць, любоў, якая адна «не стамляе і не стамляецца».

Што да любові, то тут згаданы ўжо Уладзімір Калеснік справядліва зазначыў, што ў інтымнай лірыцы Ніна Мацяш заставалася «рэнесансавай дамай». У пацвярджэнне замест класічнага «Я вас люблю» працытую іншы верш:

*Я з Вамі развіталася. Даўно.*
*Хай ні мяне, ні Вас не ашукае*
*Спазм хвалявання, што яшчэ сціскае*
*Мне горла пры сустрэчы:*
*Вы са мной —*
*Як зорка дальняя, якой не маю,*
*Але чыё святло ўсё дападае…*
*Я з Вамі развіталася. Даўно.*

Гэтая высокая паэзія кахання нетутэйшая нават для яе часу. Здаецца, у якой-небудзь хрэстаматыі яна б арганічна выглядала побач з Максімам Багдановічам, а то і яшчэ на пару стагоддзяў раней.

Так склалася, што Ніне Мацяш даводзілася змагацца за жыццё і яго якасць (вось ён, бунт), і гэта прывучыла прымірaць, ураўнаважваць слязу і ўсмешку, радасць і адчай. Гэта змушала да самапазнання і рэфлексіі над уласным шляхам, такой скандэнсаванай і вычарпальнай, як мала каму ўдаецца:

*Пэўна, таму, што мой посах — слова,*
*пэўна, таму, што радзіма — боль,*
*іду і шукаю прычыны для радасці,*
*бо іншага шляху, каб жыць, няма.*

Сапраўды рэдкая птушка...

**Аліса НЕСЦЕРАВА**

**P. S.** Дарэчы, у Выдавецкім доме «Звязда» неўзабаве пабачыць свет зборнік перакладаў Ніны Мацяш «Гарнуся душою да слова».



Фота Уладзіміра Крука

Згадваючы Фёдара Янкоўскага, з дня нараджэння якога 21 верасня спаўняецца 95 гадоў, нельга не ўспомніць такое яго прызнанне ў аўтабіяграфіі, сціпла названай «Радкі з успамінаў і сустрэч»: «Далікатная рэч — народнае слова, народная песня. Каб гаварыць пра іх, трэба ведаць, разумець, трэба, каб і гаварылі пра іх далікатна». Калі што і можна дадаць, то хіба толькі адно: разумець народнае слова, а значыць, беларускую мову, неабходна так далікатна, як гэта рабіў сам Фёдар Міхайлавіч.

# Яго радасць і боль

Фёдар Янкоўскі па праве належыць да тых пісьменнікаў, якія на дзіва пашанотліва, ашчадна ставіліся да мовы, патрабуючы таго і ад іншых. Сваёй творчасцю яны паказвалі прыклад такой пашаны і ашчаднасці. У гэтым шэрагу, як вядома, Янка Брыль, Мікола Лобан, Ян Скрыган. Дый яшчэ шмат хто іншы. Аднак, несумненна, Ф. Янкоўскаму належыць адно з першых месцаў.

Цудоўнае веданне мовы Фёдар Янкоўскі засведчыў як сваімі навукова-даследчымі працамі, якіх у яго каля 300, так і кнігамі прозы, напоўненымі жывым, сакавітым народным словам. Уваходжанне ў неабсяжны свет моўнай стыхіі для яго пачалося, калі пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны, у час якой быў разведчыкам, а потым начальнікам разведкі партызанскага атрада «Грозны», што дзейнічаў на Міншчыне, вярнуўся ў родны Глускі раён і пачаў працаваць рэдактарам раённай газеты «Сацыялістычная вёска». Дарэчы, удзельнічаў і ў савецка-фінляндскай вайне 1939 — 1940 гг., якая, паводле прызнання Фёдара Міхайлавіча, яму «падпісала» […] белы білет, выдала пасведчанне інваліда і пакінула ў целе больш за дваццаць асколкаў». Ды ўсё адно не мог сядзець спакойна дома, калі чужынцы тапталі родную зямлю, усталёўваючы свой так званы «новы парадак».

Працаваў журналістам, настаўнікам у Глускай сярэдняй школе і вучыўся па-сапраўднаму разумець роднае слова, якім быў зачараваны з маленства. Гэтаму вельмі паспрыяў бацька, пра якога ў той жа аўтабіяграфіі творца сведчыў: «Калі я бачу партрэт Францішка Багушэвіча ці чую гэтае імя, побач устае вобраз бацькі. У абодвух былі такія самыя вусы, абодва хударлявыя, энергічныя і, здаецца, нястомныя, абодва дарагія мне. Адзін — родны бацька, другі той, хто, як ніхто да яго, сказаў свету пра Беларусь і беларусаў […]». Абодва яны былі перакананы, што ведаць родную мову трэба дзеля таго, каб не «умёрці».

Фёдар Янкоўскі прысвяціў бацьку нямала шчырых, праніклёных радкоў, дзякуючы якім выразна ўяўляеш простага вяскоўца, якога тым не менш можна назваць інтэлігентам. Інтэлігентам у народным разуменні, калі гэтае высокае паняцце падмацоўваецца не дыпломам, а ўнутраным светам чалавека, багаццем яго душы: «Павольна і вельмі ціха, але шырока расчыняюцца дзверы, і пара пераступае бацька. Які б ні быў у мяне занятак, я не магу працягваць яго і ўстаю гатовы пачуць. А ён, нібы баючыся забыцца штосьці ці з чымсьці спазніцца, хуценька і старанна разгладжвае свае русыя багатыя вусы і, не адыходзячы ад парога, пытаецца:

— А ці запісаў ты сабе такое слова? (Дарэчы, у бацькі ўсё было словам: і прыказка, і кароткі дыялог, і жарт.) Пра лісу… Ліса й пад барану хавалася: то ў зуб, то ў прут, а ўсё міма!

Надчэкваючы, каб усё было запісана, ён настройваўся яшчэ сказаць нешта — прыказку, кленіч, ласкавае і далікатнае прывітанне (Дзякуй табе, хлопчыку! Вялікі расці! Здаровенькі бегай!) ці жорсткае і, як джала, пякучае, зламоўнае пажаданне (Каб нашыя ворагі ды выкаціла да нагі!)».

І так раз за разам: «Не два і не дваццаць разочкаў прыносіў ён […] найдаражэйшыя гасцінцы». Гэтыя моўныя гасцінцы, безумоўна, дапамаглі Фёдару Міхайлавічу і ў напісанні кандыдацкай дысертацыі «Глускія гаворкі», якую ён паспяхова абараніў у 1954 годзе. Хоць, несумненна, да месца прыйшліся і запісы, зробленыя ад іншых людзей. Пазней (у 1959, 1960 і 1970 гадах) апублікаваў тры выпускі «Дыялектнага слоўніка», у якім ужо не толькі падаў адпаведную лексіку Глушчыны, а і прывёў паралелі з беларускімі гаворкамі, што бытуюць у іншых рэгіёнах. Больш за тое, суаднёс іх з польскай, чэшскай, балгарскай, нямецкай дый іншымі мовамі. Пры гэтым, калі тлумачыў тое ці іншае слова, прыводзіў цікавыя звесткі пра абрады і вераванні беларускага народа, пра флору і фаўну нашага краю, тым самым раскрываючы саму душу беларусаў, падкрэсліваючы нацыянальную адметнасць.

Гэтаксама плённа працаваў і збіраючы, даследуючы прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, пры гэтым шмат у чым выступаў першапраходцам. Прынамсі, працы Фёдара Янкоўскага паспрыялі з'яўленню новых раздзелаў нацыянальнай лінгвістыкі — фразеалогіі і фразеаграфіі. Наколькі тытанічнай была гэтая работа, яскрава сведчыць тое, што ў сваёй кнізе «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі» Фёдар Міхайлавіч апісаў больш як пяць тысяч устойлівых выразаў, сярод якіх значнае месца займаюць фразеалагізмы. Але на гэтым не спыніўся, працягваў працаваць у згаданым напрамку. Плённасць яго даследчыцкай працы пацвярджалася новымі кнігамі.

Прынамсі, Фёдар Янкоўскі першым засяродзіўся на тым, наколькі ўважліва неабходна падыходзіць да перакладу фразеалагізмаў. Асабліва з блізкіх моў, якімі з'яўляюцца беларуская і руская. Даслоўна перадаць у гэтым выпадку той ці іншы фразеалагізм проста немагчыма. Выйсце ў тым, каб знаходзіць адпаведнікі, як мага больш набліжаныя да арыгінала. Самай высокай ацэнкі заслугоўвае яго кніга «Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне», выдадзеная ў 1968 годзе. Матэрыял, сабраны пры напісанні яе, увайшоў у доктарскую дысертацыю Фёдара Міхайлавіча «Беларуская народная фразеалогія». Рэдка дзе яшчэ знойдзеш гэткае моўнае багацце: у згаданай навуковай працы асэнсавана больш як 7500 уласна фразеалагізмаў.

Гэткае ж моўнае багацце ўяўляюць сабой і кнігі «Роднае слова» і «Гістарычная граматыка беларускай мовы» (кожная з іх вытрымала па два выданні), «Беларуская мова» (тры выданні), «Беларускае літаратурнае вымаўленне» (чатыры выданні)… А яшчэ разам з Н. Гаўрош і Я. Лепешавым Ф. Янкоўскі ў 1973 годзе выдаў «Фразеалагічны слоўнік».

Ва ўсім, што ні пісаў ён, над чым ні працаваў, вобразна кажучы, прамаўляла само беларускае слова. Дарэчы, адна з кніг Фёдара Міхайлавіча так і называецца — «Само слова гаворыць» (1986). У эцюдах, абразках, змешчаных у ёй, паўстае не толькі Ф. Янкоўскі-навуковец, але і Ф. Янкоўскі-празаік. Празаік нават у большай ступені, прытым не менш самабытны, чым даследчык. У гэтым пераконваюць кнігі «Абразкі» (1975), «Прыпыніся на часінку» (1979), «І за гарою пакланюся» (1982), «Радасць і боль» (1984). Дачакаўся Фёдар Міхайлавіч і свайго выбранага «З нялёгкіх дарог».

Гэтая кніга пабачыла свет у 1988 годзе, а Фёдара Янкоўскага не стала 13 лістапада 1989-га. Памёр раптоўна. Сказалася і цяжкае раненне на фронце, і напружаная праца. У тым ліку і ў тагачасным Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага (цяперашні Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка), дзе 26 гадоў загадваў кафедрай беларускага мовазнаўства.

Фёдар Міхайлавіч пакінуў нямала вучняў, якія, гэтаксама як і іх Настаўнік, шануюць роднае слова. Кнігі Ф. Янкоўскага сваім зместам пераконваюць у тым, наколькі мілагучная, сакавітая, непаўторная беларуская мова. Шкада толькі, што апошнім часам яны не перавыдаюцца, але пры жаданні іх можна знайсці ў бібліятэках. Якую ні адгорнеш — адчуеш, як само наша слова гаворыць.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**фотаздымак прадастаўлены Беларускім дзяржаўным музеем-архівам літаратуры і мастацтва**

# І за гарою пакланюся...

Мне пашанцавала вучыцца ў выдатных выкладчыкаў педінстытута імя Горкага ў Мінску. Гэта Ф. Янкоўскі, А. Каляда, М. Лазарук, Э. Блінава, М. Гуліцкі, А. Рагуля, М. Мішчанчук, М. Яўневіч... Спіс можна доўжыць, але я пералічыла тых, хто пакінуў значны след у маім лёсе. Асабліва дарагім мне чалавекам стаў Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі.

З першых дзён навучання, нават калі ў нас яшчэ не было заняткаў, якія праводзіў Фёдар Міхайлавіч, я зразумела, што гэты чалавек — легенда філфака: прафесар, заслужаны дзеяч навукі, ардэнаносец (у мінулым — начальнік разведкі атрада «Грозны»), член СП СССР.

І вось — заняткі па гістарычнай граматыцы беларускай мовы. На вокладцы падручніка — прозвішча нашага выкладчыка, славутага Фёдара Янкоўскага. Якія гэта былі заняткі! Я баялася паварушыцца, дапусціць лішнюю думку, бо Фёдар Міхайлавіч умеў чытаць па вачах. У канспекце па яго дысцыпліне я адвяла некалькі апошніх старонак для запісаў. А запісваць было што: трапныя словы, фразеалагізмы ды і проста жыццёвыя парады і падказкі мудрага чалавека. Потым часта перачытвала: пустадомак, паўтатак, пахатуха, гнюсата, чарпло, сетачок, лізікі, святдзень; і за гарою пакланюся; чым абы-які, лепш ніякі; ніхто не зробіць горш табе, чым сам сабе...

О, гэта быў майстар слова: гаварыў дакладна, эмацыянальна, коратка і заўсёды ў самую кропку. А якая манера прамаўляць! Было чаму павучыцца: адпаведная выказванню сіла голасу, тэмп, паўзы... І ніводнага лішняга жэста: усе дакладна выверана. Нават сама постаць пры адносна невысокім росце здавалася манументальна велічнай.

Я задавала сабе пытанне: як чалавек узняўся на такую вышыню? І прыйшла да высновы, што гэтаму спрыялі выключная працавітасць, руплівасць, мэтанакіраванасць і высакародныя мэты, сіла волі і духу, а таксама, кажучы сучаснай мовай, харызма, моцны характар. І, бадай, самае галоўнае — любоў да слова, да мовы, да канкрэтнага чалавека і людзей увогуле, да самога жыцця. А ён, як ніхто, добра ведаў цану жыцця: у час Вялікай Айчыннай вайны загінула ўся яго сям'я: жонка, дзеці.

Я бачыла адносіны да Фёдара Міхайлавіча калег, студэнтаў: паважалі яго, любілі, захапляліся. Гэта быў непераўзыдзены аўтарытэт і вялікі чалавек. Памятаю, М. Яўневіч сказаў: «У размове як дасць прыказкай!»

Пры каласальнай занятасці Фёдар Міхайлавіч вельмі ўважліва ставіўся да нас, студэнтаў: прыкмячаў, хто заседжваецца ў кабінеце беларускай мовы са слоўнікам, кнігай, хто друкуецца ў факультэцкай насценгазеце і ў інстытуцкім штотыднёвіку «Савецкі настаўнік», таму на апошнім курсе ва ўсіх «паэтаў» факультэта прасіў сшытак з лепшымі вершамі, у тым ліку і ў мяне. Не забываў нас і пасля сканчэння інстытута. Мне, напрыклад, дасылаў паштоўкі да кожнага свята, свае кароценькія творы і рэгулярна пісаў дробным почыркам лісты.



*Пасля пасяджэння клуба "Жывое слова" (К. Крапіва, Ф. Янкоўскі)*

Радавалі і здзіўлялі ўвага і дабрыня гэтага чалавека, які знаходзіў час для мяне, простай школьнай настаўніцы. А калі я нарадзіла дачку, маленькая дзіцячая паштоўачка была падпісана і ёй.

Калі ў часопісе «Маладосць» надрукавалі падборку маіх вершаў, Фёдар Міхайлавіч падрыхтаваў прыемны сюрпрыз. На адрас школы, дзе я працавала, даслаў вялізны тоўсты канверт, а ў ім зроблены адмысловы часопіс з тых старонак, дзе згадваецца маё прозвішча: змест, самі вершы і апошняя старонка з кароткай біяграфічнай даведкай. Каля фотаздымка словы: «Оля! З Богам! У добры час! Шчыра! Цешуся. І спадзяюся».

Аднойчы мне давялося быць у гасцях у настаўніка. Я прыйшла ўжо з тоўстым сшыткам сваіх вершаў і ўбачыла на ўсю сцяну, як у бібліятэцы, запоўненыя кніжныя паліцы, пачула многа невядомага мне з гісторыі Беларусі. Вельмі шкадую, што не запісала адразу, бо потым забылася.

У лістападзе 2009 года пры адкрыцці мемарыяльнай дошкі на вуліцы Янкоўскага ў прысутнасці былых студэнтаў і выкладчыкаў педінстытута я адважылася зачытаць свой верш, прысвечаны светлай памяці настаўніка:

*Не забуду, як мудра і проста*
*Ён і слову вучыў, і жыццю.*
*І цяпер, праз вялікую ростань,*
*Зноў бы голас знаёмы пачуць.*

*Зверыць шлях свой*
*з высокаю мэтай,*
*Быць і шчырым,*
*і строгім такім...*
*Ён у кожным з нас бачыў паэта,*
*Мы — настаўніка вечнага ў ім.*

І сапраўды, Фёдар Міхайлавіч ненавязліва, з уласцівай яму далікатнасцю выхоўваў у нас, яго студэнтаў і вечных вучняў, высокія маральныя якасці, густ, любоў да мовы, да людзей, да роднай зямлі. За ўсё гэта я яму «і за гарою пакланюся», гаворачы яго любімымі словамі. А пры любой нагодзе з радасцю і гонарам кажу: «Я вучылася ў Янкоўскага».

**Вольга ШПАКЕВІЧ,**
**фотаздымак прадастаўлены Беларускім дзяржаўным музеем-архівам літаратуры і мастацтва**

## Дэбют

**Аксана ЖДАНЮК**



Аксана Жданюк нарадзілася ў 1990 годзе. Жыве ў вёсцы Шашкі Ганцавіцкага раёна. Закончыла Круговіцкую сярэднюю школу і паступіла на дзённае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, атрымала спецыяльнасць «Бібліятэкар-бібліёграф. Менеджар». Працуе загадчыцай бібліятэкі аграгарадка Агарэвічы. Захапляецца беларускай паэзіяй. У газеце «Літаратура і мастацтва» друкуецца ўпершыню.

### Лячу пад вянец…

*Мы, напэўна, не пара з табою:*
*Мне здаецца, мы з рознага цеста.*
*Ты дарослы, станоўчы герой…*
*Ну, а я шалапутка і песта…*
*Колькі сварак у нас! Колькі слоў!*
*Колькі крыўды і колькі пакуты….*
*Ты слязінкі цалуеш ізноў,*
*І мой тварык нахабна раздзьмуты.*
*Ты харошы і добры хлапец,*
*Ты акрэсліў каханне мяжою…*
*Стрымгалоў я лячу пад вянец —*
*Мы цудоўная пара з табою…*

### Я не такая

*Я не такая, як усе…*
*А можа, толькі мне здаецца?*
*І болем сэрца адзавецца:*
*Я не такая, як усе.*
*Сумую я за вас часцей,*
*Складаю вершы на арэлях…*
*Мяне і вы не разумелі:*
*Я не такая, як усе…*
*Адказ прыходзіць пакрысе*
*На дужа танныя насмешкі.*
*На шчоках дзвюх слязінак сцежкі:*
*Я не такая, як усе…*

### Рэчаіснасць

*Жывем як быццам бы з запалам,*
*Імкнёмся, прагнем, дастаем…*
*І грошай, як заўсёды, мала,*
*І, як заўсёды, — сто праблем!*
*Шукаем шчасце за вугламі,*
*Ірвём кашулі, б' ём насы,*
*Завём камп'ютары сябрамі,*
*Чакаем светлай паласы.*
*Кахаем модных і багатых —*
*Жыццё сучаснае ідзе,*
*Ды толькі ў сэрцах вінаватых*
*Чамусьці сэнсу нестае…*

### Адзінота

*Ты, адзінота, абміні,*
*Не лыпай сумнымі вачыма.*
*Не плач працяжна, не стагні,*
*Не грукай роспачна дзвярыма.*
*Прытулак ёсць аж цераз край*
*Для гора, бедаў, слёз, напасцяў,*
*З мяне хапіла… Дык бывай!*
*Я запрашаю ў сэрца шчасце.*

**Вера МІХНО**



### Бабіна лета

**На дні бабінага лета выпадаюць імяніны Соф'і, Веры, Надзеі і Любові.**

*Каптур пунсовы арабіны,*
*Апенькі ўсыпалі пянькі,*
*Дабро з палёў ужо сабралі,*
*Паўсюль красёнцы павуціны,*
*Хоць гэта — восені дзянькі,*
*Ды летам бабіным назвалі.*

*Імя кабета апраўдае.*
*Бог на вяку даў момант ёй:*
*І не дзяўчо, і не старая,*
*У самай спеласці сваёй.*
*Ад чыстай веры яе светласць*
*І Соф'і мудрасць — з тых вякоў.*
*Надзея ёй — пунсовы ветразь,*
*А вецер ветразю — любоў!*

***

*Раяцца нашы думкі, быццам пчолы.*
*Няхай дзве-тры з іх будзе невясёлых,*
*Пяць слушных думак, бессаромных —*
*пара,*
*І думка — летуценне, думка — мара.*
*Няхай вясёлыя дзясяткамі лунаюць,*
*Калі з журбой — не вельмі іх прымаюць…*
*За кожнай думкай прызнаю правы,*
*Абы не пакідалі галавы!*

***

*Як у маці ў абдымках,*
*З маленства душой спачываю*
*Паміж красак духмяных,*
*На мяккай самлелай траве.*
*Ветрык лашчыць,*
*Даносяцца спевы птушыныя з гаю*
*І вяночак з рамонкаў*
*Красуецца на галаве.*

*Жоўтым вокам рамонка*
*Здаецца паўдзённае сонца,*
*І пялёсткаў-аблокаў*
*Вакол яго россып ляжыць.*
*Быццам хто закаханы*
*І там, у сусвеце бясконцым,*
*Спрабаваў на пялёстках*
*Рамонкаў сабе варажыць.*

***

*Прадбачыць я жадаю і праклічваць,*
*Святло на таямнічае праліць,*
*З дарогі каб не збіла акалічнасць,*
*Памылак каб фатальных не рабіць.*

*За веданне і скарб аддаць — не многа*
*Ды й не шкада. Клянуся на крыжы…*
*Але на гэта погляд свой у Бога:*
*Памылкі ды пралікі вучаць жыць.*

### Край мой Лепельскі

*На досвітку туман, што белы вэлюм.*
*Ружовыя, нібы дзяцінства, зоры.*
*Чаромхі пах п'яніць мацней ад хмелю,*
*Як з аметыстаў — пацеркі, азёры…*

*Няхай гамоняць, што ў Еўропе лепей.*
*Амерыка чакае там кагосьці.*
*Мне ж раны сэрца гоіць толькі Лепель*
*Жывой вадой з крыніцы маладосці.*

***

*Палетак жытнёвы такі быў духмяны,*
*Ды восенню позняю ён узараны.*
*Нагадвае пусту счарсцвелага хлеба:*
*Закінуты, чорны, ляжыць без патрэбы.*
*Тут больш жаваронка не чуецца песня,*
*Марозу пялёнка на ім белай плесняй.*



*Фота Кастуся Дробава*

**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ**



* * *

*У вачах тваіх — вёсны і зімы*
*Шчасця нашага — дару нябёсаў.*
*Ў гэтым свеце мы — пілігрымы.*
*Ў свеце жорсткім, а часам — дзівосным.*

*У вачах тваіх — радасць стрэчы,*
*Зіхацінкі-іскрынкі ўдачы.*
*Бачу іх — і святлее вечар.*
*Дождж і той нам аб шчасці плача.*

*У вачах тваіх бачу збавенне*
*Ад мінуўшчыны страшнага болю.*
*Нават верыцца ў летуценні —*
*Тую мару, што стане любоўю…*

***

*Аазіс у любой пустыні ёсць.*
*Калі ж і там крыніца засыхае —*
*Так чалавек згубляе маладосць,*
*Хаця душа усё яшчэ жывая.*

*Згубіць усё ў гэтай мітусні*
*Ён можа …*
*І ў любым узросце —*
*Ператварыць свае хвіліны ў дні…*

*…Няхай бруіць крыніца маладосці!..*

* * *

*Блакіт, што ў люстры вачэй,*
*Усмешлівых ці сур'ёзных,*
*Мне мроіцца. Ўсё ярчэй*
*Успыхвае ранак росны.*

*Так хочацца ўпасці ў траву,*
*Зліліся каб сэрцы, дыханне…*
*А потым люляць сіняву*
*Вачэй, дзе жыве каханне…*

* * *

*Мкнецца сёння душа на прастор,*
*Дзе блукае ў лясах пershaвосень.*
*Маё шчасце у вырай даносяць*
*Журавы. Бачу Крым, і Басфор*
*Бачу я ў сваіх снах летуценных,*
*І каханай руку — у сваёй.*
*Каб саткаўся з хвілін неацэнных*
*Наш вясельны бялюткі сувой.*
*І няхай нас вясна абвянчае*
*І падорыць нам руны свае,*
*І ключы ад дзвярэй тайных раю,*
*І няхай сэрца птушкай пяе!..*

* * *

*Мелодыі роднай зямлі*
*Я чую ў вясны пералівах,*
*У сонечных промнях шчаслівых,*
*У пошуме ліп і ялін.*

*Мелодыі роднай зямлі —*
*І ў шэпаце хваль нарачанскіх,*
*І ў роздуме храмаў заслаўскіх,*
*І ў клятвах сыноўняй любві.*

*І дзе б мы з табой ні былі —*
*Душою заўсёды з радзімай,*
*Далёкай ці блізкай — адзінай.*
*Гучыць голас нашай крыві*
*Мелодыяй роднай зямлі.*

* * *

*Паралельныя перасякаюцца,*
*Парушаючы ўсе законы,*
*Лёсы-рэкі, урэшце, зліваюцца,*
*Пачынаючы ўсё нанова.*

*Сэрца птушкай шчаслівай спявае*
*І звініць цецівою напятаю —*
*То каханне душу сагравае,*
*Прарастаючы з Неба зярнятамі…*



# Марына ЯЎСЕЙЧЫК
# Экспрэсіі

## Я ПАЧНУ, А ТЫ ПРАЦЯГНЕШ

Давай я пачну, а ты працягнеш. Чытай. Раніцы ўсход. Сонца трапяткое, сонца пяшчотнае грэе, цалуе ў нос. Жмурыкі нашыя любоўнай хвалі аддаюць імпэтам нябёс. Мы моцна-моцна кахалі. Мы так любілі жыццё! Аднак жыццё разлюбіла. Нашыя ўспаміны, памкненні. Нашы шалікі і швэдры, панчохі, пантофлі і сукенкі. Жыццё не шафа — цярпець і маўчаць не будзе, пакуль чалавек рукою сваёю ў яе вопратку складвае. Пасля ўзгрувашчвае. І ўпіхвае. Шафа трашчыць. Моўчкі. Жыццё проста сыходзіць з зямлі да сонца. Каб колкія яго прамяні расплюшчылі твае вочы. Мае вочы. Гэта не мы. Сыходзім з жыцця. Хутчэй наадварот. Жыццё нас кідае. Дарогі розныя. Ды шафа адна. На ўсё чалавецтва. Складваем. Набіваем яе дапаўна, каб тая аж трэснула. Не хачу верыць у тое, што ты не верыш мне. Давай я пачну, а ты прадоўжыш слушныя думкі выказваць у сне.

## МНЕ ДАВЯДЗЕЦЦА РАЗЛЮБІЦЬ КАВУ

Мне давядзецца разлюбіць каву. Толькі не сёння. Лыжку. Маленькую. У вялікі стракаты кубак, каб стварыць эфект, быццам бы кавы ў кубку многа. Быццам бы хопіць яе на дваіх. Мне давядзецца разлюбіць каву не таму, што яна дорага каштуе і яе можна купіць выключна з заробку, — таму, што сэрца баліць. Клапан забіты, сказаў мне доктар. Забіты лекамі ад прастуды, зёлкамі з гарбаты, дыетычным хлебам, гематагенам… Клапан забіты табою. Дакладней, успамінамі з неба, калі мы сустракаліся поначы на другім кантыненце. На краі свету. Сардэчны клапан забілі розныя мысленныя булькі, якія ствараюць уражаную рэчаіснасць. Яна ўражваецца табою, і я не магу паверыць у тое, што мы не бачымся ўжо другі сезон. Я люблю цябе, Атлантычны акіян! Люблю з імпэтам, як і каву. Толькі каву мне давядзецца разлюбіць. Цябе — ніколі.

## БЕЛЫМ ДРЭВАМ РАСЦІ

Над ракою тваёю трасецца мора. Яно — твая цвярдыня. Як неба, што над тваёю галавою. Сіла! Нябесная сіла выходзіць з цябе! Ведай ты яе прымяненне. Не жыві больш у сне. Трапяткое сэрца адкрый наўздагон ветру. Шаманка расце. Шаманка. Глянь. Паглядзі ў слоўнік, што за слова напісала ты. Рукі твае — сонца пялёсткі. Ногі твае — карані. Белым дрэвам расцеш ты ўгары.

## ТЫ ХОЧАШ ПАКЛІКАЦЬ МЯНЕ

Ты хочаш мяне паклікаць. Адчуваю гэта. Выгукні ўголас маё імя. Я адкажу табе ўзаемнасцю. Таму што каханне — такая сіла, якая руйнуе, разбурае, у магілу гатова загнаць. Але ж каханне — такая сіла, якая адбудоўвае. Крылы дае, каб лётаць. Ты проста баішся. Я проста ўдзячна. Не складанасць — лёгкасць быцця. Нават калі няўдача стварае сябе сама. У нас быў трыпціх — тры спатканні. І кожная сустрэча нібыта знаёмства. І кожная сустрэча нібыта развітанне да наступнай самапрэзентацыі. Нас чакае вечар, рог месяца. П'яўкай бераг вісіць дагары. Так у вадзе ён месціцца адбіткам сваім. Ты чакаеш. Адзін. Ты хочаш паклікаць. Выгукні. Толькі мацней.

## БЕРАЖЫЦЕ СПАДЧЫНУ

Зніякавеў час. Маўчыць у пошуках адказаў. Глядзіць на дахі. На заснежаныя дахі вясковых домікаў у горадзе. Гэтыя дахі — самыя шчаслівыя з усіх жыхароў Мінска. Бо на іх сышло блаславенне з нябёсаў. Упала на іх блаславенне. Упала — і вельмі прыгожа ды плаўна слізганулася на зямлю. У гароды. Адтуль пайшло ў горад. А калі б яно ўпала на бетонныя дахі шматпавярховікаў, разбілася б. Насмерць. І засталася б ад божага блаславення чорная пляма, як дзірка ў космасе, праз якую можна бачыць нашу будучыню. Беражыце спадчыну.

## ПАМАЛІСЯ, БОЖА, БОГУ СВАЙМУ

Памаліся, Божа, Богу свайму. За мяне памаліся. Шчасця свайго выракліся людзі. А бабулін Бажок усё можа. Бо памяць роду не прыдатак да беднасці і не дадатак да золата і срэбра. Памяць — гэта простая навальніца. Як грымне ў небе, так і адродзіцца. Прыбудзе жменя ведаў у віхуры тваіх валасоў.

Сталее і дбае пра сталасць маю твой Бажок, бабуля. Мой Бог пайшоў у пуньку наводзіць парадкі ды робіць усё спрытна, каб вялася гаспадарка. А твой Бажок, бабуля, побач са мною застаўся. Ты ж молішся Богу, каб дабра было многа ў мяне над галавою, пад нагою ды ў далонях. І каб на руках маністы. Жменяй. Тое Бажок і даў, што прасіла ты, бабуля. Бостваў многа, але Бог адзін. Хай моліцца матуля, каб адрадзілася зычлівасць яе. Справа не ідзе ў лад, калі не маліцца.

## МАЕ ПАЛЬЦЫ БАЛЯЦЬ

Мае пальцы баляць. Я хачу іх выкінуць. Знаеш, як вылузваюць гарох і фасоліны? Так і я хачу. Каб боль выслізнуў, нібы шалупінне з цыбуліны. Мае пальцы баляць, бо стамілася я за дзень пытанні пісаць у сваёй галаве, адказваючы на твае далёкія думкі. Гэтак лёгка стаць бервяном! Шчасце якое — проста казаць і слухаць. Маўчанне цела, якое нібыта гаворыць. Павыкручваю пальцы свае. Павыломваю. І выкіну іх. На вогнішча. На якім спальваюць вялікія творы сусветнай літаратуры. Цэнзуру праходзяць не ўсе літары, коды і шыфры. Самы разумны ўсё роўна пампрэ першым. Навошта тады пісаць мне паэмы, якія не маюць права на існаванне? Лепш проста рушыць наперад без усякага там шкадавання. Пальцы баляць. Пальцы робяць падказку, што не хочуць яны слухаць тваю музыку. Выключаю ZAZ.

## ЧАЛАВЕК-ДЗІВАК

Ніколі не бачыў дзівосаў — у неба скакаў і скакаў. Празрыста-сіняя палонка не давала табе жыцця. Яна не будавала палацаў, не разводзіла агню ў каміне. Быў ты звычайным дзіцёнкам. Але ва ўзросце быў. Ганчак. Як сібірская лайка. Увесь дзень, кожную гадзіну на машыне. З машыны ды ў машыну, як рэвалюцыянер з цягніка ды ў цягнік. Пры любым надвор'і, пры любым раскладзе было толькі так. Ты ніколі не бачыў дзівосаў, бо сам быў чалавек-дзівак. Забываўся, калі нерухома стаяў, які сёння дзень, які час. Вёсны-восені міма праходзілі, зімы ты ўспамінаў. Калі запрашаў на гарбату, зрэдку казала я «так». Сумняваўся, ці варта быць важаком сабачай зграі, калі дзяўчыну не падманеш белым іклом сваім. Стаіш і маўчыш. Ледзь не плачаш. Нізкі паклон мне даеш. І лёгка, быццам бы так было запланавана, у неба скачаш сваё. Сівыя аблокі з табой. Не помніш, хутка забываеш тых людзей, што былі з табой. Ваўкалакам заўсёды збягаеш, дзе ты быў, адкуль ты прыйшоў — не адкажаш. Адзінае выйсце: у капялюш неба злавіць. Застанецца сонца. Але ж абпаліць яно, да яго не сіганеш. Мне трэба стаць Маленькім Прынцам, каб планета была як мячык, які ў двары штурхаў нагамі да мяне вясковы хлопчык. Каб планета была як мыльная бурбалка, якую мы бачылі на вышыні трэцяга паверха. Я стану Маленькім Прынцам, а цябе ператвару ў Ружу. Яна баіцца неба, імкнецца да цяпла. Кветка жыве пад шкляным купалам, болей нічога не мае яна. Ты сказаў мне: «Страшна не тое, што мы дарослыя, а тое, што дарослыя — гэта мы». То апошняе было слова, больш нічога ты не сказаў мне. Ты прастрэліў сабе галаву. Белы ікол твой упаў. Без зграі важак загінуў. Ну і што з таго? Неба тваё небам і засталося. Піць гарбату пайду з іншым.

## ТОНЕ ТУМАН У РУЖОВЫМ ЗАХАДЗЕ СОНЦА

Тоне туман у ружовым захадзе сонца. Постаці павялічваюцца. Растуць. Цені. Чалавеку кажуць пра тое, што бывае Канец Свету. Калі надрывы. Калі свярбяць далоні ўзяць цыгарэту і запаліць. Цені расказваюць пра тое, што поўня ў небе не стане працягам таго, хто самагубства здзейсніць. Цела пампрэ — душа застанецца. Але душы не ўмеюць паліць. Яны дыхаюць свежым паветрам. Душы нібыта куранты. Малыя, жоўтыя, але выйсця да Мора Сусвету знаюць. На крыльцах сваіх лётаюць, разганяючы смецце касмічнага пылу. Поўня ў небе — не іх прыдатак да лёсу, які не скончыцца ручною паклажай у самалёце цялесных пакут. Я тут. І цень мой побач са мною. Буду жыць. Не палю...

## ЗАБАБОНЫ

Косы завіткамі кладуцца на куточкі вуснаў тваіх. Давай разам іх пацалуем — каб лепей раслі мае валасы. Выдумаем сабе новы забабон. І будзем верыць яму. Быццам бы ён чалавек — мужчынскі род. З якога роду — вырашаць табе. Князь. А стаў гразззю. Ці Кароль. Без вопраткі. Голы Кароль. Насамрэч, забабонаў многа. Толькі пільнуй, каб з вялікай дарогі не пайшлі вайною яны. Чаго пойдуць, пытаеш? Проста так, ад душы. Ты ж проста п'еш гарбату. Проста дыхаеш, жывеш. Так і яны, забабоны, хочуць простага. Існаваць. Існі дарогай выдумак-прыдумак, маляваць вобразы, кідаць бубны з гукамі. Пабубнім давай пра забабоны, раптам спраўдзім іх…

## РЭЧАІСНАСЦЬ МАЛЮЕ СУСВЕТ

Рэчаіснасць малюе Сусвет. Без слоў. Без слоў-выдумак. Так. Але. Акалічнасці твае. Мае. Ты — каханы чалавек. Я — твая любімая. Але настолькі адносна, што нават не выдумаеш. Не прыдумаеш, дзе тут праўда, а дзе і не. Кветкі россыпам — збірай пярсцёнак для мяне. Рыхтуюся. Рыхтую сябе да цябе. Да таго, каб стаць тваёй жонкай. Травы шэпчуць песню мне. А ты п'еш гарэлку. Сонца шые сукенку мне. А ты ходзіш па дзеўках. Дзе ж ісціна, а дзе выдумка? Рэчаіснасць сама выбудоўвае цаглінкі рэчаў, з якіх складаецца Сусвет. І нават тыя, хто не верыць у цябе, не верыць у мяне, прысутнічаюць у дзеі. Першай. Другой. Трэцяй… А ты ідзеш, борздка крочыш наперад. Рыхтуешся да мяне. Станеш мужам маім. Я — тваёй жонкай. Гэта ісціна. А болей і не трэба роздумаў, хопіць. Тлустая кропка. Любім. Кахаем. Жывём.

## УЗЫХОД СОНЦА

Ты хаваеш узыход ад мяне? Навошта? А, ты малюеш яго. І не хочаш, каб нехта яшчэ заўважыў, як уздымаецца прамень. Вось ён. Ён пойдзе з асфальту ды на дом цагляны, вышэй і вышэй. Дабраўся да тваёй галавы. Цяпер ты — Кароль Сонца. Ёсць у мяне «Кароль Чернило». Паслухай яго, ён ляжыць у кішэні, ён іграе і спявае. Трымай навушнікі ў вушах. Ты чуеш і без іх? Табе падабаецца, каб ніхто не перашкаджаў пэндзлік мачаць у фарбы. Мой імпрэсіяніст! Тваё мастацтва несапраўднае. Рэалізм — вось вышыня майстэрства. У ім усё акрэслена так, як павінна быць. Табе ў галаве толькі экспрэсія, пачуцці ўласныя. Слухаеш музыку, сэрца б'ецца пад песні Ніка Кейва, якія няспынна верцяцца-круцяцца ў тваёй галаве. Я ўсё думаю, як ты можаш ствараць экспрэсію, калі ты анархіст? Адмаўляеш мне. Тваё «не» такое грубае, такое строгае. Апускаеш пэндзлік у чырвоную фарбу. Крываваe сонца тваё лезе ў шчыліны. Невясёлы ўсход. Навошта яго ты малюеш? Усе бачылі твой шэдэўр — карціна Манэ. Копію здымаеш з таго, што створана ўжо. Па-мадэрнову, кажаш. Апускаеш пэндзлік у чорны бруд і кропелькі на сонцы ставіш — атрымалася савецкая сукенка з шафы тваёй маці. Рэвалюцыянеры не выціраюць ногі аб дыванкі, так і ты, анархіст, адмаўляеш, што сонца можа быць проста чырвонае. Ты падумаў, што трэба яго «освежить», зрабіць з яго сарафан. Нік Кейв на ўсё горла гарланіць. Сумна жыць яму ў песнях. Так і табе ў карцінах. Малюй. Ты малюй, а я слухаць пачну, як шапталіся явар з калінаю, як кахалі адно аднаго Іван ды Мар'я.

## Я НЕ ЗНАЛА, ШТО МАЯ ЗЯМЛЯ ТАКАЯ БЕЛАЯ!

Раней я не знала, што мая зямля такая белая! Што яна ўпала на зямлю маю, якая пад маімі нагамі, беллю снежнай з нябесных шатаў.

Раней я не знала, што мая зямля такая верная! Яна не здраджвае мне нават тады, калі ўзнікае жаданне з'ехаць у іншую краіну.

Мая зямля такая белая, што яе ўзгоркі і палі расхінулі сваю душу перада мною. І я не змагла адвесці вачэй ад белага-белага наваколля, якое нібы палярны белы мядзведзь.

Я не знала, што мая зямля такая верная. Калі я кідала апошні позірк у бок беларускай зямлі, зямля блаславіла мяне на падарожжа і сказала: «Шчаслівa жыві!»

Я не знала, што мая зямля такая белая.

Я не знала, што мая зямля такая верная.

Я даведалася пра гэта толькі тады, калі ехала цераз літоўскую мяжу ў Вільню да Гедыміна.

# Каб звярнуцца па адрасе. Правільна!

«ЛІМ» ПРАЦЯГВАЕ СЕРЫЮ АРТЫКУЛАЎ, ПРЫСВЕЧАНЫХ АКТУАЛЬНЫМ ПЫТАННЯМ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Думаю, неаднойчы пры афармленні аб'яў, указальнікаў і іншых інфармацыйных тэкстаў узнікала пытанне: як правільна напісаць — *экзамен па прадмету* ці *прадмеце, звесткі па тэлефоне* ці *тэлефону, спецыяліст па праграмаванню* ці *праграмаванні, аддзел па прыродазнаўству* ці *прыродазнаўстве*? Такая практычная складанасць можа вымусіць да замены ўказаных канструкцый на іншыя або ўвогуле да афармлення тэкставых паведамленняў толькі на рускай мове.

Найбольш актуальна гэта для назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, бо пры выбары меснага або давальнага склону ў іх змяняюцца канчаткі, а ў жаночым родзе канчаткі ў гэтых склонах аднолькавыя (Д = М): *рэстаўрацы**і*** і *па рэстаўрацы**і**, спецыяльнасц**і*** і *па спецыяльнасц**і**, вадз**е*** і *па вадз**е**, норм**е*** і *па норм**е***.

**Правілы ўжывання канструкцый па + назоўнік м. і н. р.**

| Канчатак | Тып асновы | | Прыклады |
|---|---|---|---|
| -е | м. р. | Неасабовыя назоўнікі з асновай на цвёрды зычны і *г, х*, якія пераходзяць у *з', с'* | (па) факце, законе, тэлефоне, скайпе, аналізе, менеджменце, грэйпфруце, каце, крузе, беразе, але па доме 'будынку'/ па дому 'жыллі, гаспадарцы' |
| | | Асабовыя назоўнікі з асновай на цвёрды зычны | (па) сыне, браце, кангрэсмене, консуле, футбалісце, экскурсаводзе |
| | н. р. | Аснова на цвёрды зычны | (па) агенцтве, сумяшчальніцтве, дрэве, сяле |
| -у | м. р. | Неасабовыя назоўнікі на *г, к, х* | (па) бруку, мабільніку, ліку, догу, трэнінгу, кікбоксінгу, арэху, цэху |
| | | Асабовыя назоўнікі з асновай на шыпячы, *р, ц, г, к, х* | (па) гледачу, дырэктару, міратворцу, дыетолагу, настаўніку, пастуху |
| | н. р. | Неасабовыя назоўнікі на *г, к, х* | (па) воку, воблаку, рэху, вуху |
| -ю | м. р. | Асабовыя назоўнікі з асновай на мяккі зычны | (па) вучню, дыджэю, парламентарыю, цесцю |
| -ы | м. р., н. р. | Неасабовыя назоўнікі з асновай на зацвярдзелы зычны | (па) твары, цэнтры, іміджы, скрэтчы, сэтары; моры, футры, аблічча, месцы |
| -і | м. р., н. р. | Неасабовыя назоўнікі з асновай на мяккі зычны | (па) хакеі, фэн-шуі, гатэлі, алені; травалячэнні, праграмаванні, размеркаванні, дзесяцібор'і |

Звернемся да гісторыі пытання. У пачатку XX ст. у сістэме беларускага словазмянення не было выразных размежаванняў паміж давальным і месным склонамі ў адзіночным ліку (агульны канчатак *-у/ -ю* для шэрагу асноў): *па гэтым сталу/ па гэтаму сталу* («Беларуская граматыка», 1936). Грунтоўныя правілы ўжывання канструкцый з прыназоўнікам *па* сфарміраваліся ў «Граматыцы беларускай мовы» (1962). Так, формы меснага склону сталі характэрны для прасторавага значэння, часу ('пасля'), выражэння адносін да каго-небудзь: *хадзіць па пакоі*, *па тэлеграфе перадавалі*, *па захадзе сонца*, *удар па ворагу*. Давальны склон замацаваўся за характэрнымі для публіцыстычнага, навуковага стылю канструкцыямі са значэннем спосабу дзеяння: *строга па графіку*, *па голасу адчуваў*, *гурток па вывучэнню прыроды*.

Нормы беларускай мовы ў XX ст. складваліся ў цесным узаемадзеянні з законамі рускай мовы, дзе асноўнай формай з'яўляецца Д. скл.: (*по правому берегу*, *по вечеру*, *по архиву*, *инспектор по труду*), магчыма таму ён заняў дамінуючую пазіцыю і ў беларускай, асабліва ў «канцылярскіх выразах»: *па загаду дырэктара*, *працаваць па плану, па хімічнаму складу*, *агент па збыту, спаборніцтва па тэнісу, вышэйшы па званню*. Прынцыпы ўжывання падобных канструкцый станавіліся прадметам увагі такіх вядомых мовазнаўцаў, як К. Атраховіч (Крапіва), Ф. Янкоўскі, А. Наркевіч, Г. Арашонкава і В. Лемцюгова, П. Шуба і інш. Практычную цяжкасць уяўляла тое, што правілы ў падручніках і слоўніках 1960 — 1990-х гг. рэкамендавалі той ці іншы склон з улікам разгалінаванай сістэмы значэння слова, у некаторых выпадках дапускалася два склоны. Пераважна ў адзіночным ліку нормай быў Д. скл., а ў множным ліку і пры займенніках — М. скл. (*блукаць па лясах*, *сумаваць па ім*). І гэта паслужыла фактарам выцяснення Д. скл. У апошні час канструкцыі *па* + назоўнік м./ н. р. у М. скл. атрымалі нарматыўную ацэнку ў асобных выданнях: «Сучасная беларуская мова», пад рэд. Л. Грыгор'евай (Мінск, 2006), «Беларуская мова» пад рэд. Л. Злобін (Віцебск, 2008). У «Кароткай граматыцы беларускай мовы» пад рэд. А. Лукашанца (Мінск, 2007) выказваецца думка, што «не ўсе канструкцыі, у якіх *па* спалучаецца з формай давальнага, лёгка могуць быць замененыя спалучэннямі з месным». Гэта датычыць форм з абмежавальнымі, прычыннымі і часавымі адносінамі: *даць па рублю*, *урок па пісьму*, *дождж пайшоў як па заказу*, *капуста па вядру*, *сказаць па сакрэту*, *па цэламу месяцу*.

У гэты ж час перыядычныя выданні перайшлі на поўнае выкарыстанне М. скл., як у матэрыялах афіцыйнага, так і забаўляльнага зместу. Фактычныя падлікі, праведзеныя паводле матэрыялаў газеты «Літаратура і мастацтва» за сакавік 2001, 2006 і 2013 гг., паказалі максімальнае ўжыванне канструкцый з М. скл. (92% у 2001 г., 100% у 2006 г., 98% у 2013 г.): *будуе па праекце*, *па заказе, пашукаць па інтэрнэце, розны па ўзросце*, *па ўсім свеце, па знешнім гандлі*, *па адным творы, па старажытным парку, па ўласным жаданні*, *дэманстраваліся па тэлебачанні, калегі па пяры, разьбяры па дрэве.* Падлікі, зробленыя па іншых беларускамоўных выданнях («Настаўніцкая газета», «Культура», «Звязда») з 2001 па 2013 г., таксама выявілі замацаванне канструкцый «*па* + назоўнік м. (н.) р.» з М. скл. як асноўнай формы.

Сёння канструкцыі «*па* + назоўнік м. р. у М. скл.», «*па* + назоўнік н. р. у М. скл.» ахапілі ўсе магчымыя формы выражэння адносін. Гэта аб'ектныя адносіны з адценнем прыкметы, суаднясення: ***па** даўнім **звычаі***, *чэмпіёны **па сноўбордзе**, **па кантракце***, *вядомы **па серыяле**, **па іміджы***, *спаборніцтвы **па дзесяцібор'і***, *апранацца **па надвор'і**, **па запатрабаванні***; са значэннем прасторы дзеяння: *стукнуў мяне **па лобе***, ***па** ўсім **свеце***, ***па месцы** жыхарства*, ***па моры***; аб'екта, з дапамогай якога адбываецца дзеянне: *сказаў **па тэлефоне**, **па запрашэнні**, **па дрэве***, *прыстасаванне **па раскроі** металу*; размеркавання: *атрымалі **па мільёне**, выдаваць **па** адным **творы***; часавыя адносіны: ***па** тым **часе***, прыйсці па ***абедзе***; адносіны да чалавека: *сумавалі **па** мудрым **лектару***, *радня **па мужу***. Акрамя таго, форма М. скл. з канчаткам *-е* стала частай для выразу *па дому* незалежна ад значэння 'будынак' або *'жыллё, ачаг'*: ***па доме** разносіцца пах жывой хвоі* і *прыцягнуць дзіця да працы **па доме***.

Варта памятаць, што для неасабовых назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду з цвёрдай асновай (і дзясятка спрадвечна беларускіх слоў м. р. на *г, х*, якія пры скланенні пераходзяць у *з', с'*) нарматыўным будзе канчатак *-е*: *па тэлефон**е**, па дрэв**е***, *па бераз**е***, *па верс**е***, для назоўнікаў з асновай на зацвярдзелы зычны — *-ы*: *па твар**ы***, *па абліčч**ы***, пры мяккай аснове — *-і*: *па пако**і***, *па даручэнн**і***. У назоўнікаў м. і н. р. з асновай на *к, г, х*, дзе не адбываецца змякчэння асновы да *з', с'*, ужываецца канчатак *-у*: *па маніторынг**у***, *па рэх**у***, *па букецік**у***, *па вок**у***. Для назоўнікаў, якія абазначаюць чалавека, канчаткі будуць наступныя: *-е* пры цвёрдай аснове: *па сын**е***, *-ю* — для мяккай: *па вучн**ю***, для астатніх асноў *-у*: *па дырэктар**у***, *па муж**у***, *па выкладчык**у***. Назвы жывёл будуць скланяцца як неасабовыя назоўнікі: (*па*) *каце*, *мядзведзі*, *сэтары*, *арангутангу*.

У дапасаваных азначэннях будуць канчаткі М. скл. *-ім* (*-ым*): *па Першамайск**ім** раёне*, *па мастацк**ім** шкле, па індывідуальн**ым** праекце*, *па ўласн**ым** жаданні, па Чарнігаўск**ім** бруку*, *па нов**ым** фартуху*.

Такім чынам, у мове назіраецца замена дапасавання сінтаксічных канструкцый з прыназоўнікам *па* пры шэрагу акалічнасных і аб'ектных адносін з давальнага склону на месны. Апошні варта рэкамендаваць у якасці нарматыўнага ў сувязі з частотнасцю выкарыстання ў друку, з улікам акалічнаснага значэння і прыназоўнікавага дапасавання форм з *па*. Абсалютна прымальнымі будуць выразы *па законе*, *па факце*, *па адрасе, па прадмеце, па месцы жыхарства.* Таксама канструкцыі «*па + назоўнік*» можна замяняць беспрыназоўнікавымі канструкцыямі: *цэнтр па тэхналагічным супрацоўніцтве — цэнтр тэхналагічнага супрацоўніцтва, аддзел па інавацыйным развіцці — аддзел інавацыйнага развіцця.*

**Кацярына ШЧАСНАЯ,**
**малодшы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры**

*Думка чытача*

# Адкуль сыр-бор?

Вельмі ўважліва паглядзела знойдзеную ў інтэрнэце перадачу «Слуцкія паясы». Змястоўная, арыгінальная, патрэбная, асабліва маладому пакаленню... Але ж навошта завастраць увагу на вершы Максіма Багдановіча «Слуцкія ткачыхі»? Ды ці так трэба разумець Багдановічавы радкі, як іх каменціруюць выступоўцы? Памятаю кожны радок твора і не веру сваім вушам, слухаючы «каментатараў». Бяру «Вянок» М. Багдановіча і чытаю, правяраючы сваю памяць:

*А за сцяной смяецца поле,*
*Зіяе неба з-за акна, —*
*І думкі мкнуцца мімаволі*
*Туды, дзе расцвіла вясна;*
*Дзе блішча збожжа ў яснай далі,*
*Сінеюць міла валькі,*
*Халодным срэбрам ззяюць хвалі*
*Між гор ліючайся ракі;*
*Цямнее край зубчаты бора...*
*І тчэ, забыўшыся, рука,*
*Замі́ж персідскага узора,*
*Цвяток радзімы васілька.*

У перадачы аспрэчваецца апошні радок, маўляў, што «ніякіх васількоў на слуцкіх паясах няма!». Дык жа калі ўчытацца ў верш М. Багдановіча, то вынікае, што «цвяток» — не сама «кветка», а толькі яе цвет, цвіценне, красаванне («сінеюць валькі», «закрасавалі валькі»). Ці не на гэта ж указвае і родны склон: «васілька». Гаворка пра той народны колер — «васільковы», як і «бурачковы», «вішнёвы» і г. д. Ды і ва ўсіх тлумачальных слоўніках беларускай мовы словы «цвет», «цвісці», «цвіценне» — гэта літаратурныя беларускія словы,



аманімічныя рускамоўным, а не запазычаныя. Так, на слуцкіх паясах валошак-васількоў няма, а колер «васілька» («васільковы») сустракаецца вельмі часта нават і ў тых, паказаных неаднаразова ў перадачы. Думаецца, не варта папракаць паэта ў тым, што ён выказаўся сімвалічна, алегарычна ці метафарычна.

**Аліна АБАБУРКА**

# Даравацць не позна

Выдавецкі дом «Звязда» выпусціў кнігу Алены Брава «Дараванне-Прощение-Vergebung» на трох мовах: беларускай, рускай, нямецкай.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Нягледзячы на немалы шэраг кніг, вядомасць А. Брава, паводле яе ўласных слоў, «хутчэй падводная». Камерная, прыцішана-прыглушаная. У дадатак да стрыманасці пазіцыянавання самой пісьменніцы, існуе пэўная сціпласць з боку нават самых удзячных яе чытачоў. Прыгадваецца задумліва-лаканічны каментарый старэйшага пісьменніка, радыёжурналіста Уладзіміра Мехава: на пытанне пра цяперашняе кола яго чытацкіх інтарэсаў 85-гадовы юбіляр вымавіў некалькі «дзяжурных» фраз і наступнае: «Алена Брава — вось тут сапраўднае...» Штосьці падобнае не так даўно прамільгнула ў сецыве з-пад пяра (прабачце, клавіятуры) Валерыя Гапеева, уражанага раманам «Менада і яе сатыры».

Што да крытыкі, яна зрэдчас спрабуе выказацца, але досыць няўпэўнена. А можа, усё заканамерна? Той-сёй крытык, напэўна, з задавальненнем паразважаў бы пра асаблівасці аўтарскага пісьма, але ж яны тут настолькі адметныя, што крытычнае пісьмо рызыкуе страціць сваю адметнасць. Не ўсе «медыя-персоны» пагодзяцца на гэта!.. Яшчэ, напэўна, меў бы рацыю той, хто прачытаў бы А. Брава праз інтэртэкст яе твораў. Але ж ён такі багаты! Як студэнты часам кажуць: «Каб жа тое ўсё прачытаць!..» Дык «усё» адразу не трэба! Узяць адзін твор, потым — другі, аддзяліўшы «другасныя», метафарычныя алюзіі ад прынцыповых, вызначальных. Рана ці позна гэта давядзецца рабіць, хаця б у межах прэзентацыі падрастаючаму пакаленню, для якога спатрэбіцца падрыхтаваць і больш-менш сур'ёзны аналіз праблематыкі. Кажаце, у праграме няма? Гэта часова.

* * *

Так сталася, што часопісную публікацыю «Даравання» я прачытала раней за іншыя творы Алены Брава. Што ж: пазнаёміўшыся з такімі «ўводзінамі», таксама адчула нешараговасць з'явы. Адметны асацыятыўны стыль (як высветліцца потым, непараўнальна больш заўважны пры знаёмстве з іншымі тэкстамі), яшчэ пакуль свежая для беларускай літаратуры тэматыка («нашы за мяжой»), шчырае асабістае перажыванне («клінічна абвостраная ўражлівасць») і — галоўнае ў сэнсе выхаду твора за «мясцовы» кантэкст — надзвычай далікатнае стаўленне да праблемы былых «ворагаў» — праблемы, вострай «тут» і «там». Магчыма, апошняе і выклікала цікавасць і нямецкага перакладчыка.

Цяжэй вызначыць поле цікавасці расійскага чытача — маючы на ўвазе вялікі аб'ём тамтэйшай кніжнай прасторы. Між тым, апублікаваная ў «тоўстым» часопісе «Сибирские огни», аповесць уганараваная прэміяй імя К. Сіманава — яе прысуджае Міжнародная асацыяцыя пісьменнікаў-баталістаў і марыністаў (г. Масква). Ніякіх баталій, аднак, у кнізе няма, і ўзнагарода нібы падкрэслівае тую акалічнасць, што тэма вайны ў нашы дні вымагае, перадусім, адлюстравання псіхалагічнага яе ўздзеяння: на продкаў і нашчадкаў, ахвяр і забойцаў, ваенных і цывільных, дзяцей і дарослых... Крызісу бязмежнай тэмы ў сучаснай літаратуры застаецца толькі здзіўляцца, а нешматлікія прэцэдэнты вартыя самай пільнай увагі.

Хто каму што дарые ў «Дараванні»? Маладая жанчына з Беларусі дарые свайму свёкру, былому нямецкаму салдату. Пры вонкавай прастасці і псіхалагічнай напружанасці як не пазнаць «почырк» найбольш таленавітых твораў XX стагоддзя: напрыклад, знакамітай «Чароўнай гары» Томаса Мана.

Псіхадраматычны *формазмест* (здзяйсненне хрэстаматыйнага адзінства) пры ўнікальнай аўтарскай «энергетыцы», што прабліскае ў стылі, ужо абяцае чытачу штосьці каштоўнае — рэдкую ракавінку ў вялізным моры рознага кшталту славеснасці. Але гэта яшчэ не ўсё.

* * *

У гутарцы з пісьменнікам і журналістам Алесем Карлюкевічам (Interview-пасляслоўе) Алена Брава распавядае, між іншым, пра сваё бачанне галоўнай мэты літаратуры: «Справа пісьменніка — трапіць у «дзясятку» спадзяванняў і трывог свайго пакалення, найбольш дакладна выразіць дух часу. У кожнай эпохі свой уласны код. Яго і трэба імкнуцца адчуць». І цяперашні «дух часу» шмат у чым прасякнуты трывогай за Германію. А як інакш ставіцца да сучасных немцаў, хто «цярпліва трывае на гэтай цудоўнай зямлі спадароў-эмігрантаў, абароненых, нібыта даспехамі, добра фінансуемым статусам "ахвяр фашызму"»? Як ставіцца да праблемы неафашызму, які пускае парасткі зноў-такі перадусім у Германіі, — рамантычная мара пра рэванш, унаследаваная ад нераскаяных дзядоў і бацькоў?..

Ратуе чалавецтва Памяць. «Дараванне» — увасабленне Памяці нават у літаральным сэнсе: наклад кнігі — 1418 асобнікаў. Менавіта столькі дзён доўжылася Вялікая Айчынная вайна. Трывога за Памяць — рухавік драматургіі твора побач з сюжэтнай драмай сустрэчы нашчадка «вогненнай




вёскі» з былым ворагам. Неістотна, што ў развагах гераіні чуецца аўтарская інтанацыя: любы сучаснік патэнцыяльна здольны і нават вымушаны (той самай «кодавай» трывогай!) разважаць ці адчуваць у адпаведным рэчышчы: «*На жаль, ніхто не можа пакарыстацца чужой памяццю. І не хоча... Праз шэсць дзесяткаў год пасля Халакосту жыхары баварскага горада Дахау выступаюць за закрыццё мемарыяла, створанага на месцы былога нацысцкага канцлагера. А дамы, што размяшчаюцца ў непасрэднай блізкасці ад труб крэматорыя, што ў час вайны дымілі днём і ноччу, лічацца зараз першакласнай нерухомасцю, бо прылягаюць да ціхіх зялёных раёнаў. І тыя, хто жыве ў гэтых дамах, не пакутуюць ад начных жахаў...*»

Дбаць пра Памяць вымушае не толькі малая колькасць яе адэптаў і невялікая рэшта былых нацысцкіх салдат, каб адэптаў стымуляваць. Забыццё спрыяе і славуты дух-код часу: «*Рытм жыцця паскараецца, усе доследы імгненна робяцца састарэлымі; кожны з людзей самотны, нібыта рукавіца, згубленая ў снезе, мы хапаемся, як за абломкі ільдзін, за высновы аўтараў кніг, але яны ўжо не спатрэбяцца нам, бо свету, у якім жылі тыя, больш не існуе. Суцэльныя пласты рэальнасці адколваюцца ад нашага берага і касяком адыходзяць у нішто*». Выдатны малюнак дня сённяшняга, куды ўсё настойлівей уваходзіць віртуальны свет. У дадатак да філасофска-сімвалічнага адлюстравання сучаснай ментальнасці — ландшафт міфічны. Гераіні мроіцца: «*Мнемазіна, чамусьці ў кароткай джынсавай спадніцы, з татуіроўкай на сцягне, нібыта якая-небудзь дзяўчынка з дыскатэкі Эбенсфелда... таньчыць з люстэркам, нібыта на подыуме, на астраўку сушы, які катастрафічна змяншаецца, а ўнізе струменіцца Лета. Люстэрка тытаніды і зімовая вада Леты адлюстроўваюцца адно ў адным, памяць сцірае забыццё, забыццё змывае памяць...*» Калі трэба сведчанне «мастацкасці» твора, дастаткова паставіць побач апошнія два ўрыўкі, каб мець перад вачыма асноўныя мастацкія атрыбуты: гнуткую цэльнасць думкі, разнастайнасць формы, эстэтычна-інтэлектуальны фон прэзентацыі трохмернай уяўнай прасторы. Натуральна, што праблемы прасторы, куды можна ўвайсці, па вызначэнні нікому не будуць чужымі.

# Пабачыць Александрыю…

Дзень бібліятэк — добрая нагода для адкрыцця кніжнай выстаўкі. А Нацыянальная бібліятэка Беларусі прапануе наведнікам адразу дзве.

Першая выстаўка — «Храмы часу, памяці, думкі» — будзе цікавая перадусім спецыялістам. Яна паказвае бібліятэку як грамадскі інстытут, з аднаго боку, з іншага — яе нязменную сутнасць як захавальніцы рукапісных і кніжных помнікаў пісьменства, асновы навуковай дзейнасці, гаранта адукаванасці і культуры грамадства. Экспазіцыя ўключае каля 200 навуковых і вучэбных выданняў па гісторыі бібліятэк, бібліятэчным заканадаўстве, кіраванні, даследаваннях, інавацыях у бібліятэчна-бібліяграфічным абслугоўванні чытачоў, міжбібліятэчным узаемадзеянні, вядомых людзях у галіне бібліятэчнай справы. Прадстаўлены таксама выданні, прысвечаныя буйным бібліятэкам Беларусі, Украіны, Расіі, Германіі, Францыі, Кітая і інш. Экспазіцыю можна пабачыць у кальцавым калідоры другога паверха да 30 верасня.

Бібліяфілам і гісторыкам будзе цікавая выстаўка «Бібліятэка ў часе і прасторы», размешчаная ў музеі кнігі. Асноўныя яе экспанаты — гравюры старадрукаў XV — XVII стст., на якіх змешчаны выявыперапісчыкаў, скрыпторыяў і інтэр'ераў манастырскіх, універсітэцкіх і прыватных бібліятэк розных эпох. Гравюры змешчаны ў еўрапейскіх інкунабулах XV стагоддзя, палеатыпах XVI і беларускіх стараДруках XVII стагоддзяў. Так, на нямецкім палеатыпе 1532 года можна ўбачыць выяву адной з самых трагічных для кніжнага свету падзей — пажару ў Александрыйскай бібліятэцы. Выстаўка працуе да 15 кастрычніка.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Жорсткая праўда




Кніга Сяргея Панізніка «Асвейская трагедыя», хроніка падзей у Прыдзвінні ў час Вялікай Айчыннай вайны, упершыню выйшла ў 1992 годзе. Сёлета адбылося перавыданне кнігі ў Выдавецкім доме «Звязда».

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Асвейская зямля, якая знаходзіцца на поўначы нашай краіны, у Прыдзвінні, здзіўляе сваёй прыгажосцю, велічнасцю. Але ў гады Вялікай Айчыннай вайны гэтыя чароўныя мясціны былі ператвораны ў папялішча. Менавіта тут была здзейснена адна з самых жорсткіх, бязлітасных карных аперацый па знішчэнні мірнага насельніцтва.

Асвейшчына — малая радзіма пісьменніка. Таму трагедыя, якая тут адбылася, — яго асабісты боль. Вогнішчы Асвеі пакінулі ў памяці С. Панізніка свой след. «Маёю планідай былі ня радасныя сузор'і задыяку, а водбліскі пажарышчаў,» — піша аўтар у прадмове да кнігі.

У 1943 годзе фашысцкія акупанты сагналі жыхароў Росіцы і навакольных вёсак у касцёл. Напалоханых і змучаных, іх пратрымалі там некалькі дзён. А пасля адвялі на ўскраек вёскі і спалілі. Усяго ж у Асвейскім раёне было спалена 154 вёскі, знішчана каля 11 тысяч чалавек. Страшныя лічбы.

Маштабы гэтай трагедыі невымерныя. Невымерны і боль яе ахвяр. Тое, што адбылося, назаўжды застанецца ў іх памяці. Не загойваюцца вогненныя раны. Дакументальная аповесць «Асвейская трагедыя» — жаданне хаця б крыху палегчыць пакуты асвейцаў, паменшыць нясцерпны боль. Яе мэта — рэабілітацыя дзяцей вайны.

Невыпадкова выбраў Сяргей Панізнік жанр дакументальнай прозы. У адной з частак кнігі ён прыводзіць выказванне Канстанціна Сіманава: «Усю праўду пра вайну ведае толькі народ». Менавіта таму звяртаецца да сведак тых жудасных дзён. Кнігі Сяргея Панізніка — гістарычна дакладныя, адкрытыя, рэалістычныя. Яго проза — шчырая і праўдзівая.

«Асвейская трагедыя» — вынік велізарнай працы, камандзіровак, паездак, сустрэч, гутарак, пошукаў у архівах. Кожны расповед — нечы скалечаны лёс. Кожная старонка, кожны радок — боль, страх, смерць, голад, страта блізкіх, жахі латышскага канцлагера Саласпілс. Чытаць сапраўды цяжка. Асабліва таму, што разумееш: тут няма выдумкі. Няма перабольшанняў. Толькі праўда. Жорсткая праўда…

### Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Зрабіце нам цікава!

Калі наступае восень, паняволі ўпадаеш у меланхолію і роздум, якія часам не пазбаўлены прысмаку дэкадэнцтва. Пасля вяртання з летніх адпачынкаў час зноў запускаць «махавік паўсядзённасці». І тут для нас з вамі — кніжнікаў — наступае самы шчаслівы час, бо мы вяртаемся да сваіх любімых спраў. Чым жа для выдаўца прыкметная восень? Перш за ўсё пачаткам сезона выставак-кірмашоў. Адшумела ўжо Масква, набліжаецца Франкфурт. Думкі пра апошні і выклікалі наступнае пытанне: ці папулярныя айчынныя аўтары за мяжой?

Я ўзгадала, што гэтая тэма не раз абмяркоўвалася падчас семінараў для выдаўцоў, што ладзяцца Інстытутам імя Гётэ ў Мінску. Неяк мне давялося наведаць подыумную дыскусію «Літаратура без межаў» з удзелам Катарыны Раабэ, рэдактара аддзела ўсходнееўрапейскай літаратуры нямецкага выдавецтва *Suhrkamp Verlag*. Айчынныя літаратары, якія прысутнічалі на сустрэчы, прыводзілі свае доказы ў абарону нашых аўтараў, якія імкнуцца выдавацца ў той жа Германіі. Спадарыня Раабэ прыводзіла свае, часта камерцыйныя, контраргументы. І з імі нельга было не пагадзіцца.

Так, мы павінны разумець, што пра татальную заваёву заходняга кніжнага рынку славянамоўнымі пісьменнікамі марыць не даводзіцца. І тут для кожнай краіны ёсць свае прычыны. Хоць у цэлым Захад патрабуе аднаго: зрабіце нам цікава!

Набываючы правы на пераклад сучаснай расійскай літаратуры, замежныя выдаўцы ў першую чаргу выберуць твор, дзе ў дастатковай прапорцыі прысутнічае страх. Інтарэсы заходняга чытача патрабуюць то Чачні, то карупцыі, то палітычных скандалаў, то ўспамінаў пра часы ГУЛАГа. Разам з тым літаратурныя агенты прызнаюць, што еўрапейскія выдаўцы сталі цікавіцца і якаснай расійскай белетрыстыкай. Але гэта, хутчэй за ўсё, выключэнне, якое толькі пацвярджае правіла.

Да таго ж для разумення замежніка няма нічога больш страшнага, чым Pavel Ignat'evitch і Il'ya Konstantinovitch. Гэта, канечне, жарт, але не без долі ісціны. Справа ў тым, што нашы рэаліі захапляльныя і цікавыя для тамтэйшага чытача, як экзатычнае падарожжа. Але інтарэс хутка знікае, калі пачынаецца надта глыбокае і філасофскае пагружэнне ў тыя самыя рэаліі. Падобным грашаць, на жаль, многія айчынныя аўтары. І гэтаму ёсць тлумачэнне: большасць з іх — выключна творцы, якія на паперы выкладаюць уласныя боль і радасць. На Захадзе ж пісьменніцтва — гэта прафесія, якой зарабляюць сабе на жыццё. Таму ў кожным творы выконваюцца правілы, стыль напісання іскрысты і лёгкі, як шампанскае, сюжэт пазбаўлены неабгрунтаваных пакут, уласцівых загадкавай славянскай душы.

Таму ў выніку падобных адрозненняў у падыходах да літаратурнай працы атрымліваецца, што асаблівае месца ў нішы са знакам «постСССР» займаюць кнігі ПРА нас, напісаныя НЕ намі. Звычайна такія творы па матывах нашага жыцця прадаюцца намнога лепш. Бо іх пішуць журналісты ці пісьменнікі, якія пабывалі ў адной з постсавецкіх краін ці пражылі тут некаторы час. Аўтаматычна для сваіх суайчыннікаў яны становяцца ў пэўнай ступені экспертамі, якія пры іншых роўных умовах здольныя выкласці ўсё тое, што «вы хацелі ведаць, але баяліся запытацца».

Прычым на карысць заходніх аўтараў працуюць не толькі лёгкасць стылю і веданне рынку. Цэніцца перш за ўсё прыгажосць мовы аўтара, змест з сэнсам і пісьменнік з гучнай рэпутацыяй на радзіме. Так што тэндэнцыі тэндэнцыямі, а добрую літаратуру ніхто не адмяняў. І тут ужо грукайце — магчыма, дзверы для вас адчыняцца!

### Мастак і кніга

# Ад аматара да ілюстратара

Якім чынам можна сумясціць працу мастацкага рэдактара і кніжнага ілюстратара, захаваўшы пры гэтым прафесіяналізм у абедзвюх галінах дзейнасці, карэспандэнту «ЛіМа» растлумачыла Надзея Барай — галоўны мастацкі рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**— Надзея Васільеўна, як атрымалася, што вы заняліся менавіта ілюстрацыяй кніг?**

— У мяне прафесійная мастацкая адукацыя. Аднак я не ставіла б сябе ў адзін шэраг з ілюстратарамі, якія займаюцца гэтай справай прафесійна. Я, хутчэй, кніжны дызайнер, прафесійны мастацкі кніг рэдактар. Ілюстрацыяй кніг займаюся нядаўна. Нягледзячы на ўзрост, лічу сябе маладым ілюстратарам: раблю малюнкі з той пары, як працую ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Тут убачыла мноства якасных і прыгожых ілюстрацый. І захацелася нешта зрабіць самой — я захапілася! Цяпер ужо гэта частка жыцця. Ілюстрацыі аддаю ўвесь вольны і нават не зусім вольны час.

**— А чым займаліся да гэтага?**

— Скончыла Украінскі паліграфічны інстытут і шмат гадоў працавала мастацкім рэдактарам у выдавецтвах «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» і «Беларусь». Там была іншая спецыфіка: як мастак займалася ў асноўным дызайнам кніг. У той час многія мае работы атрымалі ўзнагароды на розных конкурсах мастацтва кнігі. Цяпер таксама працую над мастацкім афармленнем і кніжным дызайнам, але значна менш.

**— Якія кнігі вам падабаецца ілюстраваць больш за ўсё?**

— Што датычыць ілюстрацыі, то працую толькі з дзіцячымі кнігамі. Магчыма, дзякуючы таму, што люблю дзяцей. У наш час дзеці шмат да чаго маюць вольны доступ. Часам тэлебачанне, інтэрнэт уплываюць на іх свядомасць і негатыўна! Мне хочацца супрацьпаставіць гэтаму нешта добрае. Я стараюся, каб мае ілюстрацыі максімальна неслі дабро і пазітыў.

**— Якая кніга ў вас цяпер на працоўным стале?**

— Я ілюструю зборнік вершаў беларускага класіка Пятра Глебкі для дзяцей малодшага школьнага ўзросту. Гэта кніга з яркімі і маляўнічымі вобразамі: карціны лета, прыроды, прыгажосць навакольнага свету. Магчыма, тут усё падаецца з пункту гледжання вясковага дзіцяці, але, думаю, гарадскім дзецям будзе цікава ўбачыць свет крыху з іншага боку. Гэтае выданне можна будзе набыць ужо сёлета.

**— Якімі ілюстрацыямі вы займаецеся з большым захапленнем?**

— На мой погляд, галоўны крытэрый для творчасці ілюстратара — прафесіяналізм. Я люблю стылізацыю, калі яна дарэчная. Мне падабаецца рэалістычная манера. Што да працы нашага выдавецтва, галоўнае, каб вобразы ў дзіцячай кнізе былі пазнавальныя і неслі станоўчыя эмоцыі.

**— Як вы спалучаеце працу ілюстратара і галоўнага рэдактара мастацкага аддзела?**

— Я добра ведаю кнігу і яе спецыфіку. У многіх графікаў ёсць толькі мастацкая адукацыя, таму калі яны прыходзяць працаваць да нас, не надта разбіраюцца ў структуры кнігі. Даводзіцца тлумачыць розныя нюансы, крыху навучаць. Мая асноўная праца — у рэдакцыі. А мастак павінен пастаянна маляваць, толькі тады ён стане сапраўдным прафесіяналам. Таму можна сказаць, што я ілюстратар-аматар.

**— Хто з мастакоў вам падабаецца больш?**

— Як кніжны графік — Андрэй Савіч. Магу нават сказаць, што я вучылася на яго работах. Па душы таксама Павел Татарнікаў, яго творчасць уяўляецца мне чымсьці неспасцігальным. З расійскіх мастакоў магу вылучыць Ігара Алейнікава. Але стараюся ніколі не падладжвацца пад творчасць іншых, не выкарыстоўваць чужыя мастацкія прыёмы і метады. Я малюю так, як бачу сама.

**— Галоўнае — выпрацаваць свой уласны стыль? Ці навучыцца працаваць у розных стылях?**

— Што датычыць кнігі, многія мастакі знаходзяць адзін стыль і пастаянна працуюць з ім, незалежна ад таго, што ілюструюць. Я лічу, што гэта не вельмі добра. Творца павінен шукаць, якімі сродкамі можна максімальна выказаць тое, што закладзена ў літаратурным тэксце.

**— Як вы лічыце, ілюстрацыі ў кнігах не перашкаджаюць дзецям развіваць уласную фантазію?**

— Гэтае пытанне існуе столькі, колькі існуе кніга. На працягу многіх гадоў літаратурныя крытыкі спрачаліся на гэты конт. Раней аўтары баяліся ілюстраваць свае кнігі. Яны думалі, што мастак навяжа чытачу сваё бачанне твора. Многія насамрэч укладвалі ў персанажаў абсалютна іншы сэнс. Тады гэта было актуальна, таму што ілюстратар ствараў рэальныя, канкрэтныя вобразы. Цяпер кніжная ілюстрацыя сышла трохі ў іншы бок. Малюнкі суправаджаюць апавяданне, ідуць паралельна з ім. Мастак імкнецца стварыць уласны свет, які не супярэчыць кнізе, а дапаўняе яе.

**Яўген СІНІЧЭНКА**



*Малюнак Надзеі Барай*

# Малюнкі, якія дыхаюць

**— Мая, як пачынаўся ваш творчы шлях?**

— Усё пачалося яшчэ ў маленстве. Я нарадзілася ў сям'і картографаў, мае бацькі ствараюць геаграфічныя карты і атласы. У дзяцінстве заўсёды малявала, ляпіла, склейвала, сшывала розныя кавалачкі ў адно, каб было прыгожа... І цяпер для мяне паняцце быць мастаком азначае не толькі прафесію, але і лад думак, стыль жыцця.

**— А што ўваходзіць у абавязкі мастацкага рэдактара? З чаго пачынаецца ваша праца?**

— Яна пачынаецца, калі ў нашу рэдакцыю мастацкага афармлення прыходзіць заказ на афармленне кнігі. Мне, лічу, вельмі пашанцавала, бо афармляю ў асноўным дзіцячую літаратуру. Спачатку — пошук мастака, абмеркаванне і стварэнне падрыхтоўчага макета кнігі. За мной — сувязь выдавецтва з мастаком. Працую з малюнкамі мастака, і рыхтую кнігу ад друку. У цэлым нясу адказнасць за знешні выгляд выдання.



*Малюнак Маі Пракаповіч*

**— Што вы лічыце галоўным, калі працуеце над дзіцячай кнігай?**

— Дэталі, за якімі адкрываецца яшчэ пяцьсот сэнсаў і якія з'явіліся без удзелу мастака. Таксама вельмі важна, каб усе дробязі сабраліся і працавалі разам на карысць таго, што было сказана аўтарам.

**— Вы плённа папрацавалі над стварэннем цудоўнай кнігі «Сябрына». Як ацэньваеце вынік?**

— Імкнулася зрабіць прафесійную кнігу, каб даказаць усім, а ў першую чаргу сабе, што я не проста ўмею маляваць, што я прафесіянал! На мой погляд, малюнкі тут жывуць асобным жыццём. Яны не толькі дапаўняюць тэкст, робячы яго больш цікавым для маленькага чытача, яны распавядаюць сваю невялічкую гісторыю. Калі я працавала, для мяне было галоўным не толькі і нават не столькі хутка выпусціць кнігу ў свет. Я старалася, каб у ёй было жыццё, каб яна дыхала. Цяпер я ўжо думаю пра стыль, канцэпцыю, а раней, і падчас працы над «Сябрынай», старалася проста добра намаляваць.

**— Вам больш падабаецца ствараць ілюстрацыі да празаічнага ці паэтычнага тэксту?**

— Мне падабаецца маляваць творы на тэму, ствараючы свой свет вобразаў, а не проста ілюстраваць напісанае аўтарам. Таму абсалютна не мае значэння: вершы ці проза. Абавязковая ўмова — шчырасць аўтара, толькі тады я магу адчуць напісанае і стварыць нешта сваё.

**Кацярына СТАСЁНАК**

### Візітка

*Мая Пракаповіч нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Вучылася ў Мінскім каледжы мастацтваў, пасля — у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў на факультэце станковай графікі. Працуе мастацкім рэдактарам у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Запусціла серыю кніг «Нашым дзеткам», першае выданне ў межах якой — кніга Рыгора Барадуліна «Сябрына» — выйшла ў 2013 годзе.*

# Тры асобы з сотні лепшых

Серыя «100 выдатных дзеячоў» папоўнілася трыма новымі кнігамі: «Уладзіслаў Галубок: першы народны артыст БССР» Анатоля Валахановіча, «Ігнат Буйніцкі: З кагорты першапраходцаў» і «Рыгор Шырма: З песняй праз усё жыццё» Алеся Марціновіча.

### ІДЭЯ «ХАРВЕСТА» І ІНБЕЛКУЛЬТА

Як вядома, Інстытут беларускай гісторыі і культуры разам з выдавецтвам «Харвест» распачаў кніжную серыю, у якой меркавалася разгледзець біяграфіі 100 дзеячоў, што ўвасобілі нацыянальныя погляды на гісторыю, літаратуру, выяўленчае мастацтва, народную і прафесійную культуру. Дарэчы, з сотні асоб, выбраных для серыі, пакуль што вядомыя толькі дзевяноста дзве. Таму і навукоўцы, і чытачы могуць узяць удзел у вызначэнні васьмі астатніх.

Першыя сем брашур былі прысвечаны Міхаілу Андрыёлі, Мітрафану Доўнар-Запольскаму, Фларыяну Ждановічу, Карусю Каганцу, Мечыславу Карловічу, Напалеону Ордзе і Алаізе Пашкевіч. Цяпер да іх далучыліся яшчэ тры героі. Усе выданні аб'ядноўвае агульны прынцып: мяккая вокладка, пэўная колькасць ілюстрацый, а таксама папулярна напісаны тэкст, дзякуючы якому матэрыял даступны надзвычай шырокай аўдыторыі. Асаблівасці хаваюцца ў біяграфіях герояў кніг.




### ВЫДАВЕЦ МАКСІМА ТАНКА

На першы погляд, асоба беларускага харавога дырыжора і фалькларыста Рыгора Шырмы ўяўляе сабой класічны прыклад забранзавелай гістарычнай асобы. Мяркуйце самі: народны артыст Беларусі і СССР, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат дзвюх дзяржаўных прэмій БССР, узнагароджаны ордэнамі Леніна, Кастрычніцкай рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга і Знакам Пашаны, шматлікімі медалямі. Але так можа казаць толькі чалавек, незнаёмы з творчасцю і маштабам зробленага Р. Шырмам. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР (1939 — 1970), які сабраў больш як 2 тысячы беларускіх народных песень, у свой час зазнаў неадназначнае праследаванне ўлад. У Заходняй Беларусі тройчы арыштоўваўся палякамі, а падчас Вялікай Айчыннай вайны апынуўся на Лубянцы, адкуль быў вызвалены толькі дзякуючы хадайніцтву Якуба Коласа перад Панцеляймонам Панамарэнкам... А яшчэ Шырма вядомы тым, што адным з першых адчуў талент Максіма Танка. Таму адклаў свае фальклорныя запісы і выдаў першы зборнік паэта «На этапах».

### БАЦЬКА БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРА

Ігнату Буйніцкаму быў адмераны шлях у пяцьдзясят шэсць гадоў. Але галоўныя падзеі ў яго жыцці адбыліся ў апошніе дзесяцігоддзе. У 1907-м ён заснаваў пры сваёй сядзібе ў Палівачах самадзейны тэатр, дзе ігралі 8 акцёраў і каля паўтара дзясятка танцораў. А праз тры гады, у 1910-м, тэатр Буйніцкага завітаў у Вільню па запрашэнні газеты «Наша Ніва». Арганізаваная «Першая беларуская вечарынка ў Вільні» стала пачаткам дзейнасці прафесійнай трупы, якая атрымала назву «Першая беларуская трупа», або «Тэатр Ігната Буйніцкага». З ім Ігнат Цярэнцьевіч гастраляваў па Беларусі (Мінск, Полацк, Слуцк, Нясвіж, Дзісна, Свянцяны, Паставы, Ляхавічы), выступаў у Пецярбургу і ў Варшаве. Ціск царскай улады, цэнзуры, а таксама матэрыяльныя цяжкасці прымусілі ў 1913-м спыніць дзейнасць трупы.




Яе спадкаемцам стала створанае ў 1917 годзе Першае беларускае таварыства драмы і камедыі, якое ў далейшым утварыла падмурак Купалаўскага тэатра. Нядзіўна, што Буйніцкі лічыцца «бацькам беларускага тэатра». Такое найменне трэба заслужыць.




### ПЕРШЫ НАРОДНЫ АРТЫСТ

Адным з прадаўжальнікаў справы Ігната Буйніцкага стаў Уладзіслаў Галубок. Ужо з дзесяці гадоў хлопчык імкнуўся наведаць кожны спектакль, які паказвалі ў Мінску вандроўныя трупы. У адной з іх ён часова працаваў бутафорам і выконваў эпізадычныя ролі ў спектаклях. А калі трапіў у сапраўдны тэатр, канчаткова вырашыў стаць акцёрам. У 1917-м уступіў у Першае беларускае таварыства драмы і камедыі, для якога за адну восень напісаў тры п'есы. А ў 1920-м стварыў Трупу беларускіх артыстаў пры Беларускім рабочым клубе ў Мінску. Першапачаткова яна абслугоўвала ўскраіны Мінска, але пазней выправілася ў падарожжы па краіне, атрымала статус дзяржаўнага тэатра. Сучаснікі Галубка згадвалі, што ў БССР не было раёна, які б не наведала трупа. Сам Уладзіслаў Іосіфавіч не толькі кіраваў калектывам, але і пісаў для яго п'есы, ставіў іх на сцэне, займаўся музычным аздабленнем і дэкарацыямі, іграў




шэраг роляў. А яшчэ быў вядомы як пісьменнік і мастак. Нядзіўна, што ў 1928-м Галубок стаў першым народным артыстам Беларусі. Але тая ж улада, якая ўганаравала творцу, праз дзесяцігоддзе рэпрэсіравала яго... Кніга з серыі «100 выдатных дзеячоў» — яшчэ адна спроба аднавіць справядлівасць. А таксама форма прызнання творчай дзейнасці Уладзіслава Галубка.

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

# Кино: правила успеха

Эта книга будет полезна и писателю, который хочет создать сценарий фильма, и режиссёру, мечтающему поставить кино, и даже актёру, который стремится сыграть главную роль. Более того, издание станет отличным чтивом и для простого зрителя — чтобы не просто смотреть фильмы дома или в кинотеатре, а уметь оценивать их с профессиональной точки зрения. Речь идёт о книге Александра Митты «Кино между адом и раем: кино по Эйзенштейну, Чехову, Шекспиру, Куросаве, Феллини, Хичкоку, Тарковскому…», которая вышла при поддержке ООО «Харвест».

Этим словам можно верить, ведь автор книги Александр Митта — известный советский и российский режиссёр, сценарист, преподаватель и актёр. В его фильмографии — более полутора десятков художественных и около 25 документальных фильмов, которые стали популярными не только в СССР, России, но и за рубежом, а в копилке наград — множество премий и призов различных кинофестивалей. Более того, он создал свою школу-студию, которая успешно работает уже на протяжении многих лет. Будьте уверены, что Митта умеет увлекать не только картинкой на экране, но и словом. Книга не перегружена кинематографическими терминами, автор приводит примеры из известных фильмов, прекрасно структурирует материал, его стиль лёгок и понятен, а рассказ дополняется прекрасными иллюстрациями.

Эта книга вполне может стать учебником, интересным, в некоторой степени забавным, но главное — авторитетным. А сколько историй, связанных со съёмками фильмов, прячется под одной обложкой, сколько смешных моментов, неожиданных открытий! А вы знаете, к примеру, почему Толстой терпеть не мог пьесы Шекспира? Вот как объясняет это Митта: «Толстой предлагает роман-кинофильм, а Шекспир сочиняет сердце истории. Вы берёте в руку сердце — оно и через триста лет живое».

Другими словами, между прозой и драмой существует принципиальное различие. И заключается оно в разности подходов к истории. Ведь проза уже по своей сути кинематографична: здесь расписаны детали, рассказана история героев, автор говорит об их внешности, характере. Пожалуй, режиссёру и не остаётся места для фантазии, для творчества. Даже актёров нужно подбирать по определённому типажу. То ли дело драма — просто костяк, история. И — мечта для режиссёра! Ведь каждый, в зависимости от авторской, то есть уже режиссёрской задумки, может быть Гамлетом, даже женщина.

Александр Митта рассказывает и о том, как увлечь зрителя фильмом: «Дилетант полностью поглощён проблемой самовыражения. А профессионал думает о том, как овладеть вниманием зрителей. Если мы хотим вести аудиторию в нужном нам направлении, мы должны постоянно думать о ней. Полтора часа аудитория сидит в тёмном зале, и, если о ней не заботиться, внимание каждого зрителя будет вянуть». А секрет в том, что фильм должен сообщать нечто такое, что непрерывно повышает зрительский интерес, который в финале достигает максимума. Тогда и зрители будут довольны, и режиссёру не придётся отвечать за потраченные впустую деньги. В идеале фильм должен задавать аудитории вопросы, по капле цедить ответы. Но в каждом ответе должен содержаться новый вопрос.




Важно и то, что книга «Кино между адом и раем» — не просто теоретическое изложение материала или байки режиссёра о работе над знаковыми проектами, но и практические советы для начинающих сценаристов. К примеру, А. Митта пишет: «В сцене не должно быть ни одного момента, когда актёр не имел бы конкретной задачи, действия. В этих задачах вырастают характеры… Длинные объяснения помогают мало, но конкретные глаголы активного действия ведут к цели. Их называют «золотым ключом»… Действия персонажа не должны быть тесно связаны с текстом. Слова врут, а действия выражают подлинные желания и мотивации…» Более того, автор приводит таблицу этих «золотых ключей», которую сам Митта называет «Парадигма — концептуальная схема сценария», она была разработана специально для его режиссёрской школы-студии.

После прочтения книги сценарист станет более виртуозным, режиссёр — смелым и мудрым, а зритель перестанет быть просто зрителем. Он не только узнает секреты качественного и успешного кино, научится профессионально следить за развитием действия и методикой работы режиссёра, но и при анализе фильма сможет пользоваться сценарными терминами (они приводятся в специальном глоссарии), различать стратегии конфликта и узнавать в героях архетипы.

Более того, секретные механизмы и практики, которыми пользуются режиссёры, позволят иногда незаметно от других разыгрывать свои сценарии. Но не увлекайтесь, ведь в данном случае речь идёт о реальной жизни.

**Чеслава ПОЛУЯН**

# Гарады і лабірынты Власта

**Крыху больш як праз месяц мы будзем адзначаць 130-годдзе пісьменніка, публіцыста, гісторыка, палітыка Вацлава Ластоўскага. Але пакуль звернемся яшчэ да адной творчай іпастасі гэтага рознабаковага таленавітага чалавека — Ластоўскага-паэта. Ён пісаў вершы ў перыяд з 1922 па 1927 год. Адметна, што вынікі яго мастацкіх пошукаў значна адрозніваюцца ад творчасці сучаснікаў — не толькі тэматычным абсягам, але і фармальнымі эксперыментамі ды знаходкамі.**

Шмат гарадоў было ў жыцці Вацлава Ластоўскага: Рыга, Коўна, Мінск, Саратаў… Натуральна, яны не маглі не накласці адбітку на творы — празаічныя і паэтычныя, не ўразіць слаўным гістарычным мінулым, велічнасцю будынкаў. Выходзіў Власт (адзін з псеўданімаў Вацлава Ластоўскага) і на больш шырокі ўзровень філасофска-мастацкага асэнсавання горада як з'явы.

Да паэтычнай творчасці Вацлаў Ластоўскі звярнуўся амаль у 40 гадоў і выявіў сябе нетрадыцыйным майстрам вершатэхнікі. Ён ва ўсім імкнуўся быць наватарам. Паэтычная спадчына В. Ластоўскага невялікая — каля чатырох дзясяткаў вершаў. Наватарства матываў, настрою і літаратурных прыёмаў абумоўлена мастацкім крэда творцы. Апошняе можна афарыстычна выказаць радком яго верша: «…Новым імкненням даць новыя формы… стаўлю я мэтай».

Паэзія В. Ластоўскага мала даследавалася беларускімі навукоўцамі. І не з прычыны маламастацкасці. Так можа думаць той, хто не чытаў вершаў Власта. Справа ў тым, што яны, апроч першапублікацый (пераважна на старонках часопіса «Крывіч»), больш не перавыдаваліся, цалкам яго паэтычная спадчына пабачыла свет толькі ў 1997 годзе ў кнізе выбраных твораў (выдавецтва «Беларускі кнігазбор»).

Увогуле ж спадчына В. Ластоўскага складаецца з традыцыйных па форме сілабатанічных вершаў і верлібраў. Пад агульнай назвай «Конадні» ў часопісе «Крывіч» у 1923 годзе з'явілася нізка вершаў: «Вясной», «На Радуніцу», «На Каложы ў Гародні», «Дума на Полацкім замчышчы», «Формаў трухнелых я вораг дасконны…» (апошні сведчыць пра аўтарскую прыхільнасць да мадэрнізму).

Вершы першай нізкі ўключаюць творы, якія можна назваць урбаністычнымі, бо звязаныя яны з некаторымі аспектамі жыцця горада, найперш з яго мінулым. У вершах «На Каложы ў Гародні» і «Дума на Полацкім замчышчы» апісваюцца колішнія капішчы паганскіх багоў. Лірычны герой гэтых твораў, сузіраючы гарадскія краявіды, нібы забываецца на сучаснасць і ў стане медытацыі вандруе ў мінулае. Па меркаванні В. Ластоўскага, Барысаглебская царква ў Гародні пабудавана на месцы капішча багіні смерці Марвы. «Гэты помнік мураванага дойлідства створаны ў XII ст. Пры рэстаўрацыйных работах у XIX ст. знойдзены ўмураваныя ў сцены і скляпенні галаснікі і знакі на цаглінах. Фундамент храма складзены з валуноў». В. Ластоўскі лічыць, што на гэтым месцы палілі нябожчыкаў.

У вершы «Дума на Полацкім замчышчы» паўстае тая ж містычная апазіцыя паганскіх вераванняў і хрысціянства. Аўтар сцвярджае, што ў ранейшыя часы Полацк зваўся Дзевіным, у гонар багіні Дзевы. «Дзевіна рака ў стоўп яго ручэла». Апісвае ён і рэаліі жыцця гэтага міфічнага (ці ўсё ж рэальнага?) горада: «…Хадзілі дзевы карагодам // ў кудзебны тан. // Святарны хор пявежнай мовай магутаў племені ўслаўляў. // Збіраліся старцы тут // на руду й суд».

Падобныя настрой і матывы гучаць і ў вершы «Кёльнскі сабор». Сузіраючы муры гэтага будынка, лірычны герой твора не заахвоча яго прыгажосцю і веліччасцю, а згадвае старонкі мінулага. Гатычны стыль, у якім пабудаваны сабор у Кёльне, ва ўспрыманні героя суадносіцца з заваёвамі готаў: «Такі ўздоўм пачулі готы // ў сваёй душы, скрышыўшы Рым». Адчувае ён і энергетыку будынка, абумоўленую настроем яго стваральнікаў, іх матывамі і жаданнямі. Яна, гэтая энергетыка, праз стагоддзі захоўваецца ў мурах: «…хацьбы магутнай, // агідных мар — у гэты мур — // ўклято бязмер! З-пад снедзі бруднай // яшчэ цяпер гучаць гудзьбы // змагарных бур!»

Свае ўражанні ад сузірання храма, але не мінулага, а сучаснага яго выгляду выказвае Власт у вершы «Сабор св. Марка ў Венецыі». Паэт паказвае і вонкавае аблічча храма: «Масіў яго к зямлі прырос, // як собіна святая…», і ўнутранае яго аздабленне, а таксама апісвае ўражанні і эмацыянальны стан, што ствараюць скульптуры, змешчаныя ў саборы: «…дык ты <…> цяпер // дрыжы!» // Ці будзь раўнёю ім: // або чарнец, або ўладар… // Спагаду, літасці табе // не суліць іхні зрок…» Выкарыстоўвае Власт у адносінах да гэтых «герояў» і спецыфічны гістарычны наватвор — «цэзарызм» — з праціле́глымі па сэнсе азначэннямі: зямны (здабыткі тых людзей, што былі зроблены імі пры жыцці) і нябесны (што цікавей, бо паказвае не вельмі вялікую павагу Ластоўскага да рэлігіі, багацця ўбранстваў храма і ўсяіснасці



хрысціянскіх догмаў). Так, у гэтым вершы Власт падае не простае апісанне выгляду храма і тых уражанняў, якія ён робіць на шараговага гледача, але выказвае свае «глабальныя» адносіны да рэлігіі і культавых пабудоў у цэлым.

У вершы «На смаленскіх сценах» гісторыя перамяжоўваецца з сучаснасцю, такім чынам ствараецца мастацкая парабала. Заглыбляючыся ў мінулае Смаленска, Власт бачыць яго сімвалічнае значэнне і ў сучаснасці: «Смаленск! // Праз мукі, горасці свае // у рэшце рэшт // святым для нас ты стаўся!..»

В. Ластоўскі, як сапраўдны мастак, увесь час знаходзіўся ў творчым пошуку, прычым не толькі вобразаў і тэм, але і формаў. Упадабаўшы размоўную інтанацыю вольнага верша, аўтар даволі натуральна прыходзіць да спробы сваіх сіл у верлібры, які найлепш прыдатны для філасофскіх, медытатыўных твораў з асацыятыўнай вобразнасцю. Увогуле ж такая эвалюцыя паэтычнай творчасці даволі тыповая, падобны шлях прайшла і руская паэзія пачатку XX ст., а першы з беларускіх аўтараў — М. Багдановіч.

Асобную групу паэтычных твораў В. Ластоўскага складаюць вершы ў прозе. Іх, на думку В. Барысенкі, нельга назваць уласна верлібрамі. «Яны хутчэй уяўляюць сабой пераходную форму верша ад сілаба-танічнага да свабоднага. У творах часта перамяжоўваецца ўрыўкі дысметрычнага нерыфмаванага верша, вольнага верша з метрычным перабоем і верша класічных памераў». Даследчыца падтрымлівае меркаванне, што вершы Власта можна назваць версэтамі, бо яны цалкам адпавядаюць тыпалагічнай традыцыі ў беларускай літаратуры — ад В. Ластоўскага да А. Разанава.

Версэт нагадвае прытчу, у ім адсутнічае развіты сюжэт, няма апісанняў прыроды і рэчаў, дзеючыя асобы таксама акрэслены пункцірна. «Версэт, як і прытча, з'яўляецца творам дыдактычна-алегарычнага жанру. Адной з яго характэрных рыс з'яўляецца наяўнасць адносна самастойнага сказа-выніку, які, аднак, нельга назваць падагульняльным, бо ён нясе на сабе функцыю ключа, арыенціра далейшых разваг».

Думаецца, невыпадкова В. Ластоўскі ў аснову двух версэтаў паклаў менавіта гарадскі пейзаж і гарадскую сімволіку. У версэце «Чырвонец» месцам дзеяння, якое акрэслена пункцірна, але адразу ж пазнаецца чытачом, з'яўляецца гарадская брама, або, як яе называе сам аўтар, «мессавая брама». Гэты топас аўтарам абраны, каб сімвалічна абмаляваць месца, дзе заўсёды шмат людзей, незнаёмых, ніяк паміж сабой не звязаных: «дзе люд плыве ракой і варта моцная дзень-ноч пільнуе». І зноў жа аўтар падарожнічае ў часе, стараючыся «не прывязвацца» да рэальнага, каб выйсці на больш шырокія абагульненні. Месца дзеяння акрэслена невыразна, яно не можа дакладна паказаць эпоху, але гэта робіць залатая манета пенязь, якую знаходзіць герой версэта. Такая назва грашовых адзінак дакладна пазначае і месца — Вялікае Княства Літоўскае, і час — XV — XVI стст.

Версэт «У час аблогі» таксама пазбаўлены часавай і тапаграфічнай канкрэтыкі. Тут важны іншасказальны змест, абагульнены, выяўлены больш сімвалічнымі сродкамі, але таксама звязанымі з гарадской тэматыкай. «На грудзе, акружаным глыбокаю вадой, *я горад* (выдзелена мною. — ***М. В.***) збудаваў. Замацаваў яго дубоваю *сцяной, байніцамі, на зводах мост уздоймны* палажыў». У гэтым творы гучыць матыў бясконцай душэўнай адзіноты, выяўлены менавіта праз сімволіку ўмацаванага старажытнага горада. Як ні рыхтуйся да аблогі (і горад збудаваны ў зручным месцы, кажучы метафарычна, і дружына пазбаўлена ад здраднікаў), усё роўна застанешся з бядою сам-насам.

Так, у паэзіі В. Ластоўскага ўрбаністычныя пейзажы выклікаюць перш за ўсё асацыяцыі і думкі пра мінулае беларускага краю, падзеі, звязаныя з узвядзеннем культавых збудаванняў. Карыстаецца Власт гарадской сімволікай для стварэння абагульненых і пазнавальных пейзажаў. У вершах у прозе (версэтах) урбанізмы ўключаны паэтам у беларускі гістарычны наратыў, гарадскія вобразы набываюць сімволіка-алегарычнае ўвасабленне.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*100 год кнізе*

# Падарунак для сястры

**Сёлета святкуецца юбілей адзінай выдадзенай пры жыцці Максіма Багдановіча ягонай кнігі — зборніка вершаў «Вянок». Асобнай падзеяй з'яўляецца стварэнне 100 гадоў таму рукапіснай кніжкі паэта «Зеленя».**

Акрамя ўсіх рэгалій класіка беларускай літаратуры Максім Багдановіч вядомы як рамантычны рыцар, які служыць даме свайго сэрца — жанчыне-Мадонне. І, магчыма, дзякуючы такому стаўленню да жанчын у Максіма Багдановіча з'явіўся гэты рукапісны сшытак вершаў. Але спачатку прадмова да гісторыі: адразу пасля выдання «Вянка» адну кнігу з дароўным надпісам «Сестрице Ноте на память от любящего её автора» Максім Багдановіч падараў стрыечнай сястры Ганне Гапановіч, з якой ён сябраваў у Ніжнім Ноўгарадзе, адчуваў да яе сардэчную прыхільнасць, вельмі цаніў яе думкі і з нецярпеннем чакаў водгукаў на свае творы. Але Нюта не змагла ацаніць талент паэта, бо не ведала беларускай мовы. Тады Максім адабраў 22 свае вершы (можна меркаваць, лепшыя на яго думку) і пераклаў іх на рускую мову. Сшытак перакладаў назваў «Зеленя».

Рукапісны зборнік паэта, трохі пацямнелы ад часу, у лінейку, без вокладкі, на першай старонцы мае надпіс: «Максим Богданович», ніжэй пасярэдзіне вялікімі прыгожымі літарамі: «Зеленя». Пад назвай дробным, але вельмі выразным почыркам напісаны падзагаловак: «Стихи. Перевод с белорусского автора». Справа ад падзагалоўка — тэкст, які можна разглядаць як эпіграф да зборніка: «Переводы стихов — словно женщины: если красивы, то неверны; если верны, то некрасивы». Пад тэкстам: «Нем. писат. поговорка». І ў самым нізе — месца і дата напісання вершаў: «Ярославль. 1909 — 1913».

У сшытку 32 старонкі, з іх 26 з тэкстамі вершаў, напісанымі чорным чарнілам, 6 старонак — чыстыя. На першай пасля тытульнай старонцы справа зверху адно прыгожа напісанае словапрысвячэнне: «Нюте».

У вершах-перакладах адчуваецца, што Максім імкнуўся данесці да Ганны водар і непаўторную красу сваіх твораў. Каб яна змагла адчуць іх эмацыянальны зарад, каб героі твораў ажылі для яе. І ў Максіма Багдановіча гэта атрымалася.

Так, напрыклад, высокая ступень дакладнасці дасягнута ў перакладзе вершаў «Слышишь гул? Это дико-печальный лесун…», «Озеро», «Переписчик», «Дед», «Бледный, хилый, всё ж люблю я…», трыялет «На солнце загляделся я…». Некалькі вершаў зборніка «Зеленя» не з'яўляюцца «чыстымі» перакладамі, а, хутчэй, нагадваюць новыя вершы на рускай мове: «Сонет», «Подыми к небесам свои взоры», «Прочтите с участьем правдивую эту, печальную быль...» і іншыя. Але што казаць, лепш прачытаць вершы М. Багдановіча.

Ганна Гапановіч ацаніла талент свайго стрыечнага брата. Гэта быў самы дарагі для яе падарунак. Менавіта яе сям'я і захавала сшытак, які з цягам часу трапіў у фонды Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Дапамагла гэтаму Ніна Ватаца, шчыры руплівец на ніве багдановічазнаўства, нястомны збіральнік спадчыны паэта. Яна прывезла гэты зборнік з Ніжняга Ноўгарада на Беларусь.

Дарэчы, цікава тое, што ёсць звесткі пра яшчэ адзін рукапісны сшытак «Зеленя», якім, дарэчы, карысталіся супрацоўнікі Інстытута беларускай культуры пры падрыхтоўцы першага збору твораў М. Багдановіча ў двух тамах 1927 — 1928 гадоў. Гэта была копія з арыгінальнага сшытка, знятая Андрэем Трыфанавічам Галаванам, стрыечным братам Максіма і Нюты. Пра копію ёсць сведчанне ў вопісе архіва Максіма Багдановіча, зробленым сакратаром Інбелкульта В. Мачульскім падчас перадачы гэтага архіва бацькам паэта на Беларусь. Там жа на копіі, паводле сведчання В. Мачульскага, была прыпіска рукой А. Я. Багдановіча пра паходжанне рукапіса М. Багдановіча і яго копіі. Копія, знятая са зборніка «Зеленя» А. Галаванам, загінула разам з архівам паэта падчас Вялікай Айчыннай вайны.

Таму захаваны роднымі паэта арыгінал зборніка «Зеленя» ўдвая каштоўнейшы для музея Максіма Багдановіча і наогул беларускай культуры.

**Ірына ШОРАЦ**

# Шматкаляровая Беларусь

У гісторыі Беларусі 1920-я гады ніколі не згубяць сваёй яскравай прыцягальнасці дзякуючы вобразным адлюстраванням мінскага мастака, фіна па паходжанні Аляксандра Ахола-Вало (1900 — 1998). Ён адзін з нямногіх, хто актыўна займаўся развіццём каляровага лінарыту ў маладой беларускай графіцы і быў проста захоплены тымі ўражаннямі, якія дарыла яму на кожным кроку беларускае жыццё ў сталіцы і ў вёсцы.

Мастак працаваў у індывідуальным творчым стылі, блізкім да экспрэсіянізму, але адметным сваёй рэалістычна-дакументальнай назіральнасцю. Супрацоўнічаў, бадай, з большасцю перыядычных выданняў, якія існавалі ў Мінску. Гэта змушала яго працаваць хутка, аператыўна і па-графічнаму абвострана-выразна.

Нялрості шлях у творчае жыццё хлопчыка, які нарадзіўся ў Карэліі, непадалёк ад Санкт-Пецярбурга. Фін па нараджэнні, швед па пашпарце, сын петраградскага камінара апынуўся сусветна вядомым мастаком. Другой радзімай яго стала Беларусь. З дзяцінства бацька вазіў будучага мастака да Ільі Рэпіна, што ў многім і вызначыла лёс Ахола-Вало. У віры рэвалюцыйных падзей ён чырвонаармейцам дайшоў амаль да Варшавы, трапіў у палон і цудам застаўся ў жывых. Эвакапунктам быў адпраўлены ў Віцебск, дзе Ахола-Вало пашчасціла вучыцца ў С. Юдовіна, Ю. Пэна, слухаць лекцыі В. Ермалаевай. Экстэрнам скончыў Адэскі мастацкі інстытут, на той час вельмі папулярны па сваіх наватарскіх адукацыйных праграмах. Але сапраўднае месца яго творчага самавызначэння — Мінск 1920-х, дзе Ахола-Вало ўспрыняў як носьбіта ідэй нацыянальнага адраджэння маладой беларускай культуры. Ён на адным дыханні вывучыў беларускую мову. У 1995 годзе на Міжнародным кангрэсе беларусаў свету выступаў па беларуску з яскравымі філалагічнымі асаблівасцямі даваеннага часу — настолькі моцна запала ў яго душу Беларусь!

Сярод шматлікіх каляровых лінарытаў Ахола-Вало ёсць рэпартажныя адбіткі, этапныя творы, якія ахопліваюць розныя старонкі жыцця. Толькі чалавек, апраменены моцным натхненнем і вострым бачаннем рэальнасці, мог здзейсніць такую вялікую мастацкую задачу: паказаць жыццё маладой краіны ў кантрасным і жывым асвятленні. Невыпадкова на аўтапартрэце ён адлюстраваў сябе з паходняй, полымя якой асвятляе цемру невядомасці!



*«Чытанне Торы на беразе Свіслачы», 1929 г.*

Безумоўным дасягненнем каляровага лінарыту творцы з'яўляецца кампазіцыя «Танец», прысвечаная станаўленню беларускага балета. Для вобразаў танцоўшчыцы і танцора яму пазіравалі вядомыя дзеячы сцэны Гаеў і Жданава. Мастак паказаў у рытме танца зрух нацыі да зусім новага свету. Больш дакладна ён адлюстроўваў перамены ў побыце, самасвядомасці, перадаючы вобразы блізкіх людзей: жонка Алена ў выглядзе настаўніцы на занятках па геаграфіі шукае на глобусе Беларусь, дачушка Вікторыя слухае ў навушніках першыя радыёперадачы з Мінска. Больш лірычны вобраз маладой беларускай дзяўчыны, якая пазірае на сонца праз лістоту маладой бярозы, у руках яе кошык з грыбамі і суніцамі.

У 1928 годзе як удзельнік Другой Усебеларускай выстаўкі за кампазіцыю «З дажынак» Ахола-Вало быў узнагароджаны прэміяй. Твор прысвечаны працы: стомленыя, але велічныя сялянкі вяртаюцца да родных сядзіб на фоне залацістага заходу сонца. Сапраўдны гімн харству, працы і чалавеку на вольнай зямлі!

Не абыходзіў увагай выдатны графік і іншыя бакі жыцця. Напрыклад, праца «Чытанне Торы на беразе Свіслачы» (1929), дзе на лімонна-жоўтым фоне фігуры яўрэяў у чорных убраннях успрымаюцца нібыта ў фантастычным свеце духоўнасці: у малітвах і зліцці з прыродай. Не мог мастак мірыцца з такімі негатыўнымі з'явамі ў жыцці вяскоўцаў, як алкагалізм, невуцтва. Іх адлюстраванні карыкатурныя, знарочыста ўтрыраваныя, але мастак заўсёды пакідае месца для выразных пабытавых дэталяў, вострай псіхалагічнай характарыстыкі. Асабліва спачувае творца жанчынам і дзецям, ахвярам неспрыяльных умоў.

Мастак не абмяжоўваўся толькі станковай графікай, ён імкнуўся зрабіць маляўнічымі і прыцягальнымі перыядычныя выданні, пры ўсёй сціпласці тагачаснага друку. Яго вокладкі да часопісаў і газет «Маладэ араты», «Беларускі піянэр», «Беларуская работніца і сялянка», «Звязда», «ОРКА», «МЛОТ», «Беларуская вёска», «Плуг», «Чырвоная змена», «Батрак» 1920-х гадоў адрозніваюцца лаканізмам і канстраснай гучнасцю колеру, удалым спалучэннем тэксту і малюнка. Такімі падаюцца і вокладкі класічных твораў беларускай літаратуры: «Хвоі гавораць» К. Чорнага, «Плынь» М. Грамыкі, «Угрунь» А. Александровіча, «Табе» А. Вольнага, «Новая зямля» Я. Коласа, «Ветры буйныя» П. Труса, «Таемны пакет» У. Валодзіна.

У графіцы Ахола-Вало праявіў сябе як дызайнер па афармленні інтэр'ераў і павільёнаў Першай сельскагаспадарчай выстаўкі 1930 года ў Мінску. Яго прываблівяў касмізм архітэктуры, калі павільёны больш нагадвалі міжпланетныя караблі, чым стацыянарныя выставачныя пабудовы. А рабочыя кабінеты ўдаваліся (кажучы сучаснай мовай) пунктамі кіравання ракетнымі рэйсамі. Можна сказаць, што мастак смела глядзеў у беларускую будучыню, дзе многія яго футурыстычныя праекты атрымалю сталую мінскую прапіску.

На жаль, у 1930 годзе мастак быў змушаны пакінуць Беларусь, амаль да 1990-х гадоў кантакты з Мінскам былі перапынены. Але плён творчасці з часам не губляе сваёй аптамістычнай прасветленасці. Каляровыя гравюры Ахола-Вало — невычэрпная крыніца жывых эмоцый, пачуццяў, светлых думак на тэму сучаснасці і будучыні Беларусі. Такімі яны застануцца назаўсёды.

**Людміла НАЛІВАЙКА,**
**Яўген ШУНЕЙКА**

# Іронія як «дар»

Галерэя сучаснага мастацтва «Ў» прадстаўляе выстаўку карцін Аляксея Хацкевіча «D.A.R.». Назва расшыфроўваецца як «дэкаратыўна-абстрактны рэалізм» — менавіта такімі словамі аўтар апісвае абраны ім кірунак. Супрацьлеглыя паняцці «абстракцыя» і «рэалізм» гарманічна адлюстроўваюцца ў працы мастака своеасаблівым жывапісным аксюмаранам. Але парадаксальнасць выяўлення — толькі фармальны прыём, за якім хаваецца светапогляд аўтара.




Аляксей Хацкевіч выдатна валодае майстэрствам жывапісца-рэаліста. Знаёмыя вобразы здаюцца амаль сапраўднымі, але, прыпраўленыя ноткай сюррэалістычнасці, уражваюць надзвычайнасцю. Несумненна, галоўным элементам творчасці Хацкевіча з'яўляецца іронія, якая імкнецца да несвядомага. Напрыклад, на карціне «Пацалунак» (2010) намалявана садавіна з наўмысна ўвасобленай сімвалічнай эратычнасцю. Ніводны прадмет у вачах аўтара не застаецца без прыхаванага падтэксту, адлюстраванага выключна ў намёках і дробязях. Усё не такое, якім здаецца на першы погляд. Іронія дапамагае мастаку стварыць дзіўны сусвет, дзе спалучаецца неспалучальнае.

Гламурныя або ідылічныя персанажы ў камічных сітуацыях — любімая тэма аўтара. Часам героі карцін вымалёўваюцца з дэкаратыўнай выразнасцю, так, што, здаецца, можна ўзяць нажніцы і выразаць іх з палатна, як папяровыя лялькі, перанесці ў іншае месца ці ўвогуле выдаліць з месца дзеяння. Аднак, нягледзячы на гэта імгненнае жаданне, усе персанажы ствараюць суцэльную кампазіцыю, якую немагчыма парушыць.

Найбольш цікавы прыклад арт-міксу — серыя работ Аляксея Хацкевіча, выкананая сумесна з дачкой, калі дзіцячы малюнак становіцца асновай жывапіснага пераўтварэння. У выніку непасрэдны і яскравы вобраз утварае цэнтр жывапіснай светабудовы.

Эксперыменты А. Хацкевіча з вобразамі персанажаў, алегорыяй, увасабленнем несвядомага насамрэч ствараюць адмысловы «дар», які мастак шчыра прапануе гледачу.

**Марыя ШАВЯЛЕНКА**

# Спаткаемся ў «Кніжным салоне»!

«Кніжны салон» сталіцы ўжо трэці год запар арганізуе сустрэчы з беларускімі мастакамі, графікамі, майстрамі кніжнай ілюстрацыі. Праект пачынаўся пад назвай «Мастацтва друкаванай кнігі Беларусі» і праходзіў у межах пасяджэнняў сталічнага бібліяфільскага клуба «Ad librum».

За мінулыя гады ўжо адбыліся сустрэчы з Арленам Кашкурэвічам, Валерыем Славуком, Паўлам Татарнікавым, Міколам Купавам, Аксанай Аракчэевай. У новым сезоне арганізатары вырашылі пашырыць геаграфію вернісажаў і запланавалі сустрэчы з прадстаўнікамі розных гарадоў Беларусі. У бліжэйшы час пройдуць выстаўкі гродзенскага графіка Юрыя Якавенкі (планецца на 26 верасня), майстра экслібрыса з Брэста Генадзя Вяля.

Распачаўся сезон сустрэч 2013/2014 у канцы жніўня вернісажам Леаніда Мядзведскага. Ён нарадзіўся ў 1956 годзе ў Віцебску, атрымаў адукацыю на мастацка-графічным факультэце ў ВДПІ імя С. М. Кірава. З 1982 года мастак удзельнічае ў шматлікіх выстаўках. Л. Мядзведскі працуе ў галіне станковага жывапісу ў жанрах пейзажа, нацюрморта, партрэта, у асноўным карыстаецца гуашшу. Як прызнаўся сам жывапісец, гуаш не заўсёды называюць мастацкім матэрыялам, бо не ў кожнага хопіць цярпення з ім працаваць. Выстаўка «Звычайны пейзаж» прадстаўляе творы з ярка выяўленымі фармальна-каляровымі эксперыментамі. У карцінах Леаніда Мядзведскага асновай для кампазіцыі служаць адвольныя па форме плямы і лініі, складаныя храматычныя і ахраматычныя каляровыя спалучэнні. Усе карціны напісаны з натуры — на прыродзе Віцебшчыны. Мастака хвалюе перадача стану прыроды, настрою: подых ветру, рух святла.

— Ужо сёння ў нашым салоне можна набыць кнігу з аўтографам мастака, аўтара арыгінальных ілюстрацый, а таксама асобныя выданні з арыгінальнымі гравюрамі і малюнкамі. У асяроддзі калекцыянераў і аматараў мастацтва кнігі такая магчымасць расцэньваецца як эксклюзіўная. Дзякуючы кантактам, якія хутка пашыраюцца, калегі з Еўропы імкнуцца прадставіць экспазіцыі работ нашых мастакоў у сваіх галерэях. А мы запрашаем да ўдзелу ў вернісажах мастакоў і графікаў з іншых краін. Ужо ёсць цікавыя прапановы па ўдзеле ў сумесных кніжных праектах. Так што наш рух абяцае стаць міжнародным! — упэўнена дырэктар «Кніжнага салона» Ала Змiёва.

Цяпер акрамя звыклых сустрэч бібліяфілаў, якія праходзяць у апошні чацвер кожнага месяца, арганізатары «Кніжнага салона» ладзяць прэзентацыі выставак беларускіх мастакоў раз на месяц па аўторках. Гэта будуць выстаўкі работ майстроў жывапісу, чыя творчасць не звязана з кнігавыданнем, але прадстаўляе пэўную мастацкую школу Беларусі. Акрамя таго, падчас імпрэз можна будзе даведацца пра меркаванні вядомых мастацтвазнаўцаў і на ўласныя вочы пабачыць лепшыя ўзоры айчыннага мастацтва.

**Тацяна ШЫМУК**

# Бібліятэчны ракурс

У галерэі «Ракурс» адкрылася II Рэспубліканская выстаўка мастацкай творчасці бібліятэкараў «Сам сабе мастак». Гэта сумесны праект Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. На выстаўцы прадстаўлена каля 70 работ (прытым, што даслана было больш як 100), выкананых у самых розных тэхніках: жывапіс, габелен, батык, фота, фотакалаж, малюнак, вышыўка, мазаіка, фларыстыка, малюнак, лапікавае шыццё, саматробныя лялькі і нават гістарычная рэканструкцыя! Адным з самых незвычайных экспанатаў стала таксама мазаіка з будаўнічай пліткі.

Выстаўка цікавая: бібліятэкары паказалі сябе далёка не «сінімі панчохамі». Варта было прыйсці на адкрыццё, каб убачыць вочы людзей, у якіх чыталася: бібліятэкар XXI стагоддзя ганарыцца сваёй прафесіяй, нягледзячы на тое, што сам ахвотна з яе пакеплівае! Ад выступоўцаў, сярод якіх былі і прадстаўнікі афіцыйных устаноў, і самі «кніжнікі», часта чуліся словы пра тое, што многія лічаць прафесію бібліятэкара непрэстыжнай, агучвалі і тэхнічныя праблемы ў працы і стэрэатыпы, што датычаць саміх бібліятэкараў, але апошнія на ўсё гэта толькі ўсміхаліся — часам са згодай, часам скептычна.

— Мы жывём у даволі складанай сітуацыі, калі даводзіцца «праваказаваць»: з аднаго боку, чытача, каб у яго ўзнікла цікавасць да кнігі і мы не бачылі пустых чытацкіх залаў, а з іншага боку — органы кіравання, каб яны звярталі ўвагу на бібліятэкі, — кажа Алена Даўгаполава, намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па ідэалогіі і справах моладзі. — Але акрамя працы ў нас ёсць асабістае жыццё, хобі. Гэта і паказвае выстаўка, якую мы сёння адкрываем.

Арганізатары выстаўкі падрыхтавалі сюрпрыз. Яны абралі найлепшыя працы і ўрачыста ўзнагародзілі пераможцаў — Барыса Палянскага, Анастасію Клімкову, Галіну Васілеўскую, Галіну Петрушэню, Надзею Рэшатаву, Алену Атрашкевіч і Марыну Ярэмчык — ганаровымі дыпломамі.

Выстаўка будзе працаваць да 20 кастрычніка.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

## Слова краязнаўцы



**Васіль ЛЫЧКОЎСКІ, адміністратар сайта «Выток Нёмана. УЗДЗЕНШЧЫНА», прадстаўляе віртуальную краязнаўчую пляцоўку Уздзенскага раёна, дзе ўвасабляецца ў жыццё сумесны з раённым гісторыка-краязнаўчым музеем праект «Выток Нёмана — выток духоўнасці»:**

— Наш сайт згуртоўвае тых, хто нарадзіўся, працаваў ці жыве на Уздзеншчыне. Мэта адна — папулярызацыя гісторыі роднай зямлі, распавед пра выбітных дзеячаў-землякоў, сярод якіх Кандрат Крапіва, Паўлюк Трус, Лідзія Арабей, расійскія мастакі браты Сяргей і Аляксей Ткачовы, прыродазнаўца, вынаходнік, медык Якуб Наркевіч-Ёдка і інш. Раней мала хто ведаў пра прапаведніка хрысціянскай маралі, беларускага археолага, гісторыка, доктара царкоўнай гісторыі, прафесара Уладзіміра Завітневіча, які нарадзіўся ў 1853 г. у вёсцы Ліцвяны, непадалёк ад ракі Уса, у сям'і патомнага праваслаўнага святара.

Уладзімір Завітневіч даследаваў гісторыю і сэнс славянафільства на прыкладзе жыцця яго пачынальніка Аляксандра Хамякова. Да 1913 года выйшлі два тамы гэтай працы, па матэрыялах якіх ён абараніў доктарскую дысертацыю. У кнізе аўтар падрабязна разглядае жыццё і дзейнасць А. Хамякова і тры асноўныя палажэнні славянафільскіх поглядаў: саборнасць, народнасць і самадзяржаўе (дзяржаўнасць).

Аўтар у пэўнай ступені ідэалізуе славянскія народы, бачыць у іх вобразе жыцця шлях маральнага прагрэсу. Ён абапіраецца ў першую чаргу на сялянства. Служэнне ідэі народнасці ёсць служэнне агульначалавечай справе, свабоднай ад вузкага нацыяналізму. Ён адмаўляе грубую сілу манархіі азіяцкага дэспатызму, у якой няма месца законнасці.

Як чалавек глыбока веруючы, ісцінны прыхільнік праваслаўя, вучоны ўсяляк абараняў непахіснасць царкоўных канонаў. Аднак царкву як сістэму, інстытут, іерархію ён крытыкаваў, патрабаваў рэформаў царкоўнага жыцця. Ён адмаўляў духавенству ў праве ўдзельнічаць у палітычным жыцці краіны, бо «тактыка, прыёмы барацьбы партыі будуюцца часта на пачатках, далёка не хрысціянскіх».

У сваіх працах Уладзімір Завітневіч асабліва ўважлівы да трагічных старонак мінулага, «смутных» часоў. Яго характарыстыку Івана Грознага — «аўтакрат у духу візантыйскага абсалютызму, азіяцкі дэспат у духу татарскага ваяводства» — можна расцэньваць і як грознае прадбачанне таго, што адбывалася ў 1930-я гады.

Ён крытычна ставіцца да працэсу адасаблення расійскай інтэлігенцыі, да разрыву паміж чыноўніцкім класам і народам. Не абыходзіць праблемы уніі, раскольніцтва, візантыйскага ўплыву і інш. Рэзка выступае супраць вольнага абыходжання з гістарычнымі фактамі, іх фальсіфікацыі.

Бясспрэчна, асоба нашага земляка Уладзіміра Завітневіча вартая ўвагі і павагі, а яго спадчына чакае грунтоўнага вывучэння.

## Цікава ведаць

# Вышываюць абразы

У філіяле Бярозаўскага гісторыка-краязнаўчага музея — «Галерэі мастацтваў» — адкрылася выстаўка работ наведвальнікаў Нядзельнай школы «Творчы падарунак дзяцей 1025-годдзю Хрышчэння Русі». Прадстаўленыя экспанаты выкананы ў рознай тэхніцы: вышыўка крыжыкам і бісерам, роспіс па дрэве, пляценне і інкрустацыя саломкай, лепка з гліны і цеста.

Большая частка вырабаў прысвечана галоўным праваслаўным святам — Раству Хрыстову і Вялікадню. Дзеці праявілі фантазію. Напрыклад, сцены пячоры, дзе нарадзіўся Ісус Хрыстос, зроблены з кардону, тканіны, пенапласту, мантажнай пены, грэцкіх арэхаў і нават ракавінак. Вучні старанна распісалі велікодныя яйкі, вышылі абразы з лікамі Хрыста, Божай Маці, Святога Мікалая і інш.

Захапленне выклікаюць у наведвальнікаў праваслаўныя храмы, створаныя не толькі з дрэва і пластмасы, але і выкладзеныя са звычайных запалак.

**Міра ІЎКОВІЧ**

## Музейны ўнікат

# Модная блузка з… парашута

Нядаўна фонды Добрушскага раённага краязнаўчага музея папоўніліся цікавым экспанатам — блузкай з парашутнага шоўку. Яе не зусім звычайная гісторыя звязана з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны. А належаў гэты прадмет дамскага гардэробу жыхарцы горада Кацярыне Касарыгінай.

**Таццяна КІРЫКАВА**

Кацярына Мікалаеўна нарадзілася на Смаленшчыне, у старажытным Дарагабужы. Падчас вайны тут размяшчаўся ваенны аэрадром. З дабротнай і якаснай тканіны парашутаў, якія прыйшлі ў нягоднасць, прадпрымальныя жанчыны шылі сабе ўборы. Жаданне апранацца прыгожа і модна не маглі адмяніць ніякія катаклізмы. Блузка дзякуючы ўмелым рукам Кацінай маці — Ганны Яфімаўны — атрымалася цудоўная. Кацярыне Мікалаеўне, якая глядзіць на нас з фотаздымка, зробленага ў 1946 г. у Маскве падчас паездкі ў госці да сваякоў, споўнілася 22 гады. Дзяўчына — сапраўдная прыгажуня, элегантная, зграбная.

У наш горад Кацярына Мікалаеўна прыехала разам з мужам. Аляксей Касарыгін нейкі час быў старшынёй Добрушкага райвыканкама. У Добрушы жанчына пражыла больш як паўстагоддзя і лічыць яго сваёй другой радзімай. Цяпер, на жаль, яна адна — муж даўно пайшоў з жыцця. Сёлета жанчыне споўніцца 90 гадоў. За плячыма — маладосць, шчаслівае жыццё з каханым, адказная работа галоўнага бухгалтара… А дарагую сэрцу блузку яна падарыла музею.



# І алавяныя салдацікі — байцы

Аляксандр Апановіч, член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, аўтар кніг і артыкулаў пра мінулае, з дзяцінства захапляецца даўнінай.
Пачынаў з вырабу алавяных салдацікаў і вайсковага рыштунку Сярэднявечча. Рэканструкцыя — адно з галоўных яго захапленняў.



Бацька Аляксандра працаваў у ліцейным цэху радыятарнага завода ў Мінску, іншы раз браў з сабой і сына. Хлопчык з захапленнем назіраў за рухам ваганетак, напоўненых расплаўленым металам. Зачароўвала яго і зброя. Можа, спрацоўвалі гены.

— Мой дзядуля па маці, палкоўнік, ваяваў на Каўказе, камандаваў артылерыйскай батарэяй, удзельнічаў у баях супраць танкаў Клейста, — распавёў Аляксандр. — А прадзед па бацьку браў удзел у руска-японскай і Першай сусветнай войнах.

Цікавасць да мінуўшчыны прывяла юнака на гістарычны факультэт. Захапіўся разборам баявых аперацый славутых палкаводцаў. Вызначыўся і больш канкрэтны ўхіл: як уплывалі на перамогу зброя, амуніцыя, рыштунак?

У 90-я гады мінулага стагоддзя яго публікацыі пра цікавыя моманты антычнасці, славянскага і скандынаўскага Сярэднявечча з'яўляліся ледзь не ў кожным нумары часопіса «Першацвет», маскоўскім выданні «Одиссей», піцерскім «Парабеллум». Дарэчы, у Маскве нават выйшла яго кніга «Паходжанне рымскага мяча Гладыус», праўда, невялікім накладам.

Цяпер Аляксандр дапісвае вялікі твор па падзеях VII — XI стагоддзяў у нашых мясцінах «Варагі на Белай Русі». А як у гэтай справе без рэканструкцыі, без разумення магчымасцей скандынаўскіх воінаўгандляроў! Вось і пляце кальчугі, клеіць шчыты, увасабляе знешнасць старажытных воінаў у волаве. Калі ў лютым ладзілася ў Трацецкім прадмесці выстаўка «Мужчына. Рыцар. Воін», прымеркаваная да Дня абаронцаў Айчыны, у экспазіцыі былі і вырабы Аляксандра. Можна назваць гэта дзіцячым захапленнем дарослага чалавека, усё ж першыя адліўкі з волава зрабіў у 11 гадоў. Аднак ювелірная прапрацоўка кожнай дэталі сведчыць пра досвед і грунтоўнае веданне старажытнай зброі.

— Тэхналогія мініяцюрнай скульптуры мяняецца пастаянна, — заначае майстар. — Пэўны час я ляпіў фігуркі з пластыліну, але яны недаўгавечныя. Вырабляў і з парафіну. У 1980-х з'явілася рыжская пластыка, майстраваў з яе, затым запякаў у духоўцы. Пазней амерыканцы вынайшлі двухкампанентную скульптурную гліну «міліпут». Праз гадзіну-паўтары яна застывае і лёгка апрацоўваецца. Ды і фармоўка ідзе больш якасна і хутка. Цяпер замест гіпсу выкарыстоўваю амерыканскую каўчукавую гуму.

А чаму ўжывае для фігурак волава? Ды з гэтага металу яшчэ ў Старажытнай Грэцыі выраблялі маленькіх воінаў, каб дарыць іх багам. Так што гэта шматвяковая традыцыя.

Працэс вырабу амуніцыі старажытнага воіна вельмі складаны, але захапляльны. Рыхтуючыся да рэканструкцыі, Аляксандр наведвае музеі, перагортвае шмат кніг і альбомаў з выявамі ваенных рэліквій, вылічвае памеры, вагу, падбірае адпаведныя матэрыялы. Для дасцехаў патрэбны сталь розных гатункаў, бронза, латунь, скура, дрэва, фарбы, лакі і інш. Калі заканчваецца падрыхтоўчы перыяд, а ідэя «саспела», падбіраюцца розныя інструменты, металаапрацоўчыя станкі. У даўнія часіны не было зварачных апаратаў, але ж яны эканомяць рабочы час, замяняючы кавальскую зварку. Заўсёды дарэчы маленькі горн і цыгель для ліцця.

Жыццё майстра насычана падзеямі. З выстаўкі «Свет захопленых» у Санкт-Пецярбургу Аляксандр Апановіч прывёз дыплом за першае месца сярод майстроў краін СНД у намінацыі «Апрацоўка металу» (2011). Летась была персанальная выстаўка ў Мемарыяльным музеі К. Заслонава «Поле грознай сечы». Браў удзел у шматлікіх фестывалях: «Спадчына вякоў» у Міры, «Грунвальд» у Польшчы, «Часіны і эпохі» ў Маскве, «Рыцарскі замак» у Выбаргу... Пад яго кіраўніцтвам прайшоў першы беларускі фестываль рэканструкцыі антычнай гісторыі «NOVA CASTRA». На працягу двух маленькіх дзён у вёсцы Новы Двор пад Мінскам дэманстравалі сваё ваеннае майстэрства госці з Беларусі і Расіі.

Аляксандр Апановіч лічыць, што антычныя фестывалі могуць быць цікавыя для моладзі. Пагружэнне ў старажытнасць, на яго думку, захапляе нават больш, чым камп'ютарная гульня.

**Ігар МАТЭЛЕНАК, фота аўтара**

# Час выбраў іх, самаахвярных

У новым рамане Мікалая Чаргінца «Аперацыя “Кроў”» расказваецца ў тым ліку і пра вызваленне насельнікаў так званага «Сёмкавага прытулку». Мне пашчасціла сустрэцца з былой партызанкай Марыяй Міхайлаўнай Фёдаравай, якая добра ведае пра гэтую бліскучую аперацыю, праведзеную партызанамі.

## КАМСАМОЛКА, СУВЯЗНАЯ, ПАРТЫЗАНКА

Гледзячы на Марыю Міхайлаўну, аніяк не скажаш, што праз месяц ёй споўніцца 90 гадоў. Амаль усё, што здарылася ў яе жыцці, памятае да драбніц. Апісвае падзеі так, быццам гэта было ўчора…

Калі пачалася вайна, маладой дзяўчыне і камсамолцы Марыі не споўнілася і васямнаццаці. 24 чэрвеня яна яшчэ здавала апошні экзамен у Мінскім педвучылішчы. А праз чатыры дні ў горад увайшлі немцы. У той жа дзень, пад вечар, накіравалася пехатою, пазбягаючы вялікіх дарог, дамоў, у вёску Рэўкуцьевічы, якая размясцілася ажно за Заслаўем.

— На наступны дзень раніцою наблізілася да роднай сядзібы. Бацька — на фронце. Маці ж вельмі ўзрадавалася, што я вярнулася, — распавяла жанчына. — Якраз у гэты час савецкі самалёт бамбіў Маладзечна, але дзве варожыя машыны акружылі яго. Бачым: наш самалёт, палаючы, упаў за вёскаю. Хуценька падняўшыся на гарышча, прыкмеціла, што спускаецца парашут. На наступны дзень рушыла туды. Як потым высветлілася, двое членаў экіпажа бамбардзіроўшчыка ўратаваліся: Дзмітрый Янаў, стралок, і камандзір экіпажа — Уладзімір Сашыхін. Першага падабраў мясцовы жыхар Кандрат і схаваў у хляве. А другога адна з вясковых жанчын пераапранула ў цывільнае адзенне, і ён змог дабрацца амаль да Курска, да сваёй авіябазы, адкуль і прыляцелі бамбіць. Дзмітрый быў цяжка паранены, вяскоўцы ўсе разам ратавалі яго, не думаючы пра небяспеку для сябе і сваіх сем’яў. Два члены экіпажа — Дворнік і Зуеў — загінулі. У мірны час іх рэшткі перахавалі ў Мінску. Пасля вайны Сашыхін і Янаў прыязджалі да мяне ў госці. Першы ўспамінаў, што, калі дабраўся дамоў, жонка прыняла яго за жабрака.

Марыя Міхайлаўна расказала, што ў самым пачатку акупацыі настаўнікі мясцовай школы-сямігодкі стварылі ў Рэўкуцьевічах падпольную арганізацыю. Кіраваў мужнымі змагарамі былы настаўнік Мікалай Дзядзюля, які потым і звязаў Марыю з партызанамі атрада «За Айчыну». Юныя патрыёты разумелі: каб змагацца з ворагам, патрэбна займець зброю. Па вёсках пайшла пагалоска, што на месцах баёў, якія прайшлі пад Заслаўем, шмат чаго засталося. Рушылі туды і знайшлі нямала вінтовак, якія да часу прыхавалі.

## ШРЫФТ ЯК ГЛЫТОК ВАДЫ

Дзесьці ў жніўні Марыя знайшла ў лесе газету «Праўда» за 3 ліпеня 1941 года з прамовай Сталіна. Хутчэй за ўсё, прэсу раскідваў савецкі самалёт. Дзяўчына прынесла газету Дзмітрыю Янаву, дык ён параіў перапісваць ад рукі тэкст прамовы, але браць толькі галоўнае, і распаўсюджваць лістоўкі, асабліва ў Мінску.

— У 1942-м атрымала пасведчанне, што з’яўляюся сувязной партызан, — прадаўжае ветэран. — Але ў лес трапіла толькі ў 43-м. Я і далей была б сувязной, але падчас вялікай блакады немцы хапалі моладзь і адпраўлялі на працу ў Германію. Мяне забралі ў атрад, прыняла прысягу, удзельнічала ў баі. Узялі быццам бы ненадоўга, але назад вяртацца ўжо было нельга. Хто-небудзь мог данесці немцам.

Неяк да дзяўчыны падышоў Мікалай Дзядзюля і папрасіў: «Машачка, можа, ты наладзіш з кім-небудзь сувязь у Мінску? Вельмі патрэбны шрыфт». І тады яна ўспомніла пра далёкую сваячку Надзею Пуцейка, родам з яе вёскі, якая працавала ў нямецкай друкарні, а да вайны — у рэдакцыі газеты «Звязда». На прапанову партызанкі тая з гатоўнасцю адказала: «Добра, буду пакрыху выносіць».

— Здаецца, разы чатыры хадзіла ў Мінск па шрыфт, — успамінае Марыя Міхайлаўна. — Потым Надзею Канстанцінаўну схапілі немцы і закатавалі. У той дзень я якраз не прыйшла па шрыфт. Як даведаліся пасля, мая сваячка паралельна з намі трымала сувязь з іншым партызанскім атрадам і перапраўляла ў лес ваеннапалонных, якія ўцякалі з лагера. Хадзілі чуткі, што суседка «падказала» ворагам, чым яна займаецца. Немцы прыехалі да яе дамоў, а ў хаце якраз быў ваеннапалонны. Звычайна Надзея Канстанцінаўна паведамляла праз майго роднага дзядзьку, які жыў у Мінску, калі забіраць шрыфт. Бывала, што ён забіраў «пасылку» сам, а я прыходзіла ўжо да яго дамоў. Разам з дзядзькам мы і лістоўкі з паведамленнямі Інфармбюро расклейвалі. Немцы распаўсюджвалі адну інфармацыю, а мы — другую. Адзін раз нас ледзьве не схапілі ў цэнтры Мінска. Выратавала тое, што да вайны я жыла ў інтэрнаце па вуліцы Карла Маркса і добра ведала ўсе хады-выхады.



Марыя Фёдарава.

## ПЕРШАЯ БУЛЬБІНА — ПРЫЁМНАМУ СЫНУ

Падчас вайны прыкладна за тры кіламетры ад сённяшняй МКАД знаходзіўся так званы «Сёмкаў прытулак».

— Адзін наш доктар працаваў у ім і няблага разумеў мову акупантаў, але маўчаў пра гэта, — расказвае далей Марыя Міхайлаўна. — На жаль, ужо не памятаю яго прозвішча. Аднойчы ён пачуў, як старэйшы па званні немец паведаміў другому пра падрыхтоўку спецыяльнай аперацыі. Адным словам, ворагі планавалі ўзяць ва ўсіх дзяцей кроў і адправіць іх на знішчэнне ў лагер смерці «Трасцянец». Пра гэта ўрач паведаміў камандаванню партызанаў. Ішоў люты 1944 года. Камісар брыгады «Штурмавая» Ілья Фёдараў прапанаваў неадкладна рыхтаваць аперацыю па вызваленні дзяцей. Хаця камандзір партызанскага злучэння быў супраць, маўляў, у Мінску столькі войска: і людзей пакладзём, і нічога не зробім. Тады Ілья Мартынавіч сабраў камандзіраў і камісараў усіх атрадаў, якія ўваходзілі ў брыгаду, на нараду. Партызаны вырашылі апярэдзіць немцаў і адвялі тыдзень на падрыхтоўку складанай аперацыі. Камандзір Мінскага партызанскага аб’яднання (пасля — Герой Савецкага Саюза) Раман Мачульскі аддаў загад забяспечыць народных мсціўцаў зброяй, патронамі і парашутамі, з якіх пашылі маскхалаты для людзей і накідкі для коней. У аперацыі ўдзельнічала пяць атрадаў. Пад покрывам ночы і снегу каля 200 народных мсціўцаў на 60 вазах рушылі ратаваць дзяцей. Яшчэ некалькі груп партызан з усіх бакоў прыкрывалі ўдзельнікаў аперацыі.

Ноччу прыехалі ў прытулак, дзе знаходзілася 276 хлопчыкаў і дзяўчынак. Каб дзеці не пужаліся і хутка збіраліся, ім сказалі, што адправяць у Маскву. Старэйшыя з іх хадзілі па вёсках і пабіраліся, каб выжыць. Партызаны брыгады намагаліся ўберагчы іх ад галоднай смерці, таму неаднаразова ўпотай прывозілі прадукты. Сюды трапіла і дзяўчынка-яўрэйка. Як толькі немцы з’яўляліся, яна залазіла ў канапу, а дзеці сядалі паверх і не падавалі выгляду, што хаваюць сяброўку, бо добра разумелі, што з ёю распраўляцца ў першую чаргу.

Знаходзіўся ў прытулку і хлопчык з Аўстрыі, які да вайны адпачываў у санаторыі пад Баранавічамі. Пасля, калі размеркавалі дзяцей па вёсках, ён жыў у Лагойскім раёне ў жанчыны, якая адна (муж быў на фронце) гадавала трох сыноў. Дык першую бульбіну яна заўсёды аддавала аўстрыйскаму хлопчыку. Пра гэта ён распавёў пазней, калі прыязджаў пасля вайны ў Беларусь. І быў вельмі ўдзячны простай беларускай жанчыне за спагаду і ахвярнасць. Марыя непасрэдна ў аперацыі не ўдзельнічала, але менавіта ёй было даручана размеркаваць разам з Верай Вітушка дзяцей з прытулку па бліжэйшых вёсках. Ніхто не адмовіў! І ўсе насельнікі «Сёмкавага прытулку» выжылі.

## СЯМ’Я

У партызанах Марыя Міхайлаўна пазнаёмілася з будучым мужам — Ільёй Фёдаравым, камісарам брыгады «Штурмавая», якога мы ўжо згадвалі ў сувязі з аперацыяй па вызваленні дзяцей. Хаця ні пра якую сям’ю яны не думалі. Трэба з ворагам змагацца, а не кахаць — так многія ў той час разважалі.

Ілья Мартынавіч атрымаў баявое хрышчэнне яшчэ ў фінскую вайну, быў цяжка паранены ў нагу. Калі немцы напалі на Савецкі Саюз, былы фізік-матэматык служыў пагранічнікам у Гродзенскай вобласці. У першы дзень вайны падбіў са сваімі байцамі тры варожыя танкі і быў прадстаўлены да ордэна Чырвонай Зоркі (атрымаў яго пасля вайны, як, дарэчы, і ордэны Леніна, Баявога Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны І ступені і шмат медалёў). Але скончыліся боепрыпасы. Склады знаходзіліся ў Лідзе, а там ужо немцы. З акружэння выходзілі групамі, дайшлі да ракі Бярэзіна і натыкнуліся на ворагаў. У няроўным баі зноў быў цяжка паранены ў тую ж нагу.




Партызанскае пасведчанне.

— Прыкмеціўшы, што перад імі камандзір, немцы, не зважаючы на тое, што ён паранены, збілі яго да паўсмерці, — заўважае жанчына. — Апынуўся ў палоне. Трымалі зняволеных за калючым дротам прама ў полі непадалёк ад Мінска, пад Драздамі. Наш доктар дапамог майму мужу падлячыць рану. Ілья Мартынавіч разумеў: у такіх умовах яны ўсе загінуць. Таму параіў доктару сказаць, што, калі вязні тут застануцца, пачнецца тыф. Будзе дрэнна ўсім. У хуткім часе ваеннапалонных перагналі ў Масюкоўшчыну і размясцілі ў бараках. Тут Фёдараў сышоўся з Кудрыным, вырашылі разам бегчы. Надышоў 1942 год. Немцы не чакалі такіх моцных маразоў і вельмі ад іх пакутавалі. У адзін з зімовых дзён адправілі ваеннапалонных, сярод якіх былі і два сябрукі, па трубы для ацяплення ў дом адпачынку «Ждановічы». Фёдараў і Кудрын прыкінулі, што гэта адзіны шанс уцячы. У наступны раз змаглі некалькімі групамі вырвацца на волю. Ілья Мартынавіч і яго таварыш Барысаў заблукалі, зноў і зноў траплялі на дарогу, якая вяла ў Мінск. На шчасце, ехаў на санях мужык з дзвюма жанчынамі, яны іх і падабралі, схавалі ў сене. А праз некалькі хвілін паказаліся немцы, якія нікога не заўважылі.

Калі гаспадар каня запытаўся ва ўцекачоў, куды ж яны кіруюцца, тыя з гатоўнасцю адказалі: «Да Чырвонай арміі!» і даведаліся, што нашы войскі далёка, а ў лесе дзейнічаюць партызаны. Мужчына нават падказаў, да каго ад яго імя можна звярнуцца па дапамогу, каб трапіць у атрад.

## МІРНАЕ ЖЫЦЦЁ

Марыя Фёдарава — удзельніца знакамітага парада партызан у вызваленым ад немцаў Мінску, які адбыўся 16 ліпеня 1944 года. Удзел у ім бралі больш як 30 тысяч чалавек. Ілью Фёдарава, якога падчас вызвалення Мінска трэці раз параніла ў нагу, адправілі самалётам на Вялікую зямлю.

— Ілья Мартынавіч не ведаў пра мой лёс, — расказвае жанчына. — У апошнім, вельмі цяжкім баі я кінула куртку, і хтосьці палічыў, што загінула. Паведамілі пра гэта мужу. Але ён не паверыў і, каб даведацца пра мяне, зрабіў запыт у Заслаўскі райкам партыі. І знайшоў! Пасля прыезду ў Мінск выпадкова сустрэўся са старшынёй Мінскага аблвыканкама Раманам Навумавічам Мачульскім, які прапанаваў майму мужу стаць яго памочнікам. Доўгі час Ілья Фёдараў, заслужаны настаўнік БССР, быў яшчэ і парторгам аблвыканкама, потым намеснікам загадчыка абласнога аддзела адукацыі. На пенсію пайшоў з пасады дырэктара Інстытута ўдасканальвання настаўнікаў.

Марыя Міхайлаўна марыла працаваць у школе, але падчас блакады, калі давялося падоўгу хавацца ад немцаў у балоце, бо ваяваць ужо не было чым (варожыя самалёты не дазвалялі нашым скінуць зброю партызанам), прастудзілася — рукі балелі так, што нават распісацца нармальна не магла.

— Вельмі перажывала з-за гэтага, бо любіла працаваць з дзецьмі, якраз перад вайною паспяхова прайшла практыку ў 5-й сталічнай школе, — дзеліцца ўспамінамі былая партызанка. — Адзін дасведчаны хірург, паглядзеўшы на мае рукі, сказаў, што дапамога толькі… вязанне. Пайшла на курсы ў Цэнтральны Дом афіцэраў. Потым уладкавалася вязальшчыцай на Мінскую швейна-трыкатажную фабрыку. Калі пачалі асвойваць вязальныя апараты, на той час вельмі рэдкія, з’ездзіла ў сваю вёску і прывезла калаўрот, каб зручней было круціць ніткі для машынкі. Да самай пенсіі працавала ў атэлье ад фабрыкі. Марыя Міхайлаўна часта выступала перад рознымі аўдыторыямі з распаведамі пра барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, гераізм народных мсціўцаў, падтрымлівае пастаянную сувязь з вучнямі і настаўнікамі 6-й, 8-й і 15-й сталічных гімназій.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

# Нас чакае філармонія!

10 верасня ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылося адкрыццё 76-га канцэртнага сезона. Па традыцыі яго распачаў адзін з вядучых калектываў — Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Аляксандра Анісімава. У канцэртнай праграме прагучалі шэдэўры сусветнай класікі: сярод іх твор, які нязменна займае адно з першых месцаў у рэпертуары аркестраў усяго свету і з'яўляецца адным з самых папулярных сярод меламанаў — Сімфонія № 41 «Юпітэр» В. А. Моцарта. У праграме вечара таксама прагучаў канцэрт І. Брамса для скрыпкі з аркестрам (саліст — Аліўе Шарль, Францыя).

Яркімі падзеямі новага сезона стануць фестывалі і конкурсы.

2 — 12 кастрычніка — VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета, у якім возьмуць удзел сусветна вядомыя музыкі — піяніст Мікалай Луганскі, скрыпач Максім Венгераў, а таксама камерны аркестр «Салісты Масквы». Унікальнай падзеяй стане 4 кастрычніка канцэрт у гонар 80-годдзя Кшыштафа Пэндэрэцкага з удзелам кампазітара Валерыя Воранава «Архітэктон» для 4-х на тэксты Веліміра Хлебнікава. 8 кастрычніка на сцэне філармоніі выступяць лаўрэаты Міжнароднага конкурсу імя П. Чайкоўскага віяланчэлісты Раман Гарыу, Аляксандр Бузлоў, Тацяна Самуіл (скрыпка), Аляксей Чарноў (фартэпіяна).



З 5 кастрычніка па 3 лістапада адбудзецца XXXIX Міжнародны фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень», у якім возьмуць удзел Андрэй Паначэўны (Беларусь — ЗША), Лілія Уманава і Цімур Сяргеевіч (Беларусь — Бельгія), Віталь Стахіевіч (Беларусь — Галандыя), расійскі піяніст Яўген Міхайлаў, фальклорны калектыў з Польшчы «Прымакі» (сумесны праект з фальклорнай групай «Купалінка»), літоўскі ансамбль «Subtilu-Z». Адбудзецца джазавы фартэпіянны канцэрт вядомага польскага музыканта Уладка Паўліка. 1 лістапада — сумесны творчы вечар Ігара Лучанка і Эдуарда Ханка. Новыя канцэртныя праграмы прадставіць ансамбль салістаў «Класік-авангард».

У лістападзе пройдуць Дні культуры Расіі з удзелам Вялікага сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам Уладзіміра Федасеева, III Міжнародны конкурс выканаўцаў на струнных смычковых інструментах імя М. Ельскага.

Шэраг святочных мерапрыемстваў, прысвечаных 80-годдзю Беларускага саюза кампазітараў, чакаецца ў снежні. У лютым запланаваны III Міжнародны фестываль «Уладзімір Співакоў запрашае» (чакаецца прыезд знакамітага піяніста Аркадзя Валадося, канцэрт салістаў Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра «Новая Расія» і салістаў Марыінскага тэатра).

76-ы філарманічны сезон багаты на юбілейныя даты.

85-годдзе адзначае Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь (святочны канцэрт адбудзецца 26 верасня), 26 кастрычніка пройдзе юбілейны канцэрт Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь, 10-годдзе адзначыць ансамбль салістаў пад кіраўніцтвам Ігара Іванова, у лютым 40-гадовы юбілей адсвяткуе Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль «Харошкі».

Свой творчы юбілей адзначыць саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, арганіст Канстанцін Шараў. Запланаваны канцэрт у гонар 75-годдзя прафесара Эдуарда Кучынскага (скрыпка).

Вясна сустрэне нас цыклам канцэртаў «Мінская вясна», у межах якога пройдзе фестываль фартэпіянных дуэтаў «Дуэцісіма» з удзелам піяністаў з некалькіх краін. У новым сезоне будуць працягваць традыцыйныя «Джазавыя вечары філармоніі», «Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва» з удзелам музыкаў з розных краін.

4 снежня пры падтрымцы Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь ладзіцца эстрадны канцэрт з удзелам вядомай спявачкі з Парыжа Кларыкі. У сакавіку 2014 года пройдуць 4 канцэрты цыкла «Шлягеры на ўсе часы», якія рыхтуе Нацыянальны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Юных слухачоў філармонія запрашае на канцэрты абанементаў і дзіцячыя навагоднія спектаклі.

**Таццяна ШЫМУК**

## «Палітра» лечыць

Выставачна-тэатральны праект «Студыя Палітра» прадстаўлены ў малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва.

Творчая рэабілітацыйная студыя «Палітра» працуе ўжо 10 год. На занятках можна не толькі цікава праводзіць вольны час, але і наладжваць зносіны людзям з абмежаванымі магчымасцямі. Мэта студыі — рэабілітацыя праз мастацтва. Як пацвярджае 10-гадовая практыка, праграма, распрацаваная кіраўніком Галінай Кучарэнка, дае добрыя вынікі. Цэнтрам тут з'яўляецца студыя выяўленчага мастацтва, дзе арт-тэрапія суседнічае з асновамі малюнка. Студыйцы наведваюць музеі, выстаўкі, вывучаюць напрамкі сусветнага жывапісу, знаёмяцца з агульнапрызнанымі шэдэўрамі. Гэта фарміруе густ, дапамагае адчуваць прыгажосць. «У работах з нашай выстаўкі ёсць жыццё, да якога, здаецца, вось-вось дакранешся. Нібыта сам аўтар выходзіць да гледача», — лічыць Галіна Кучарэнка.

Выстаўка дэманструе і тэатр. Сапраўдны, са сцэнарыямі, касцюмамі, дэкарацыямі. На мінулым тыдні ў музеі прайшлі спектаклі «Снежная каралева» і «Папялушка». Акрамя тэатра і выяўленчага мастацтва «Палітра» арганізуе заняткі па прыродатэрапіі, танцах, распрацавала ўласны аздараўленчы комплекс па пластыцы рухаў.

Падыход да кожнага выключна індывідуальны: людзі звяртаюцца сюды на розных этапах свайго жыцця, розным стане здароўя.

У Беларусі аналагаў «Палітры» пакуль няма. Аднак добрыя пачынанні не павінны застацца незаўважанымі.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Арган перайшоў на «лічбу»

Белдзяржфілармонія на мінулым тыдні прадставіла адрэстаўраваны арган. Новыя магчымасці «караля інструментаў» прадэманстравалі напярэдадні адкрыцця 76-га сезона.

Цяпер адзін з найбуйнейшых арганаў Еўропы абсталяваны электроннай сістэмай. Спецыяльна для інструмента быў замоўлены новы пульт — гэта дазволіла адмовіцца ад правадоў і стварыць кампактную сістэму кіравання. Арган атрымаў дадатковае абсталяванне, якое дазволіць запісваць і праслухоўваць ігру арганіста. «Галоўнае, што кожную рэгістроўку музыкант зможа захаваць у памяці камп'ютара. І такіх ячэек памяці для аднаго арганіста — тысяча! — распавёў народны артыст Беларусі, саліст Белдзяржфілармоніі Ігар Алоўнікаў. — Дзякуючы пераходу на «лічбу» стала прасцей працаваць з рэгістрамі. Арган мае каля тысячы розных камбінацый, спалучэнняў розных тэмбраў, гукаў. Цяпер націскам адной кнопкі арганіст мяняе ўсю рэгістроўку ў тым напрамку, у якім запраграмаваў...»

Адрэстаўравалі арган за два месяцы. Акрамя ўстаноўкі новага пульта спецыялісты прывялі ў парадак унутраную механічную частку інструмента: перабралі трубы, сістэму ўключэння-выключэння галасоў. Наяўнасць сучаснага абсталявання паглыбіла сцэнічную пляцоўку, вызваліла прастору для сімфанічнага аркестра і харавых станкоў. Такім чынам у філармоніі з'явілася магчымасць прымаць вялікія творчыя калектывы.

Для правядзення аднаўленчых работ было выдзелена каля 850 млн. рублёў. «На адкрыццё новага сезона мы атрымалі ад дзяржавы падарунак. Нямецкая кампанія, якая выйграла тэндар на правядзенне работ, замяніла пульт кіравання, а таксама паправіла тры з пяці мануалаў (клавіятур). Два мануалы з самымі маленькімі трубачкамі засталіся на наступнае лета», — паведаміў мастацкі кіраўнік Белдзяржфілармоніі заслужаны артыст Беларусі Юрый Гільдзюк.

Арган чэшскай фірмы *Rieger-Kloss* упершыню загучаў у канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі ў 1963 годзе. Сёння гэты інструмент — адзін з галоўных музычных сімвалаў Белдзяржфілармоніі: яго сярэбраныя трубы ўпрыгожваюць эмблему ўстановы.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

## Парад аркестраў

Студэнцкі сімфанічны аркестр Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі 19 верасня ўзяў удзел у праекце «Парад сімфанічных аркестраў кансерваторый дзяржаў-удзельніц СНД». «Гэты ўнікальны праект звязаны з трыма буйнымі мерапрыемствамі. Першае — выступленне нашага студэнцкага аркестра, якое стала падарункам да юбілею кансерваторыі імя П. І. Чайкоўскага. Другое — сам парад сімфанічных аркестраў, а трэцяе — форум усіх рэктараў кансерваторый краін СНД, які адбудзецца ў Мінску з 23 па 28 верасня», — паведаміла рэктар акадэміі і доктар мастацтвазнаўства Кацярына Дулава.

Падрыхтоўкай студэнцкага сімфанічнага аркестра займаюцца мастацкі кіраўнік і дырыжор Аляксандр Анісімаў. «Рэктар акадэміі прапанавала мне ўзначаліць аркестравыя заняткі з моладдзю. Я ўводзіў іх у свет аркестравай «кухні», — прызнаўся Аляксандр Міхайлавіч. — Цяпер — Масква, прычым у найлепшай зале сусветнай сімфанічнай музыкі!»

У склад аркестра ўвайшлі студэнты з першага па пяты курс, аспіранты і выпускнікі акадэміі — маладыя музыканты. У якасці салістаў выступілі лаўрэаты міжнародных конкурсаў Вераніка Прадзед (цымбалы) і Арцём Шышкоў (скрыпка).

**Таццяна ШЫМУК**

# Мультпанарама

У Музеі гісторыі беларускага кіно адбылася прэзентацыя этапнага праекта «Беларуская мультпанарама. 40 гадоў на экране». Гісторыя беларускіх мультфільмаў пачынаецца з 1972 года, і ў сценах музея час як быццам павярочвае назад. Але ў гэтай гісторыі шмат белых плям: многія анімацыйныя стужкі 70-х і 80-х гадоў мінулага стагоддзя не захаваліся.

— Каб праект адбыўся, мы разам з нацыянальнай кінастудыяй «Беларусьфільм» і Дзяржынскім дзяржаўным архівам кінафотафонадакументаў некалькі гадоў шукалі за межамі Беларусі каля трыццаці фільмаў, — распавядае дырэктар музея гісторыі беларускага кіно Ігар Аўдзееў. — Больш як 170 фільмаў рознай тэхнікі, тэматыкі і працягласці зроблена за апошнія сорак гадоў. Мы будзем прэзентаваць іх у храналагічнай паслядоўнасці, разбіўшы на часткі. Кожны месяц — новая частка. Такім чынам уключым у сучасны культурны кантэкст амаль усе нашы анімацыйныя стужкі. Першая падборка з дзесяці фільмаў была адрасавана дзецям, але анімацыйнае мастацтва ўніверсальнае — яно падабаецца і дарослым: першы прагляд меў аншлаг! Свята пачатку праграмы з намі раздзялілі піянеры беларускай анімацыі — рэжысёры Уладзімір Голікаў і Марта Лубянікава, якія ў 1972 годзе зрабілі першыя стужкі.

Ці зразумелыя стужкі сённяшняму гледачу? Той факт, што пасля кожнай у зале гучалі апладысменты, пацвярджае: мультфільмы жывуць! І гэта толькі першы этап па адраджэнні анімацыйнай спадчыны. Наступны — аднаўленне сабраных стужак у іх першасным тэхнічным стане. Анансуючы гэты намер мы ўжо паказалі фільм «Няўдачнік» у абноўленым выглядзе. Апошні варыянт выглядае больш эстэтычна і эфектна, чым той, што праляжаў сорак гадоў на паліцы. Гэты праект мы завяршым сучаснымі стужкамі, — зацікавіў Ігар Аўдзееў.

Сёння ў кожнага ёсць магчымасць пазнаёміцца з этапамі станаўлення беларускай анімацыі, яе разнастайнасцю, сутнасцю пошукаў аніматараў і асаблівасцямі іх творчай манеры. У планах музея — выпуск анімацыйнага архіва на DVD.

**Алена ЛЯЎШЭНЯ**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Наклад — 2637
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 19.09.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3910
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
13037